**Ад рэдакцыі**

*Жыццё закон нязломны мае:*
*Ніколі праўда не ўмірае.*
*Адно хоць зернетка малое*
*ды застанецца пра былое.*
*Ні на пяску, ні на камені*
*ушчэнт не выпетрае зерне:*
*узыдзе, ўсходы будуць з плёнам,*
*з адзінак вырастуць мільёны...*

Праўдзівасць гэтага прароцкага верша Уладзіміра Дубоўкі праверыла само жыццё ў XX стагоддзі. Не адзін Дубоўка прайшоў праз турмы. Паэт Сяргей Новік-Пяюн са Слонімшчыны быў пачаргова, з невялікімі перапынкамі, вязнем польскай турмы, нацысцкіх засценкаў і сталінскага ГУЛАГа. Але ўсё вытрымаў і памёр ужо ў незалежнай Беларусі, дажыўшы амаль да 90 гадоў.

Браніслаў Тарашкевіч у польскай турме пераклаў на беларускую мову «Іліяду» Гамера, а Пятро Бітэль у сталінскім ГУЛАГу стварыў класічную беларускамоўную версію «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча — пісаў патаемна на паперы ад мяхоў з-пад цэменту самаробным «алоўкам» з алавянага дроту, мачаючы яго ў зялёнку, вынесеную з медсанчасці знаёмым санітарам.

Кожны перажывае выпрабаванні лёсу па-свойму. Але нікому не лёгка. Гэта пацвярджаюць і біяграфіі вялікіх людзей. Сярод іх — Махатма — «вялікая душа» — Гандзі і Уладзіслаў Барташэўскі, пра якіх ў гэтым нумары пішуць кандыдат гістарычных навук Паўліна Скурко і беларус з Падляшша Тамаш Суліма.

Турма зрабіла вялізны ўплыў і на Якуба Коласа, які адбыў тры гады на «Валадарцы» (тады яна называлася «Пішчалаўскі замак») за ўдзел у несанкцыянаваным з'ездзе настаўнікаў. І для класіка той час не прайшоў марна: у камеры ён задумаў і пачаў свае несмяротныя «нацыятворчыя» паэмы — «Новую зямлю» і «Сымона-музыку». Пра «турэмныя ўніверсітэты» класіка ў гэтым нумары «Нашай гісторыі» піша Павел Каралёў.

**Наша Гісторыя**
4/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч). Фота з асабістай калекцыі Марыі Міцкевіч, унучкі Якуба Коласа.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах. Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы». Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 19.04.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0116/21.
Наклад 4500.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.












Тэлефон для кантакта ____________________

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ____________________

Дасланць на адрас 220004, Мінск, а/с 62
не пазней за апошні дзень месяца,
што папярэднічае месяцу, на які вы падпісваецеся.

46


19


57


96

**Падчас перватрусаў ён хаваў рукапісы за сваёй густой барадой і працаваў над «Новай зямлёй» і «Сымонам-музыкам», піша Павел Каралёў.**

*Дні мінаюць, дні праходзяць,*
*Летам змяніцца зіма,*
*А мы сохнем і марнеем,*
*Нам тут радасці няма...*

Гэта радкі з верша Коласа «У турме». Яго не праходзяць у школе, але Лявон Вольскі напісаў на яго моцную хард-рокавую песню.

Якуб Колас правёў за кратамі тры гады (1908–1911). Найлепшыя творы беларускага генія — «Новая зямля» і «Сымон-музыка» — таксама ствараліся ў мінскай каталажцы. Пазней, у аўтабіяграфічнай трылогіі «На ростанях», пісьменнік апіша турэмны побыт свайго героя, настаўніка Андрэя Лабановіча.

### Крымінальная справа

Канстанцін Міцкевіч — гэта, калі хто забыў, было сапраўднае імя Коласа, пачынаў сваю кар'еру настаўнікам. Летам 1906 года ён узяў удзел у нелегальным з'ездзе «народных вучыцялёў» Мінскай губерні, які прайшоў на беразе Нёмана. Пра з'езд дазналася царская паліцыя, і Кастусю Міцкевічу, як і іншым яго ўдзельнікам, забаранілі настаўнічаць. Паралельна пачалося следства — як бы сказалі цяпер, была заведзеная крымінальная справа.

Фармальнай прычынай крымінальнай справы была лістоўка, аўтарства якой было прыпісана Коласу. Яна заклікала да правядзення яшчэ больш прадстаўнічага з'езда ў канцы таго ж года. Гэта выклікала трывогу паліцыі. Напісаў тую ўлётку іншы настаўнік, па прозвішчы Жук, але паліцыя палічыла аўтарам Канстанціна Міцкевіча.

Каларытна апісана Максімам Лужаніным у кнізе «Колас расказвае пра сябе» (Мінск, 1964 год) застолле ў 1950-я гады, калі раптам падчас вечарыны адзін сябар кідае рэпліку: маўляў, Колас сядзеў па сваёй дурасці, бо чужую віну прыняў. Песняра гэтыя словы зачапілі, але віду ён не падаў, а пасля ўжо прыватна скажа Лужаніну: «А я так мяркую. Лепш тры гады ў турме адседзець, чым хвіліну на волі падлюгам быць. Што ж я мусіў зрабіць? Выказаць таварыша, на здраду пайсці?»

Судзілі Коласа ў будынку былога базыльянскага манастыра на Саборнай плошчы ў Мінску (цяпер плошча Свабоды, 23). Лістоўку следчыя органы двойчы адпраўлялі на экспертызу. Колас

**З'езд настаўнікаў Мінскай губерні**
адбыўся 9 ліпеня 1906 года ва ўрочышчы Прыстанька каля вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага павета. На ім гаварылі пра неабходнасць навучання дзяцей на беларускай мове і бясплатнага навучання ў пачатковых школах, пра бяспраўнае становішча народнага настаўніка ва ўмовах царскага рэжыму.

прыгадваў: «Першы раз эксперты далі патрэбныя суду весткі. Другі раз прызналі, што рука не мая». Гэта нікольні не засмуціла абвінаваўцаў: «Пракурор як усхопіцца! І давай: "З прычыны разыходжанняў ▶



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Прыстанька — былы рум.** Гэта тут, на высокім беразе Нёмана, праходзіў несанкцыянаваны з'езд настаўнікаў. Да гэтага месца, дзе добра медытуецца, можна дабраццаляснымі дарогамі і ад Мікалаеўшчыны, і ад Сверынава, але аўтамабілем толькі ў сухі сезон.



**Запатрабаваная пры ўсіх рэжымах.** Так мінская «Валадарка» выглядала ў 1941 годзе.

ФОТА СА ЗБОРАУ АУТАРА

«У Менску хадзіў у турму да Коласа. Помню, недзе пад Брэсцкім вакзалам, у завулку, драўляную турму, тыпу павятовай турмы, досыць патрыярхальную». Цікавыя былі ягоныя парады, як трымацца пры такіх сустрэчах: «Я шмат разоў адведваў людзей у турмах. Ніколі не трэба пытацца: як маешся? А найлепей што-небудзь вясёлае, анекдоты».

Верагодна, падчас гэтых сустрэч, хоць і пад наглядам стражнікаў, якія любілі слухаць анекдоты Уласава не менш за Коласа, паэту ўдавалася перадаваць свае вершы з астрога ў «Нашу Ніву».

▸ у поглядах экспертаў, гаспадара суддзі, патрабую Міцкевіча асудзіць". У іх усё было вырашана загадзя. Не ўдавалася пасадзіць за падабенства почырку, дык пасадзілі за разыходжанне паміж экспертамі. Ці саву аб пень, ці пнём аб саву».

Але пакуль ішоў працэс, Колас не быў на лаве падсудных і нават мог час ад часу выходзіць з залы. У перапынку паміж пасяджэннямі пайшоў гуляць па горадзе, падсілкаваўся. Мог нават ўцячы, але сам прызнаваўся: «Таварышаў судзяць, як жа я магу пакінуць іх?» Меркаваў, прысуд можа даць штуршок далейшаму настаўніцкаму руху. Развязка настала бліжэй да канца пасяджэння: «А тут прысуд, і Кабека, старшыня суда, загадвае ўзяць мяне пад варту. Акалодачны, смаркач, зусім зялёны, хоп мяне за рукаў. "Чаго ты скачаш, як певень? Не хапай, сам пайду", — помню сказаў і адапхнуў яго рукою».

### Якуб Колас пра лістоўкі

«Мы іх выпускалі саматужным спосабам, ад рукі... Рыхтавалі мы свае пракламацыі ўдзень, а разносілі па вёсках сярод ночы. Пісалі там пра цара, пра паноў. Сялян агітавалі, заклікалі плытнікаў і рабочых з майстэрань баставаць, каб стварыць новы ўрад. Які ўрад — добра самі не ведалі, але пісалі "свой", не панскі».

### Узяў бы ражку масла...

Сядзеў арыштант Міцкевіч у некалькіх турмах.

Аляксандр Уласаў, выдавец «Нашай Нівы», прыгадваў:



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Малады Якуб Колас.**

## «Лепш тры гады ў турме адседзець, чым хвіліну на волі падлюгам быць»

Але ў драўлянай турме (сёння гэта раён вуліцы Фабрыцыуса) давялося сядзець нядоўга. Асноўным месцам адседкі Коласа быў турэмны замак 1825 года пабудовы, які заўсёды дзейнічаў як турма і дагэтуль не памяняў свайго прызначэння (сёння СІЗА №1 Мінска па вуліцы Валадарскага).

Колас прыгадваў: «Трапіў на час на Дабрамысленскі завулак. Там трымалі кароткатэрміновых. А пасля зноў пераехаў назад, у Пішчалінскі замак. Камер за час адседкі давялося змяніць некалькі. Сядзеў у кутняй, каля вежы, № 1. Потым перакінулі насупраць, здаецца, у пятую».

Першая з нямногіх радасць у астрозе — не разлучылі з сябрамі.

**Якуб Колас пра першую ноч у турме** (з аўтабіяграфічнага нарыса «Цені мінулага»):
«Спаць не хацелася… часамі мне здавалася, што гэта нейкі цяжкі і непрыемны сон, ад якога я абудзіўся, і ўсё знікне. Прыпомніўся той момант, у які чыталі прыгавор суда. Калі мне прачыталі, што і мне далі тры гады крэпасці, я зірнуў на сваіх таварышаў, якія прыйшлі на суд, і засмяяўся… І вось цяпер, лежачы тут, я ўявіў сабе гэтыя тры гады і пачуў, што гэта за час: тры гады сядзець пад замком у гэтых брудных сценах, тры гады чуць на сабе кляймо арыштанта!»

Колас сядзеў ля вежы, але не ў самой вежы вядомай сёння «Валадаркі». Бо ў вежы былі так званыя «дваранскія» (на астрожнай мове) камеры. Туды звычайна садзілі больш важных людзей: чыноўнікаў, паноў, купцоў. Тых, хто меў пэўную вагу і «не зусім пустыя кішэні». Замест нараў там былі больш-менш выгодныя ложкі, на працягу дня памяшканні былі адчыненымі, і нават на прагулкі ў двор «дваран» выводзілі асобна ад іншых. Наш герой адзначаў: «Папасці ў такую камеру звычайнаму смяротнаму было трудна».

Часам у канкурэнтаў на выгодныя апартаменты было нават спаборніцтва з перадачай у адміністрацыю мёду, масла і іншых прысмакаў. Кіраўніцтва турмы не спяшалася аддаваць перавагу некаму аднаму, але ад пачастункаў не адмаўлялася. Астатнія зняволеныя падсмейваліся з такога суперніцтва, перайначвалі песні пра будучых «дваран» і запытваліся, колькі шчасліўцам каштавала атрыманая выгода.

Колас разам з іншымі спяваў украінскую песню «Узяў бы я бандуру ды зайграў, што знаў» на турэмны лад:

Узяў бы ражку* масла
Ды ў кантору даў,
Скажуць арыштанты,
Што Барысам стаў.

Асобна сядзець з пэўнымі выгодамі можна было яшчэ «на маліне»: «малліннікаў» ахоўвалі ад іншых зняволеных, каб над імі не ўчынілі расправу, бо іх страшэнна не любілі. У гэтую катэгорыю маглі патрапіць былыя пракуроры, начальнікі астрогаў, прыставы, шпегі і іншыя памагатыя.

За часамі Коласа ў турме «на маліне» сядзела некалькі салдат. Яны ўчынілі забойства ►




Пакуль ішоў працэс, Коласу дазвалялася выходзіць з залы. У перапынку паміж пасяджэннямі ён мог выйсці паесці ў горадзе. Мог нават уцячы, але сам прызнаваўся: «Таварышаў судзяць, як жа я магу пакінуць іх?» **На фота: Мінск, Верхні горад, спуск да Зыбіцкай, у раёне Полацкіх Валокаў.**

* **Ражка** = тазік, вялікая драўляная пасудзіна.

### Турэмны слоўнік пачатку XX стагоддзя

**Барыс** — зняволены, які шчодра адарыў кіраўніцтва турмы і трапіў у больш камфортныя ўмовы.

**Дваране** — зняволеныя з прывілеяваных камер, што месціліся ў вежах Пішчалаўскага замка.

**Іван** — начальнік, заправіла камеры, «сматрашчы». Кожная камера крымінальных мела свайго «Івана».

**Маліннік** — арыштант, якога ахоўваюць ад іншых зняволеных (звычайна былыя пракуроры, прыставы, салдаты і пад.).

▶ арыштантаў, калі пераводзілі іх з Мінска ў Ігумен (сёння горад Чэрвень). А было так: спачатку тыя салдаты зрабілі прывал з гарэлкай, а як пабачылі, што паўцякалі галоўныя злачынцы, то пастралялі астатніх, каб апраўдацца перад начальствам, што быў «пабег». Чуючы малітву тых салдат (відаць, каяліся), сусед Коласа «часта крычаў ва ўсё горла і лаяў іх усёю моцаю арыштанцкай лаянкі».

### У карцары

Адметна, што Колас памылкова называе замак «Пішчалінскім» (замест Пішчалаўскага) і нават дае сваё тлумачэнне назвы: «Пішчалін — гэта архітэктар, які будаваў мінскую турму. Апраўдаў сваё прозвішча. Пішчалі там людзі. Дый мне давялося сербануць гора».

А сітуацыя была наступная: за адмову ўставаць на паверках Коласа з некаторымі іншымі замкнулі ў карцар. Сядзелі яны там з завязанымі вачыма, каб не папсаваць сабе зроку: «Карцар быў цёмны, смярдзючы. А тут яшчэ наглядчыкі здзекуюцца. Адзін быў да Мураўёва-вешальніка падобны. Прачыніць дзверы і дражніцца: “А надвор’е слаўнае! Цудоўнае надвор’е”. Мы думаем: “Каб цябе скула задавіла!” — і прыгінаемся: а можа, удасца зірнуць на неба праз шчыліну».

У карцары ў суцэльнай цемры трох арыштантаў замкнулі на сем дзён. Як прызнаваўся Колас, першае пачуццё было — страх: «Я баяўся, што нервы мае не вытрымаюць і ў галаве маёй штосьці-небудзь пераблытаецца». Але адзін з найлепшых сяброў Коласа прамовіў:

— Давай, брат Якуб, гісторыю паўтараць.

І каб рассеяць уласны страх і адагнаць прыкрыя думкі, пачалі яны прамаўляць, што трапляла на розум. Дадаваў пакутаў і клазет недзе паблізу, куды іншыя арыштанты вылівалі свой бруд з «парашы»: «І тады цэлая хваля смуроду ўрывалася ў наш карцар і неміласэрна крыўдзіла нашы насы», — успомніць Колас.

### Як пераводныя карцінкі

Дні карцара мінулі. Рэжым стаў лягчэйшы, дазволілі пісаць лісты, прынеслі нават паперу і чарніла. Цяпер можна сцвярджаць,




**Вокладка першага выдання «Сымона-музыкі».**

што найлепшыя творчыя задумы Коласа нарадзіліся акурат у турме.

Паглядзіце гады напісання паэмы «Новая зямля»: 1911–1923. Выходзіць, пачынаў Колас ствараць «энцыклапедыю народнага жыцця» акурат у зняволенні.

Па ягоным прызнанні, пісаць там было надзвычай лёгка. Абразкі дзіцячага жыцця, юнацкая вольнасць ажывалі ў складаных умовах ва ўсёй выразнасці — бяры ды пераноссь на паперу: «Як пераводныя карцінкі: памачыў вадою, прыклаў на чысты аркушык — і маеш малюнак. Амаль з такой хуткасцю я напісаў “Дзядзьку-кухара” і “Раніцу ў нядзельку”». Так што памятныя ўсім са школы радкі *Дзень быў святы. Яшчэ ад рання / Бліны пякліся на сняданне*..., як і многія іншыя ўрыўкі паэмы, пісаліся ў турэмнай камеры.

Пясняр чытаў свае творы сябрам-зняволеным. Найлепшы водгук мелі тыя ўрыўкі, дзе прабіваўся гумар: «Гэта давала розрыўку ў нашым беспрасветным жыцці. Гумар ратаваў і мяне самога, з ім я перасільваў чорны настрой», — падсумоўваў пісьменнік.





**Уступ да «Сымона-музыкі»** ў выкананні купалаўцаў.

YOUTUBE.COM



Якуб Колас быў праўдзіва народным пісьменнікам.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Але Колас ратаваўся не толькі смехам: з’явілася ідэя напісаць твор зусім іншага кшталту...

### Прыціснуўшы падбароддзем

«Калі замкнулася астрожная брама, я сказаў сам сабе: трымайся, Костусь, ты трапіў у новае кола». Чаргаваннем колаў уявілася Коласу ўсё перажытае: дзяцінства ў ваколіцах Мікалаеўшчыны, юнацтва і навучанне ў семінарыі, затым настаўніцтва, потым «бадзянне» з месца на месца ў пошуках заробку — і, нарэшце, турма. Коласу гэта нагадвала вядомы твор: «Як у “Боскай камедыі”, толькі ў мяне налічылася цэлых пяць колаў. Дый пекла стала ў канец, а хлапечая пара здавалася з-за крат сапраўдным раем».

Пятае кола, па прызнанні пісьменніка, здавалася самым цяжкім: «Я ледзь пачаў выбівацца ў друк, а тут за шкірку ды ў каталажку!» Вырвацца надзея была, а друкавацца наўрад ці. Адседка ў крэпасці прадугледжвала далейшы паліцэйскі нагляд: яўны або патаемны. З усіх гэтых разваг у Коласа з’явілася задума напісаць твор з пяці частак — адпаведна ліку абведзеных у думках колаў. Маладыя памкненні яго галоўнага героя, скрыпача Сымона, пастаянна сутыкаюцца са сценамі, адна вышэйшая за другую: пагарда, прыніжэнне, здзек. І фінал мусіў быць трагічны.

Такая задума твора адлюстроўвала рэальнае жыццё — і, канечне, ужо гэтым была крамольная. Ледзьве справа даходзіла да пісання, у радках і між радкоў паўставаў бунт супраць дзяржаўнага ладу. Давялося ісці на хітрыкі: Колас пісаў свайго «Сымона-музыку» кавалкамі, хаваў рызыкоўныя строфы паміж замалёўкамі з «Новай зямлі». Разлік быў на тое, што, не паспеўшы аб’яднацца ў цэлы твор, урыўкі рабілі нявіннае ўражанне і нават калі б патрапілі ў іншыя рукі, то небяспекі б не было. ▸

**Якуб Колас параўноўваў сябе з нястомным гракам: яму спораць гняздо, а ён ізноў галля нацягае**

Пясняр узгадваў: «Я зрабіў асобныя запісы, як толькі наладзіў турэмны побыт: раздабыў аловак і навучыўся хаваць паперы». Тыя першыя зацемкі Колас не ўпільнаваў. Аднойчы задумаўся над радкамі — і ў той момант у камеру некага прывялі, наглядчык кінуў вокам і выхапіў нататкі. Прыйшлося пісаць наноў.

Але пісьменніку было не прывыкаць пачынаць спачатку. Казаў, што быў падобны да грака на мінскім скверыку: сёння спорудзь гняздо, а заўтра, глядзіш, зноў галля нацягаў.

Але з таго моманту Колас стаў больш пільным: «Я борздзенька хаваў паперы на грудзі і трымаў, прыціснуўшы падбароддзем, да канца ўструшні [=ператрусу]. Мая густая барада не дазваляла заўважыць, што там затоена пад ёю, а на асабістыя вобыскі ў палітычных турэмнае начальства адважвалася рэдка».

## Два званочкі

З турэмных захаваўся верш «Краска». Аўтар прызнаваўся Лужаніну: «Не з громкіх гэты вершык, а міл мне. Ён мае сваю гісторыю».

У нядзелю аднаму з сукамернікаў дазволілі спатканне са сваякамі. Той прынёс разам з перададзенай бялізнай і хлебам дзве сцяблiны лугавых званочкаў.

Гэтыя кветкі зрабілі надзвычайны эфект: «Паставілі мы іх у ваду, а самі пасталі наўкруга і нібы ўкамянелі. Глядзім, вочы ва ўсіх вільготныя, і на волю наўсверб хочацца. Здаецца, каб выпусцілі зараз, лёг бы на зямлю і пакачаўся, як змакрэлы конь на ворыве. А ўсё ж, што ні кажы, святлейшы быў дзень той з кветкамі». Арыштанты хацелі, каб яны даўжэй пакрасавалі. Але на наступную раніцу званочкі пачалі апускаць галоўкі: «Гаслі на вачах, а ў кожнага пачуццё такое, быццам чалавека жвірам засыпаюць».

Цiснуў яшчэ на астатніх «ахвотнік да спеваў», нейкі Мардуховіч, які з прарэзлівым і моцным голасам хадзіў па камеры і ныў радкі: «Колокольчики мои, цветики степные». Уся камера не ведала, што рабіць: «Мы яго ўсяляк суцішалі, абяцалі падвойную порцыю капусты — не памагае. Пад вечар утаймаваўся, а я прыпёрся на нарах — дай, думаю, перакладу гэтыя “Колокольчики” — і з’явіўся верш “Краска”».

Адметна, што зберагласся дата напісання: 31 мая 1910 года. А Колас у распаведзе сябрам-пісьменнікам Максіму Лужаніну і Пятру Глебку ўпэўнена заявіць: «Пісаў я яго ў панядзелак адвячоркам». Тыя, хоць і падзівіліся памяці Канстанціна Міхайлавіча, але вырашылі паміж сабой усё ж праверыць дзень тыдня па даце. Пятро Глебка адшукаў так званы «вечны каляндар» і па табліцы паглядзеў, што 31 мая 1910 года быў аўторак. На выніку праверкі Колас з непарушным спакоем і нават падсмейваючыся прамовіў: «Значыць, у календары памылка... Як сабе хочаце, хлопцы, брэша ваш вечны каляндар... Стаю за панядзелак і магу біцца аб заклад».

Заклад выйграў Колас, бо пасля выявілася, што вечны каляндар быў разлічаны ўжо на новы стыль.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

У Смольні, дзе Колас жыў з маці і дзядзькам пасля выхаду з турмы, **ён упершыню сустрэўся з Янкам Купалам.** Захаваліся ліпы, пад якімі яны сядзелі.

## Заткні іх у...

Былі ў турме напісаныя і такія вершы, якія не кожны рэдактар пакінуў бы ў зборы твораў класіка. Змест аднаго з іх такі. Чалавек наняўся на працу да пана, аднак работы было многа, і даволі цяжкай: касіць, араць ад цямна да цямна. А калі дайшло да разліку, дык за тыдзень заплацілі яму тры грыўні. Вось і разважае герой твора:

А дома ёсць жонка, дзяцей тых,
як маку,
За дзень набярэшся — плячэй
не чуваць.
Трыццаць капеек! Заткні іх...
у горла...
Толькі вам жыць на свеце...
Тапчы вас у гаць...

Калі праз дзясяткі год Колас распавядаў гэты верш сябрам,

## Краска

Краска, мілая мая,
Госця веснавая!
Як ты хораша цвіцеш
У глушы, любая!

З ціхім усмехам з табой
Вецярок жартуе,
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.

Што ж на тварыку тваім
Легла задуменне?
Што нявесела глядзіш,
Мілае стварэнне?

І не радуе цябе
Дзень вясёлы мая,
Голас радасны вясны,
Песня маладая?

Я хацеў бы адгадаць
Дум тваіх гаворку,
Я б хацеў развесяліць
Краску, маю зорку.

Ці гаруеш ты аб тым,
Што і ты без волі,
Што краса ўся адцвіце
Без пары і долі?

Ці па тым, што вецярок
Разлучыў з лугамі,
Дзе б ты гутарыць магла
З пчолкамі, з чмялямі?

Я любуюся табой,
І мне смутна стане,
Што ў астрозе харство
Ўсё тваё завяне,

Што адна ты адцвіцеш
Век свой сіратою, —
А багата ж адарыў
Май цябе красою!

Краска, красачка мая,
Мілае стварэнне!
Што ж на тварыку тваім
Легла задуменне?

смяяўся: «Рыфмаў, што тут стаялі, не буду падказваць».

### Турэмная школа кухарства

Рэжым для насельнікаў турмы быў розны. Ад больш ліберальнага (калі камеры на працягу дня былі адчыненымі), да строгага (за розныя дробныя правіны саджалі ў карцар). Кастусю Міцкевічу і яго сукамернікам было адносна лягчэй: ім дазвалялі хадзіць у сваёй вопратцы, можна было самім сабе гатаваць абеды, для чаго з казны вылучалася пэўная сума на дзень.

Колас гатаваў лепш за астатніх: «Месяцы з чатыры быў я ў турме кухарам. На кожную душу адпускалася па 10 капеек на дзень. Грошы ішлі ў агульны кацёл. Купляліся крупы, сала, капуста. І самі мы гатавалі па чарзе. Мае абеды хлопцы заўсёды хвалілі. Казалі: “Ты, Костусь, мусіць, з свае кішэні дакладваеш”. А я аджартоўваўся: “Я, кажу, прыняў на харчы начальніка турмы. Дык гэта ён паўрубля дабаўляе”. Дарэчы, турэмны досвед гатавання спатрэбіўся Коласу і пасля. Праз дзясяткі год ягоная жонка хваліла мужа: «У цябе, мусіць, сам чыгунок варыць. Мне ніколі не ўдаецца так смачна згатаваць».

### Свінкін вызваліў

Давялося пабыць Коласу і турэмным бібліятэкарам. Аднак справа тая была нудная, бо літаратура дазвалялася толькі выхаваўча-паліцэйскага кірунку.

Да цікавых фактаў турэмнага побыту можна аднесці тое, што кожная камера злучалася з другою «тэлефонам». Гэта была проста дзірка, прабітая ў сцяне. Праз яе можна было пазычыць, напрыклад, кубак гарбаты або ▶


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У Альбуці, дзе прайшлі падлеткавыя гады Коласа**, цяпер вялікая пасека і экспазіцыя пра пчалярства і рыбалоўства. Альбуць — месца надзвычайнага спакою.


EHIVE.COM

**Камашы** (рус. *гамаши*) — вязаныя або пашытыя з тоўстага матэрыялу чахлы без падэшваў, што закрываюць костачкі, часам дасягаюць калена. Надзяваліся на чаравікі, зашпільваліся на гузікі збоку. На фота — скураныя камашы 1900–1910 гадоў.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО



**У музей у Акінчыцах, дзе Колас нарадзіўся**, варта заехаць нават дзеля дасканалай мовы захавальніц хаты, дзе поўна арыгінальных прадметаў з сям'і Міцкевічаў.

▶ крыху цукру, тытуню. Праз тую ж дзірку вяліся, як казалі арыштанты, патрэбныя размовы з патрэбнымі людзьмі.

А часам праз тую дзірку нават кралі рэчы. Так, у Коласа скралі новыя камашы, пакуль ён гуляў на двары астрога. Што рабіць у такім выпадку? Прыйшлося звярнуцца да «Іванаў» — крымінальных старшынь. Далей слова самому Коласу: «Праз колькі мінут былі даны дакладныя спраўкі: камашы ўкраў шавец — Свінкін, які ўжо выйшаў на волю ўчора і вызваліў таксама і мае камашы. “Іван” нават памог мне пабедаваць і вельмі шкадаваў, чаму я не агледзеўся крыху раней».

## Запомніць усё

Прайшло тры гады. Колас выйшаў на волю. Пачынаецца іншы, няпросты перыяд паслятурэмнай адаптацыі: «Дзверы на работу замкнуты, падтрымкі няма, кожны агінаецца пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я і пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог». Колас вырашае, што трэба мець мэту, таму вяртаецца да напісання «Сымона-музыкі»: «Зразумеў, што гэтая работа цяпер будзе для мяне стрыжнем. Утрымаюся за яго — значыць, не звар’яцею, не сап’юся, наогул, не пайду наніз, у падонкі, у паслугачы».

У Коласа ўсё атрымалася. Вытрымаць, не здрадзіць сабе, падтрымаць паплечнікаў.

А яшчэ — запомніць усё. Запісаць. Захаваць для нас з вамі, апроч іншага, і такія развагі таварыша па няшчасці. У карцары, лежачы на цэментнай падлозе, той прамаўляў да пісьменніка:

«Крыўдзяць, брат Якуб, чалавека, зневажаюць. Вось наставяць гэтых лабукоў... Мужык, брат, твой брат, за яго долю сядзіш, і ён цябе пільнуе, душыць. А прыкажа начальства лупіць, і ён будзе лупіць цябе, будзе страляць».

Тое зняволенне ў царскай турме будзе для Коласа свайго роду ахоўнай граматай пры савецкім рэжыме. Але галоўнае, што яно дало яму тыя веды жыцця і людзей, дзякуючы якім ён напіша свае геніяльныя творы. ◆

**Паглядзіце, як кожную вясну мыюць помнік Якубу Коласу.** Відэа прэс-службы Мінгарвыканкама.



## Іх імёнамі названыя вуліцы

Апроч Коласа, у Пішчалаўскім замку сядзелі: «бацька беларускай драматургіі» Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, ягоная дачка Каміла, паэты Карусь Каганец, Алесь Гарун, рэвалюцыянер-тэрарыст Іван Пуліхаў і многія іншыя. Іх імёнамі цяпер названыя вуліцы беларускіх гарадоў.

Аўтар дзякуе **Марыі** і **Васіліне Міцкевіч** за дапамогу ў падборы фотаздымкаў Якуба Коласа.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО



Музеіфікаваных хат, дзе прайшло дзяцінства Коласа, — чатыры. На дарогах між імі, у тым ліку ў лясах, расстаўленыя раскошныя творы народнага мастацтва, драўляныя скульптуры, самі сабою вартыя агляду. **На фота: крыж работы Івана Супрунчыка з вёскі Цераблічы Столінскага раёна.**

## Памяці майго настаўніка, замучанага нацыстамі

У 1944 годзе, пры канцы нямецкай акупацыі, нашы вяскоўцы з Карашава пад Скідзелем вырашылі дабіцца, каб адкрыць школу. Атрымалі дазвол. Нанялі памяшканне ў Аляксея Сарокі, узялі настаўніка з суседняй Баброўні. Кожны месяц плацілі гаспадару і настаўніку па некалькі фунтаў жыта.

Займаліся мы ўсе, 1–4 класы, разам. Ля сцяны стаяла вузкая дашчаная скрынка з жытам, а на ёй класная дошка. На левай палове дошкі была напісаная табліца множання, якая не сціралася, а заўсёды была ў полі зроку вучняў. Завешвалася занавесачкай яна толькі ў час кантролю. На правай палове дошкі пісалі сказы, слупочкі арыфметычных прыкладаў.

Падручнікаў аніякіх не было. Прывёз настаўнік кніжак фарматам і таўшчынёй як школьны дзённік, называліся «Адольф Гітлер». На кожнай старонцы быў чорна-белы здымак на ўсю старонку — і ўсё Адольф з дзецьмі. І подпіс у два-тры радкі пад ім на беларускай мове. Кніга была адна на парту. Яна заўсёды ляжала на краі парты, мусіць, такое было патрабаванне ўладаў, але ніколі мы яе не адкрывалі. Яшчэ была газета, таксама адна на парту. Вось шкада, што нават не помню, як газета называлася. Газеты дазвалялася іншы раз браць з сабой дамоў.

А займаліся мы па савецкіх падручніках. Вучні прынеслі хто што меў. Мы былі ўжо добрыя канспіратары. Нас настаўнік навучыў, і мы натрэніраваліся: як заявяцца немцы ў вёску, то мы хавалі кнігі, былі назначаныя, хто нясе, каб не было таўкатні. Настаўнік разграбае жыта пад дошкай, туды кладуць кнігі, настаўнік сам загортвае, а мы сядзім над газетамі, рашаем прыклады з дошкі. Яшчэ нас настаўнік навучыў: як зойдуць немцы ў клас, усім устаць і прагаварыць «Гутэн таг».

Аб тым, што немцы ў вёсцы, паведамляў гаспадар. Яны за час нашай вучобы заявіліся 3–4 разы. Не больш за чатыры, але ў школу не заходзілі. Але ў канцы лютага ў клас завіталі «няпрошаныя госці». Гэты дзень і стаў апошнім днём нашых заняткаў.

Помню як сёння. Заходзяць трое: солтыс, паліцай-паляк і немец. Мы і прывітанне пракрычалі. Паліцай звярнуўся да настаўніка: «Нех пан адпусці дзеці і пойдзе з намі». Настаўнік хацеў звярнуцца да нас, але той паправіў свой загад: «Хай дзеці пабудуць, пан хутка вернецца». Настаўнік як быў у шэрым самаробным джэмперы, так і пайшоў з імі.

Мы сядзелі як агаломшаныя, ніхто не прамовіў ні слова. Пасля прыйшоў солтысаў сын Коля і сказаў: «Ідзіце дамоў, ваш настаўнік не прыйдзе, і школы ў вас ужо не будзе». Коля забраў ватоўку настаўніка і пайшоў. Мы хуценька апрануліся і таксама пайшлі. Гэта ж проста цуд, што з дзяцей ніхто так і не сказаў ні слова. Усе ўсё разумелі без слоў.

Ідучы ля дома солтыса, пабачылі, што на яго падворышчы ляжалі ўніз тварамі 5 чалавек, другі з краю і быў наш настаўнік. Мы яго пазналі па шэрым самаробным джэмперы. Ля іх хадзіў вартавы. Нас ахапіў неймаверны жах. Потым я даведалася, што сярод гэтых пяцёх быў бацька адной нашай першакласніцы Сашы — Сарока Міхаіл. У вёсцы гаварылі, што арыштаваныя мелі сувязь з партызанамі.

Пад вечар арыштаваных прывязалі да аглоблі і так пагналі ў Скідзель. Бачыла гэта мая бабуля, расказвала маме і плакала. Вучоба наша скончылася, правучыліся мы ўсяго ад Каляд (7 студзеня 1944 года) да лютага 1944-га. Пра вязняў ніхто нічога не чуў. Маці Сашы Сарокі пайшла ў партызаны, а Саша засталася ў родзічаў.

Наш настаўнік пры ўспаміне і цяпер стаіць у мяне ў вачах у сваім шэрым самаробным джэмперы. Колькі сіл і старання ён нам аддаў, амаль усё было вусна, чатыры класы разам, прыдумваў задачкі з жыцця. Асноўным атрыбутам у навучанні была дошка і крэйда. Ён хадзіў паміж двух агнёў і такі згарэў. Ён герой з герояў.

І ўжо як з’явілася кніга «Памяць» Гродзенскага раёна, я тады ўбачыла на с. 231: «Вёска Баброўня. Курыла Іван Васільевіч, нар. у 1894 г., працаваў настаўнікам у в. Белякоўшчына, памёр 04.01.1945 г. у канцлагеры Дахау». Гэта наш настаўнік. А чаму вёска Белякоўшчына, а не Карашава? Аказваецца, ён да вайны працаваў там, гэта кіламетры 2 ад Карашава на ўсход.

«Сарока Міхаіл Рыгоравіч, н. 1917 г., былы член КПЗБ, арыштаваны ў 1944 г. Далейшы лёс невядомы».

**Яўгенія Кулевіч, вёска Сялец Смаргонскага раёна, 85 гадоў**

## «Ваш часопіс — ва ўсіх сэнсах выключэнне»

Я чалавек «папяровай культуры» і кнігі чытаю «тыя самыя». Але навіны і часопісы ўжо даўно спажываю выключна з манітора. Ваш часопіс — прыемнае ва ўсіх сэнсах выключэнне. Калі не трымаць яго ў руках, шмат што згубіцца. Мне падабаецца шырыня тэмаў і падача матэрыялу, афармленне і паліграфія. Але заўсёды ёсць шляхі і нагоды зрабіць нешта яшчэ лепей. Спадзяюся, Вы знойдзеце ў маім лісце нешта сапраўды карыснае для сябе.

Жадаю выстаяць у гэты суровы час, не згубіць бадзёрасці, надзеі і веры ў сябе і беларускі народ.

**Павел Мажэйка, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Дзякуй за добрыя словы, а асабліва за дасланы вялікі спіс прапаноў, ідэй і патэнцыйных тэмаў. Хоць не ўсё залежыць ад нас, асабліва ў цяперашніх няпростых умовах. А рэалізацыя некаторых прапаноў вымагае фінансавых укладанняў у аб’ёме, які мы цяпер не зможам пацягнуць. Але ж будзем старацца!

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню.


ФОТА ДАРЫЮША ІВАНСКАГА, FAKT.PL

# «Хтосьці павінен»

# Неймавернае жыццё. Уладзіслаў Барташэўскі

**У 18 гадоў ён трапіў у Асвенцім. У 24 гады — у камуністычную турму. Выжыў, напісаў 50 кніг. У 73 гады стаў міністрам замежных спраў свабоднай Польшчы, пражыў 93 гады і да самай смерці працаваў у Канцылярыі прэзідэнта.**

**«Ці было мне лёгка? Не. Але ў якім маральным, гістарычным альбо сацыяльным кодэксе гаворыцца, што жыццё чалавека, нацыі і нават чалавечага віду павінна быць лёгкім? Ну, жыццё не павінна быць лёгкім. Горш, калі яно бывае сумным», — пісаў Барташэўскі.**

**Пра жыццё гэтага светлага чалавека піша беларус з Бельска-Падляшскага Тамаш Суліма.**

## Пуцёўка ў жыццё

22 верасня 1940 года васямнаццацігадовага Уладзіслава Барташэўскага адправілі ў Асвенцім.

Ішоў другі год Другой сусветнай вайны. У тым самым месяцы Адольф Гітлер быў вымушаны адкласці высадку ў Брытаніі, бо англійская авіяцыя паспяхова адбівалася і нават пачала бамбіць Берлін. У тым жа месяцы

італьянскія фашысты ўварваліся ў Егіпет, Японія — у Індакітай, а Савецкі Саюз месяцам раней анексаваў Літву, Латвію і Эстонію.

Па другі бок лініі, праведзенай пактам Молатава — Рыбентропа, у акупаванай Польшчы, ішлі аблавы. Немцы хапалі людзей проста на вуліцах. Ачаплялі квартал, правяралі дакументы і «дармаедаў» адпраўлялі ў канцлагеры. Нацыстам трэба была бясплатная працоўная сіла, а яшчэ больш ім трэба было, каб страх паралізаваў волю да супраціўлення. Усё гэта прыгожа называлася *Außerordentliche Befriedungsaktion* — «надзвычайныя меры па супакойванні». Але польскае антынацысцкае падполле не спыняла сваёй дзейнасці нават у гэтыя самыя змрочныя дні, калі многім здавалася, што Гітлер і Сталін падзялілі Усходнюю Еўропу навечна.

У той дзень, 22 верасня, у Асвенцім з Варшавы адправілі 1705 чалавек. Так супала, што ў адным эшалоне з Уладкам Барташэўскім у самы страшны канцлагер Рэйха везлі таксама Вітольда Пілецкага. Па заданні падполля — тады яно называлася Саюз узброенай барацьбы, а пасля яго пераймянуюць у Армію Краёву, — ротмістр Пілецкі сам выйшаў у адну з аблаў, каб пранікнуць у Асвенцім, сабраць звесткі пра канцлагеры і стварыць там сярод вязняў падпольную арганізацыю.

Пілецкаму ўдасца і першае, і другое. Польскае падполле першым перадасць брытанскаму ўраду інфармацыю пра гэты канцлагер. Прычым у тым была і заслуга Барташэўскага.

Барташэўскі атрымаў у Асвенціме асабісты нумар 4427 і правёў тут 199 дзён.

Выратаваў яго доктар Чырвонага Крыжа, юнака

**«Калі б мне 60 гадоў таму, калі я стаяў скурчыўшыся на пляцы Асвенціма, хтосьці сказаў, што ў мяне будуць сябры немцы, грамадзяне дэмакратычнай, сяброўскай краіны, я б яму сказаў, што ты вар’ят».**

**— Уладзіслаў Барташэўскі ў 2000 годзе.**

ўдалося пераправіць на свабоду. «Ты ведаеш, што ты павінен!» — сказаў яму той доктар на развітанне. «Што я павінен?» — «Ты павінен *ведаць*!»

*Ведаць* — ведаць праўду, запомніць, каб пасля расказаць, сведчыць. Доктара — яго прозвішча было Новак — перавязуць з Асвенціма ў Майданэк, там ён і загіне.

«Усе мы, зняволеныя, былі ў адным Асвенціме, але ў той жа час кожны зняволены быў у сваім




**Польскі афіцэр Вітольд Пілецкі**, які спецыяльна трапіў пад аблаву, каб пранікнуць у Асвенцім і стварыць там падпольную арганізацыю.

Асвенціме, — пісаў Барташэўскі ў кнізе “Мой Асвенцім”. — Кругі пекла былі розныя, перажыванні былі розныя. На маю долю выпаў блок падлеткаў і лагерная бальніца. Таму трэба ведаць, што гісторыя Асвенціма — гэта сума асобных лёсаў, пакут і ўспамінаў. Больш за тое, мы не павінны забываць, што гэта назаўсёды будзе недарасказаная гісторыя. Мы ніколі не зможам даведацца досвед соцень тысяч тых, хто быў забіты ў гэтым лагеры».

Па вяртанні юнак Барташэўскі звязаўся з Саюзам узброенай барацьбы і перадаў усё, што ведаў пра Асвенцім. З гэтага пачалася яго супраца з рухам супраціву. Ад лета 1942 года ён далучаецца да падпольнага каталіцкага «Фронту адраджэння Польшчы». А ад жніўня таго ж года — да падпольнага Інфармацыйна-прапагандысцкага бюро штаба Арміі Краёвай. Яшчэ праз месяц 20-гадоваму Барташэўскаму даручаюць крайне складаную задачу. Разам з іншымі каталікамі яны ствараюць падпольную Раду дапамогі яўрэям «Жэгота».

Чаму крайне складаную? Бо законы былі такія, што за ратаванне яўрэяў пагражала смерць. Не проста штраф, арышт, турма — смерць. Можна сабе ўявіць, што адчуваў хлопец, які ў 18 гадоў трапіў у Асвенцім. І можна сабе ўявіць, што ты адчуваеш у дваццаць, калі, ▸

▶ цудам вырваўшыся з Асвенціма, узвальваеш на сябе такую рызыку.

### Ад Конрада Жэготы

«Ад каго гэтая дапамога?» — пыталіся людзі ў варшаўскім гета пра пасылку з маслам і цыбуляй. — «Гэта вам ад Конрада Жэготы», быў адказ. «Ад каго гэта грошы?» — «Ад Конрада Жэготы».

Конрад Жэгота — такога чалавека не існавала. Гэта была законспіраваная назва для арганізацыі. Назву ўзялі з паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды», там згадваўся такі персанаж.

Толькі ў Варшаве «Жэгота» ўратавала 2600 яўрэйскіх дзяцей. 1300 з іх разабралі палякі па сем'ях, яшчэ 500 схавалі ў манастырах. 40 тысячам яўрэяў даходзіла грашовая дапамога. Але галоўнай задачай «Жэготы» быў выраб фальшывых дакументаў — аўсвайсаў, метрык аб хрышчэнні, бо фальшывы дакумент даваў шанец выжыць. Усяго іх было выраблена каля 50 тысяч. Фінансаваў усё гэта эміграцыйны польскі ўрад, грошы скідалі брытанскімі самалётамі ў лясы, партызаны Арміі Краёвай перадавалі іх «Жэгоце».

Паралельна Барташэўскі метадычна збіраў дакументы пра нацысцкія рэпрэсіі і жыццё пад акупацыяй. У 1945 годзе на аснове іх ён, 23-гадовы юнак, напіша рапарт «Публічныя расстрэлы ў Варшаве ў 1943–1944 гадах», і ён будзе далучаны да судовых доказаў, якія польская дэлегацыя прадставіць Нюрнбергскаму трыбуналу (глядзі артыкул Андрэя Акушкі ў «Нашай гісторыі» №12/2020).

Пасля было Варшаўскае паўстанне, за дапамогу ў якім 22-гадовы Барташэўскі быў узнагароджаны Крыжам доблесці і атрымаў званне малодшага лейтэнанта Арміі




**18-гадовы Уладзіслаў Барташэўскі**, вязень канцлагера Асвенцім.

Краёвай. З падполля ён выйшаў у кастрычніку 1945 года.

«Ці было мне лёгка? Не. Але ў якім маральным, гістарычным альбо сацыяльным кодэксе гаворыцца, што жыццё чалавека, нацыі і нават чалавечага віду павінна быць лёгкім? Ну, жыццё не павінна быць лёгкім. Горш, калі яно бывае сумным», — казаў Барташэўскі ў інтэрв'ю.

### Што яму яшчэ трэба?

«У маім выпадку элемент упартасці і супраціву вельмі моцны. Калі я лічу, што мой праціўнік — гэта сілы зла, я заўсёды кажу сабе: раз гэта сілы зла, то, па-першае, праўда на маім баку і Бог дапаможа мне, дасць столькі сілы, колькі мне трэба, каб вытрываць. Па-другое, сілы зла не заслугоўваюць перамогі. І я не зламаюся, бо, зламаўшыся, я б дапамог ім пераамагчы! Я зраблю ўсё, каб яны адчулі, што перамога не на іх баку, нягледзячы на ўсю іх усёмагутнасць».

Родам Барташэўскі быў са звычайнай сям'і, што называецца, службоўцаў. Хлопец рос у камфорце, што яшчэ яму трэба? Бацька працаваў у банку, дарос да высокай пасады, маці — бухгалтарка. Палітычныя сімпатыі — Польская сацыялістычная партыя, Юзаф Пілсудскі. Вучыўся хлопец у школах «з добрай рэпутацыяй», прыватных, каталіцкіх.
У 1939 годзе ён акурат паступіў ва ўніверсітэт на факультэт роднай мовы і літаратуры.
Але — вайна. Пачаць вучобу ён зможа толькі пасля вяртання з Асвенціма, у падпольным універсітэце. Універсітэт той рассеяўся падчас Варшаўскага паўстання.

У 1946-м Барташэўскага, як дзеяча апазіцыі, актывіста Польскай сялянскай партыі, арыштоўваюць ужо камуністы. Паўтара года ў турме — і зноў знаходзіцца добры чалавек, які яго вызваліў: суддзя апеляцыйнага суда аказалася яўрэйкай, з якой Барташэўскі сутыкаўся ў «Жэгоце». Яна выпусціла яго на свой страх і рызыку.

**«Калі нехта нарадзіўся чалавекам, то лепш яму быць чалавекам, чым свіннёй»**

**— Уладзіслаў Барташэўскі.**

**«Хтосьці павінен гэта зрабіць?
Хтосьці павінен рэагаваць?
Хтосьці павінен супрацьстаяць?
Хтосьці павінен пратэставаць?
Я сам задаваў сабе гэтыя пытанні.
І адказ прыходзіў сам сабою: калі хтосьці,
то чаму не я?»**

**— Уладзіслаў Барташэўскі.**

Выйшаў з турмы — аднавіўся на трэцім курсе ўніверсітэта. Праз паўтара года яго зноў арыштоўваюць. Гэтым разам фірмовае для сталінскіх часоў абвінавачванне: шпіянаж. Прысуд — восем гадоў. Яшчэ адна турма. Ледзь не памёр у турме. Хварэў так, што яго часова вызвалілі для лячэння. А тут і сталінізму канец, у 1955 годзе разам з дзясяткамі тысяч іншых Вярхоўны ваенны суд прызнае Барташэўскага незаконна асуджаным.

У 1958 годзе, у 36 гадоў, Барташэўскі спрабуе давучыцца завочна. Даходзіць да апошняга курса, але ў 1962 годзе, перад абаронай дыплома, рэктар адлічвае яго.

Уладзіслаў Барташэўскі быў, напэўна, адзіным універсітэцкім выкладчыкам без дыплома аб вышэйшай адукацыі. Выкладаў ён у Люблінскім каталіцкім універсітэце. Сацыялістычная Польшча адрознівалася ў гэтым сэнсе і ад СССР, і ад іншых краін сацлагера, тут заставаліся такія непадкантрольныя астраўкі.

## Дабро і Зло

«Раз актываванае зло можа мець разбуральную сілу. Можа, таму сведкі зла павінны гаварыць пра гэта, не забываючы, што ў Божай задуме побач са злом ёсць і дабро. Гэтае мысленне ў нейкай ступені было мне дадзена. За гэта ўдзячны я Богу, што змог убачыць тое дабро, якое мне было дадзена», — пісаў Барташэўскі.

Перыяд вайны, выпрабаванняў, падполля, турмаў быў надзвычай важным у біяграфіі Барташэўскага, ён сфарміраваў яго на ўсё жыццё. Там, у падполлі, у руху супраціву, ён сустрэў шмат выдатных людзей, якія паўплывалі на яго. Ён не ваяваў са зброяй у руках. Яго барацьба заключалася ў фіксацыі ды раскрыцці злачынстваў акупантаў і дапамозе пераследаваным.

«Выстаяць яму дапамаглі рысы характару: грамадзянская мужнасць, здольнасць адкрыта супрацьстаяць, непадатлівасць і адначасова дакладнасць, метадычнасць, настойлівасць, здольнасць планаваць доўгатэрміновую працу», — пісаў пра яго біёграф Анджэй Фрышке.

## Суп быў яшчэ цёплым

У турмах Міністэрства бяспекі камуністычнай Польшчы Барташэўскі правёў агулам шэсць гадоў і месяц. Вязні паважалі яго за непахіснасць у час следства. Ён не даў сябе застрашыць, не зламаўся і ні на каго не даў паказанняў. У той жа час ён набыў неацэнны для сябе досвед, седзячы і кантактуючы з афіцэрамі Арміі Краёвай, актывістамі антыкамуністычнага падполля, палітыкамі, навукоўцамі, святарамі і нават са злачынцамі.

«Калі мяне выклікалі на суд, якраз выдавалі абед, калі я вярнуўся з прыгаворам, суп быў яшчэ цёплым», — з іроніяй успамінаў ён потым сваё сутыкненне з «правасуддзем».

Іронія гісторыі была і ў тым, што пракурорка на ягоным судзе — таксама яўрэйка, на яе сумленні сотні такіх зняволеных — будзе дажываць сваё жыццё ў Брытаніі, адбіваючыся ад спроб экстрадыцыі. Брытанцы не выдалі — Польшча абмежавалася тым, што забрала ў яе пенсію.

У Барташэўскага была цудоўная здольнасць без дэпрэсіі пачынаць усё з нуля. Падчас разгрому нацыстамі Варшаўскага паўстання згарэла яго бібліятэка — 8000 тамоў, а таксама калекцыя падпольных часопісаў і лістовак, загадаў акупацыйных улад, уключаючы амаль усе паведамленні пра расстрэлы. Пасля вызвалення з камуністычнай турмы ён пачаў карпатліва аднаўляць свой збор дакументаў і артэфактаў часоў акупацыі, потым гэтую сваю неацэнную калекцыю ён перадасць бібліятэцы.

Паколькі навуковага статусу ў Барташэўскага доўгі час не было, яго, як «апазіцыянера», доўгі час не пускалі ў некаторыя архівы, напрыклад, у важны для даследчыка акупацыі архіў Цэнтральнага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі (так у пасляваеннай Польшчы звалася камуністычная партыя). Тады ён ціха прасіў знаёмых гісторыкаў капіяваць для яго патрэбныя дакументы, напрыклад, якія тычыліся выратавання яўрэяў. У сваю чаргу, пасля Барташэўскі ▸

сам, таксама канфідэнцыйна, перадаваў іх праз пасольства Ізраіля ў цэнтр Яд Вашэм у Іерусаліме.

**«Напэўна, не ўсё вартае ў жыцці аплачваецца. Але яшчэ больш пэўна, што не ўсё, што аплачваецца, вартае ў жыцці»**

**— Уладзіслаў Барташэўскі.**

### Няма такога сказа

З 1973 года Уладзіслаў Барташэўскі на працягу дзесяці гадоў выкладае на аддзяленні гісторыі Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне. У другой палове 1970-х ён уцягваецца ў дзейнасць новага пакалення палітычнай апазіцыі: падпісвае лісты ў абарону палітвязняў і супраць змен у канстытуцыі. Выкладае ў г. зв. «Лятучым універсітэце» — такім жа падпольным, у якім у гады вайны адвучыўся ён сам. Падтрымлівае «Салідарнасць» (гл. пра гэту арганізацыю у № 9/2020 «Нашай гісторыі»). Калі ўлады ўводзяць ваеннае становішча, Барташэўскага інтэрнуюць на чатыры з паловай месяцы, разам з дзясяткам тысяч іншых апазіцыянераў.

У інтэрв'ю ў 1986 годзе ён заявіў: «Я не шкадую ні пра адзін напісаны сказ, хаця, напэўна, многае мог бы напісаць лепш, дакладней, разумней. Але няма такога сказа і тым больш абзаца ці артыкула, з-за якога б мне хацелася скрозь зямлю праваліцца».

Гэтыя словы чалавека, якому не было чаго саромецца, былі сказаныя за тры гады да перамоў Круглага стала, якія прывялі да гістарычнага кампрамісу, што адкрыў Польшчы дарогу да дэмакратыі, разам з якой пачаўся бурны эканамічны рост і інтэграцыя ў еўрапейскія структуры. Вось тут інтэлект і досвед Уладзіслава Барташэўскага аказаліся запатрабаваныя напоўніцу. Чалавек без вышэйшай адукацыі, але найвышэйшай сумленнасці двойчы будзе займаць пасаду міністра замежных спраў краіны. Ён будзе актыўна ўдзельнічаць у новай, ужо дэмакратычнай палітычнай барацьбе, актыўна супрацьстаяць нацыяналістам, падтрымліваць лібералаў, перажываць іх паразы, але гэта ўжо была іншая сістэма і іншая гісторыя.

Уладзіслаў Барташэўскі памёр прыгожым веснавым днём 24 красавіка 2015 года ў Варшаве ў 93 гады. Бог, у якога ён шчыра верыў, аддзячыў яму не самым частым падарункам: да самай смерці гэты чалавек захоўваў чысціню розуму і, унікальны выпадак, да 93 гадоў займаў высокую пасаду дзяржаўнага сакратара ў Канцылярыі прэзідэнта Польшчы. ◆




**Магіла Барташэўскіх** на могілках Павонзкі ў Варшаве.

WIKIMEDIA COMMONS




Кнігу Уладзіслава Барташэўскага *«Warto być przyzwoitym»* («Варта быць прыстойным») можна купіць тут.



**Жыхары горада Глярус** вырашаюць многія пытанні проста на ўсеагульным сходзе.

WIKIMEDIA COMMON

# Швейцарыя
# Грамадзяне ў законе

**Ні ў адной дзяржаве ў свеце няма столькі прамой дэмакратыі, як у Швейцарыі, піша былы часовы паверана ў справах Беларусі ў Швейцарыі Павел Мацукевіч. Праз рэферэндум тут вырашаецца абсалютна ўсё: ад пытання ўступлення ў Еўрасаюз да захавання рог у кароў — а падлік галасоў абсалютна празрысты для назірання.** ▸

▶ Чатыры разы на год у адну з нядзель сакавіка, чэрвеня, верасня і снежня швейцарцы ўдзельнічаюць у галасаваннях на рэферэндумах. Пачынаючы з 1848 года і па стане на пачатак 2021 года ў Швейцарыі толькі на федэральным узроўні адбылося больш за 650 рэферэндумаў.

Разам з агульнадзяржаўнымі галасаваннямі ў краіне адбываюцца кантанальныя (кантон ці паўкантон — аналаг нашай вобласці, але гэта гістарычныя рэгіёны, іх у Швейцарыі 26) і муніцыпальныя рэферэндумы па мясцовых пытаннях. Прычым на кантанальным і муніцыпальным узроўнях галасаванні праходзяць часцей, чым на федэральным.

### Не хочаш — не галасуй

За сваё жыццё швейцарскі выбаршчык бярэ ўдзел у галасаваннях па чатырох тысячах пытанняў на нацыянальным і мясцовых узроўнях.

Швейцарцы напрамую абіраюць усе ўзроўні ўлады — акрамя Федэральнай рады (так называецца ўрад) і прэзідэнта краіны, якіх абіраюць дэпутаты Федэральнага сходу. На пасаду прэзідэнта Швейцарыі можа прэтэндаваць любы грамадзянін, але на практыцы кандыдат вылучаецца з ліку сямі чальцоў Федэральнай рады тэрмінам на адзін год.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY FRIZIO


CDT.CH

**Гі Пармелен, прэзідэнт Швейцарыі з 1 студзеня 2021 года**, носіць маскі нароўні з простымі грамадзянамі. У Швейцарыі прэзідэнта выбіраюць на 1 год.

Што цікава, тройчы за гісторыю краіны прасоўвалася народная ініцыятыва, каб чальцоў Федэральнай рады абіраў непасрэдна народ. Тройчы народ галасаваў супраць, пакідаючы гэтае права за дэпутатамі Федэральнага сходу. Іх, дарэчы, грамадзяне абіраюць кожныя чатыры гады ў кастрычніку.

Каляндар галасаванняў складзены на 20 гадоў наперад. Хто хоча — галасуе. Хто не хоча — не галасуе. У апошнія дзесяцігоддзі сярэдняя доля ўдзелу насельніцтва ў галасаваннях складала больш за 40 %.

### Швейцарыя

Афіцыйная назва: Швейцарская Канфедэрацыя, але рэальна гэта хутчэй федэрацыя, а не канфедэрацыя.

Краіна мяжуе на поўначы з Германіяй, на поўдні — з Італіяй, на захадзе — з Францыяй, на ўсходзе — з Аўстрыяй і Ліхтэнштэйнам.

Плошча: 41 285 км$^2$ (у пяць разоў меншая за Беларусь).

Насельніцтва: 8 606 000 чалавек.

Дэвіз Швейцарыі: «Адзін за ўсіх, усе за аднаго». І гэта не проста словы, а рэальнасць.

### Сталіца

Дэ-факта сталіцай Швейцарыі з'яўляецца Берн: менавіта тут месціцца федэральны ўрад. Аднак дэ-юрэ ў Канстытуцыі краіны няма такога паняцця, як сталіца. Гэта не перашкаджае краіне жыць.

### 100 тысяч подпісаў за 18 месяцаў

Кожны з 26 так званых кантонаў і паўкантонаў Швейцарыі мае свой асобны ўрад, парламент, канстытуцыю і заканадаўства з мясцовымі адметнасцямі. Агульнае для краіны і ўсіх кантонаў — няма амаль ніводнага пытання, якое нельга вынесці на рэферэндум, амаль няма тэмы, па якой грамадзянам нельга скласці свой уласны законапраект.

Самы папулярны інструмент прамой дэмакратыі, якім карыстаюцца грамадзяне гэтай краіны, — **народная заканадаўчая ініцыятыва**. Адпаведнае права з'явілася ў швейцарцаў у 1891 годзе. На федэральным узроўні яно дазваляе грамадзянам выступаць з прапановамі аб унясенні паправак у Канстытуцыю ці аб яе поўнай замене.

Як гэта працуе? Спачатку ствараецца ініцыятыўны камітэт. Склад камітэта — ад 7 да 27 чалавек. Для параўнання — у Беларусі закон патрабуе не менш за 100 чалавек з прыкладна аднолькавым размеркаваннем гэтай колькасці па абласцях. Тэкст ініцыятывы падаецца на трох дзяржаўных мовах: нямецкай, французскай і італьянскай. Пасля яго публікацыі ў афіцыйным «Федэральным весніку» ёсць 18 месяцаў, каб сабраць 100 тысяч подпісаў (у Беларусі для

рэферэндуму патрэбна не менш за 450 тысяч подпісаў цягам двух месяцаў, прытым што колькасць насельніцтва ў нашых краінах амаль аднолькавая).

Сабраныя подпісы перадаюцца ў Федэральную канцылярыю — і настае чарга Федэральнай рады. У большасці выпадкаў урад не згаджаецца з ініцыятывай цалкам і даручае распрацаваць альтэрнатыўную прапанову. Тэрмін разгляду можа зацягнуцца на паўтара года. Па выніках Федэральная рада рыхтуе пасланне наконт ініцыятывы, якое накіроўваецца ў Федэральны сход. У ім робіцца ўсебаковы аналіз ініцыятывы, у тым ліку з пункту гледжання адпаведнасці заканадаўству і міжнародным абавязкам, наступстваў юрыдычнага кшталту ў выпадку яе прыняцця. Пасланне рэкамендуе ўхваліць альбо адхіліць народную прапанову. Урад і парламент публікуюць сваю пазіцыю ў якасці рэкамендацыі для галасавання (часцей за ўсё яны дамаўляюцца аб сумеснай). Ініцыятыўны камітэт можа адклікаць сваю прапанову да моманту, калі ўрад прызначыць дату народнага галасавання.

Каб перамагчы, трэба атрымаць так званую падвоеную большасць — большасць галасоў як выбаршчыкаў, так і кантонаў (гэта значыць, прапанова павінна перамагчы ў большасці кантонаў — гэта засцерагае ад гегемоніі самых населеных кантонаў над маланаселенымі).

Ад моманту ўзнікнення ініцыятывы да галасавання можа прайсці да 70 месяцаў. Такая няспешнасць працэдуры — натуральны фільтр ад неабдуманых, імпульсіўных, прадыктаваных эмоцыямі моманту рашэнняў.

У выніку на галасаванне народа могуць трапіць як ініцыятыва грамадзян, так і сустрэчная прапанова ўрада. І вось тут цікава: выбаршчык не мусіць выбіраць нешта адно, ён можа ўхваліць і арыгінальную ініцыятыву, і прапанову ўрада адначасова, а таксама пазначыць, якой з дзвюх ідэй ён аддае перавагу. Праходзіць тая, якая атрымлівае большасць галасоў. Новы артыкул з тэкстам прынятай народнай ініцыятывы ўводзіцца ў Канстытуцыю.

Напрыклад, на галасаванні 7 сакавіка 2021 года сярод іншых пытанняў разглядалася народная ініцыятыва аб забароне хаваць твар у грамадскіх месцах. Ад моманту пачатку збору подпісаў да рэферэндуму па ёй прайшло роўна пяць гадоў. Парламент аспрэчыў ініцыятыву і падрыхтаваў сваю контрпрапанову — забараніць хаваць твар толькі ў выпадку, ▸

**У Швейцарыі тры дзяржаўныя мовы**: нямецкая (прыкладна для 63% жыхароў яна першая), французская (23% жыхароў) і італьянская (8%) — яны раўнапраўна выкарыстоўваюцца ў федэральных ведамствах. Ёсць яшчэ раманшская (рэтараманская) мова, родная для 0,4% насельніцтва, блізкі нашчадак лаціны. На ёй таксама выдаецца штодзённая газета, яе вучаць у школах, і яна з 1938 года выкарыстоўваецца ў адміністрацыі ў кантоне Граўбюндэн (Грызон), дзе захавалася.

Цікава, што з другой паловы XX стагоддзя швейцарскі дыялект нямецкай мовы ўсё шырэй стаў выкарыстоўвацца ў СМІ і культуры і паступова выцесніў «стандартную» нямецкую мову. А вось мясцовыя дыялекты на франкамоўных тэрыторыях, наадварот, амаль зніклі на карысць уніфікаванай французскай. Напэўна, не хапіла «крытычнай масы» носьбітаў, каб і тут сфарміравалася мясцовая традыцыя.




WIKIMEDIA COMMONS

**На рэферэндуме 7 сакавіка 2021 года грамадзяне Швейцарыі прагаласавалі за забарону хаваць твар.** Апроч гэтага, швейцарцы забаранілі ўраду ўводзіць электронныя пашпарты (e-ID).

**Права грамадзян на заканадаўчую ініцыятыву**, якое існуе ў Беларусі, нельга параўноўваць са швейцарскай народнай заканадаўчай ініцыятывай. У Беларусі прадугледжваецца магчымасць грамадзян рабіць прапановы для разгляду парламентам, а не народам, як у Швейцарыі. Дый умовы рэалізацыі гэтага права ў Беларусі крайне складаныя.




**Страявой падрыхтоўцы ў швейцарскай арміі надаюць мала значэння, і служба па прызыве працягваецца толькі 4 месяцы.** Затое ваеннаабавязаныя швейцарцы трымаюць зброю дома.

▶ калі прадстаўнікі ўладаў хочуць правесці персанальную ідэнтыфікацыю асобы. У выніку грамадзяне не падтрымалі альтэрнатыўны варыянт. На карысць забароны выказаўся 51 % выбаршчыкаў і 18 з 26 кантонаў. Цяпер у Канстытуцыю Швейцарыі будуць унесеныя папраўкі, якія дазваляюць увесці забарону на адзенне, якое хавае твар, па ўсёй краіне. Дарэчы, у асобных кантонах (Тычына, Санкт-Гален) такая забарона існуе ўжо некалькі гадоў у сувязі з адпаведнымі рашэннямі мясцовых рэферэндумаў.

Тэматычны ахоп народных заканадаўчых ініцыятыў у Швейцарыі фактычна не мае межаў. У свой час швейцарцы галасавалі на такія тэмы, як адмена ўсеагульнай вайсковай павіннасці, забарона абсенту

## Зброю трымаюць дома

Швейцарыя традыцыйна разлічвае на ўсеагульную вайсковую падрыхтоўку для абароны свайго суверэнітэту. Усе без выключэння мужчыны праходзяць прыкладна 4–6-месячную службу (без абавязковага прагляду праграмы «Панарама»), а пасля — рэгулярныя 3-тыднёвыя зборы.
Зброю рэзервісты трымаюць дома.

і масонства, захаванне рагоў у кароў.

Вайсковая павіннасць — пытанне вынеслі на рэферэндум у 2013 годзе сацыялісты і феміністы. 73% галасоў швейцарцы выказаліся за захаванне прызыву.

Рогі ў кароў і коз — пытанне галасавалася ў 2018 годзе, вынес яго на рэферэндум фермер Армін Капаўль. Ён прапаноўваў увесці субсідыі сялянам, якія не будуць прыпякаць рогі цялятам і казлянятам, як традыцыйна прынята ў Швейцарыі. 53% прагаласавалі супраць.

Агульнанародна вырашалі і вельмі сур'ёзныя пытанні, напрыклад, якое права — нацыянальнае або міжнароднае — будзе мець вяршэнства ў краіне (захаваўся прыярытэт міжнароднага права).

Пачынаючы з 1891 года і па стане на пачатак 2021 года з 482 вылучаных народных заканадаўчых ініцыятыў 345 атрымалі неабходную колькасць подпісаў, а ў 101 выпадку ініцыятыўны камітэт адклікаў прапанову. З 219 ініцыятыў, якія трапілі на ўсенароднае галасаванне, толькі 22 былі прынятыя народам і кантонамі.

### Уступаць ці не ўступаць?

Наступны дзейны інструмент швейцарскай прамой дэмакратыі — **абавязковы рэферэндум**. Ёсць шэраг тэм і выпадкаў, калі ўрад Швейцарыі абавязаны ўзгадніць сваё рашэнне з народам. Сярод іх, да прыкладу, частковае або поўнае змяненне федэральнай канстытуцыі, далучэнне да

## Мова арміі ў трохмоўнай краіне

У Швейцарыі прызыўнікоў групуюць у часці па той мове, якой яны аддаюць перавагу. У той жа час афіцэры на базавым узроўні валодаюць некалькімі дзяржаўнымі мовамі, гэта ўмова для службы.




**Нажы швейцарскіх салдат** сталі папулярнымі ва ўсім свеце.

арганізацый калектыўнай бяспекі ці наднацыянальнай міжнароднай арганізацыі. Першы такі рэферэндум адбыўся ў чэрвені 1848 года менавіта па пытанні ўзгаднення новай Канстытуцыі. Галасаванне на абавязковым рэферэндуме на федэральным узроўні таксама патрабуе падвоенай большасці.

## Швейцарцы праводзілі рэферэндумы на такія тэмы, як ліквідацыя арміі, забарона абсенту і масонства і захаванне рог у кароў

З цікавых прыкладаў — рэферэндум наконт уступлення Швейцарыі ў ААН. Упершыню галасаванне па гэтым пытанні адбылося ў сакавіку 1986 года. У выніку — падвоенае катэгарычнае «не» 76% выбаршчыкаў і ўсіх кантонаў. У сакавіку 2002 года зноў быў скліканы абавязковы рэферэндум па гэтым пытанні, на якім адказ ужо быў станоўчым, і Швейцарыя стала паўнапраўным членам ААН. Менавіта па выніках абавязковага рэферэндуму ў снежні 1992 года Швейцарыя адмовілася ад далучэння да Еўрапейскай эканамічнай прасторы, правобразу Еўрасаюза. Лёс ініцыятывы вырашыла перавага ў 23 тысячы галасоў, але нязгода на еўрапейскую інтэграцыю з боку кантонаў была больш



**Званочкі на каровах у Альпах** вешаюць таму, што так лягчэй адшукаць скацінку, якая зайшла за гару.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY OSCITY

адавочнай — супраць 16 з 26 кантонаў.

### Гандаль з Інданезіяй? На плебісцыт!

У 1874 годзе швейцарцы атрымалі права на **факультатыўны рэферэндум**. Па сутнасці, гэта права народа патрабаваць на сваё зацвярджэнне законы ці міжнародныя пагадненні.

### Узброены нейтралітэт

Швейцарыі ўдалося захаваць нейтралітэт падчас Другой сусветнай вайны. Гэта было дасягнута цаной максімальнай мабілізацыі: на піку Швейцарыя паставіла пад ружжо аж 850 тысяч чалавек са свайго на той момант 4-мільённага насельніцтва і бязлітасна збівала як нямецкія, так і амерыканскія самалёты. Але, каб захаваць нейтралітэт, Швейцарыі давялося пайсці на эканамічныя саступкі Рэйху. Акрамя таго, была і доля ўдачы: Гітлер адкладаў далучэнне Швейцарыі на пасля, напачатку знаходзіліся больш неадкладныя задачы, а пасля ўжо не было свабодных рэсурсаў, каб адолець 850-тысячную армію, усе сілы былі занятыя на франтах.

На якіх умовах ладзіцца такі рэферэндум? Для яго правядзення неабходна сабраць 50 тысяч подпісаў на працягу 100 дзён з моманту публікацыі закона або дамовы. Другі варыянт — калі гэтага запатрабуюць 8 кантонаў.

Самы свежы прыклад — лёс Пагаднення аб свабодным гандлі з Інданезіяй, вырашаны падчас агульнанацыянальнага галасавання 7 сакавіка 2021 года. Гэта пагадненне было ўзгоднена парламентам у снежні 2019 года. На працягу 100 дзён яго праціўнікі ініцыявалі рэферэндум, сабраўшы ў выніку амаль 62 тысячы подпісаў (каля 500 з іх былі прызнаныя несапраўднымі). Што не так з гэтым пагадненнем? На думку ініцыятараў рэферэндуму, павелічэнне аб'ёмаў імпарту пальмавага алею з Інданезіі ў Швейцарыю паставіць пад пагрозу швейцарскую вытворчасць сланечнікавага і рапсавага алею. Акрамя гэтага — заклапочанасць у сувязі з парушэннем правоў чалавека ў Інданезіі, знішчэннем трапічных лясоў і гэтак далей.

Прыхільнікі пагаднення — швейцарскі бізнэс і ўрад — ▸

рэкамендавалі яго ўхваліць, матывуючы неабходнасцю захавання і ўмацавання Швейцарыяй сваіх замежнаэканамічных пераваг. Да таго ж у дамове былі спецыяльныя артыкулы, што мусілі рэгуляваць выкананне экалагічных і сацыяльных стандартаў. І гэтыя аргументы знайшлі падтрымку народа: на карысць пагаднення прагаласавалі 52 працэнты выбаршчыкаў. Дарэчы, менавіта на такім рэферэндуме ў свой час было вырашана пытанне аб удзеле Швейцарыі ў Шэнгенскай дамове.

## Уся ўлада мясцовым саветам

Гістарычна практычнае прымяненне прамой дэмакратыі ў Швейцарыі пачалося на мясцовым узроўні. Напрыклад, правы на галасаванне па канстытуцыйных зменах і новых законах спачатку атрымалі жыхары кантона Цюрых у 1869 годзе. Потым гэтая новая практыка пачала распаўсюджвацца на іншыя кантоны, а ў 1874 і 1891 гадах грамадзяне Швейцарыі прагаласавалі за ўвядзенне факультатыўнага рэферэндуму і народнай заканадаўчай ініцыятывы на федэральным узроўні.

Колькасць подпісаў для склікання рэферэндуму ў кантонах залежыць ад колькасці насельніцтва, але складае не больш за два працэнты (у Беларусі для мясцовага рэферэндуму трэба сабраць 10 % подпісаў ад агульнай колькасці жыхароў, але ў рэальнасці такое права яшчэ нікому не ўдалося ажыццявіць).

## Сход на лузе

З’ява, падобная да рэферэндуму, існавала ў швейцарскай дзяржаве з часоў яе заснавання. У «першапачатковых» кантонах (Швіц, Уры, Унтэрвальдэне) пытанні дзяржаўнай значнасці вырашаліся народным сходам на лузе — раз на год, звычайна ўвесну. Самы даўні сход, запіс пра які захаваўся ў летапісах, адбыўся ў 1294 годзе ў кантоне Швіц. На сходы збіралася ўсё мужчынскае насельніцтва, старэйшае за 14 гадоў. Яны вырашалі ўсе найважнейшыя пытанні, а таксама абіралі службовых асоб. Удзельнікі сходу галасавалі ўзняццем рук.

Цікава, што ў некалькіх кантонах (Глярус, Апенцэль-Інэрадэн) амаль нічога не змянілася з тых сівых часоў. Так, штогод у першую нядзелю мая ў цэнтры Гляруса склікаецца так званае Ландсгэмайндэ — збор усіх грамадзян на плошчы з мэтай вырашэння найважнейшых пытанняў шляхам узняцця


DEPOSITPHOTOS.COM, BY CROMAM70


DEPOSITPHOTOS.COM, BY CHARLY7777

Швейцарскі горад Глярус з'яўляецца пабрацімам нашага Кобрына. **Менавіта ў Глярусе знаходзіцца адзіны пункт рэкрутавання Папскай швейцарскай гвардыі, якая ўжо пяць стагоддзяў абараняе Ватыкан.** Нават у «палявой», сіняй форме гвардзейцы глядзяцца экзатычна. Уніформа была створаная ў пачатку XX стагоддзя на аснове малюнкаў часоў Адраджэння і з таго часу не мянялася. Як і ўзбраенне — алебарды і шпагі.
У месяц швейцарскі гвардзеец атрымлівае 1360 еўра чыстымі плюс бясплатнае жытло і харчаванне.
У гвардыю бяруць нежанатых мужчын росту ад 174 см і ўзросту ад 19 да 30 гадоў.

рук. Напрыклад, падчас сходу ў 2019 годзе вырашаліся такія разнастайныя пытанні, як абранне члена вышэйшага кантанальнага суда, узровень падатковай стаўкі, часы працы крамаў у выходныя і святочныя дні і зніжэнне падатку на прыбытак для прадпрыемстваў кантона з 8 да 4,5 працэнта.

Падлік галасоў ажыццяўляецца «на вока», грамадзяне давяраюць старшыні (кіраўнік урада кантона).

Дарэчы, выбарчае заканадаўства заўсёды знаходзілася ў падпарадкаванні кантонаў,

## Ці могуць жанчыны выбіраць?

Цікавая гісторыя адбылася 30 красавіка 1989 года ў кантоне Апенцэль-Аўсерадэн, у якім народны сход існаваў да 1997 года. Тады на сходзе грамадзян разглядалася пытанне надання жанчынам выбарчых правоў. Памочнікам, якія займаліся падлікам галасоў, не ўдалося вызначыць, якое ж рашэнне было ўсё-такі прынята грамадзянамі, а таму ў выніку менавіта старшыня ўрада ўзяў на сябе адказнасць і выказаўся на карысць увядзення ў кантоне выбарчага права для жанчын.

Трэба дадаць, што на федэральным узроўні ў Швейцарыі жанчыны атрымалі права голасу толькі ў 1971 годзе па выніках нацыянальнага рэферэндуму (першая спроба адбылася ў 1959 годзе і была няўдалай). У кантоне Апенцэль-Аўсерадэн гэтае пытанне паўставала на сходзе ажно тры разы (у 1972, 1976 і 1984 гадах), і кожны раз грамадзяне ўпарта выказваліся супраць выбарчага права для жанчын на ўзроўні кантона. Чарговы адмоўны вотум пагражаў сур'ёзнымі праблемамі ў адносінах з Бернам.

Канчаткова жанчыны атрымалі выбарчае права на ўсіх узроўнях ва ўсіх кантонах толькі ў 1990 годзе.


ПОШТА SWISSINFO. CH

таму менавіта мясцовыя ўлады самі вызначалі тых, каго варта пазбавіць права голасу. У некаторых кантонах у спіс пазбаўленых траплялі дэбашыры, п'яніцы і людзі, якія не плацілі па рахунках у піцейных установах, наёмныя салдаты, жабракі і валацугі, а таксама асобы, якія фальсіфікавалі выбары.

## Асобаў, якіх лавілі на фальсіфікацыі выбараў, у Швейцарыі пазбаўлялі права голасу

І ўсё ж выбарчае махлярства, падтасоўкі і ўкіды здараюцца і ў Швейцарыі. Гучны выпадак фальсіфікацыі адбыўся ў пачатку 2020 года падчас мясцовых выбараў у кантоне Тургаў. Там партыйныя спісы, пададзеныя на карысць адной партыі, былі замененыя на карысць іншай. Але такія выпадкі выключэнне, бо кожны выяўлены факт старанна расследуецца і караецца.

### Народ супраць халявы

З боку закона нішто не замінае швейцарцам зладзіць рэферэндум пра салодкае жыццё і, узгаднíўшы яго, патрабаваць грошы з неба ад дзяржавы. На шчасце, вялікая грамадзянская адказнасць адхіляе адкрытыя спробы халявы. Аб гэтым кажуць дзіўныя факты нязгоды народа з прапановамі, з якімі, здаецца, нельга не пагадзіцца. Напрыклад, адказныя швейцарцы катэгарычна адхілілі законапраекты аб зніжэнні ўзросту выхаду на пенсію (1978 год), мерах па зніжэнні рознічных цэнаў на медыкаменты (2001), ▶

## Галасаванне па пошце

Больш за 90 працэнтаў швейцарскіх выбаршчыкаў цяпер галасуе па пошце. Такая магчымасць з'явілася пры канцы 1970-х гадоў з мэтай павелічэння яўкі.

Каб людзі маглі арыентавацца ў пытаннях, якія выносяцца на рэферэндум, урад выдае спецыяльныя памяткі да кожнага федэральнага галасавання. У гэтай брашуры на трох дзяржаўных мовах утрымліваюцца тлумачэнні, аргументы «за» і «супраць» і рэкамендацыі, каб любы выбаршчык мог зразумець ініцыятыву або пытанне, па якім будзе галасаваць, нават калі дагэтуль нічога па тэме не чуў.


WIKIMEDIA COMMONS

**Мюслі — вынаходства швейцарцаў.**





Вулічны рынак у Берне.

устанаўленні мінімальнага аплачанага адпачынку ў шэсць тыдняў (2012) і заканадаўчую ініцыятыву аб павелічэнні тэрміну аплачанага адпачынку (1985).

Найбольш яскравы прыклад грамадзянскага супрацьдзеяння халяве адбыўся ў 2016 годзе, калі швейцарцы пераважнай большасцю (78% супраць) адмовіліся ад увядзення безумоўнага базавага даходу — кожнаму грамадзяніну прапаноўвалася каля 2,5 тысячы долараў ЗША штомесячных выплат, а дзецям — чвэрць гэтых грошай.

## Хто зразумеў жыццё, той болей не спяшаецца

Пагроза рэферэндуму прымушае палітычныя сілы шукаць кампраміс. Але ў выніку прыняцце неабходных рашэнняў можа зацягнуцца, а часам і наогул блакуецца на дзесяцігоддзі, паколькі бакі не могуць дамовіцца. Гэта можа тычыцца як неабходнага змянення састарэлых нормаў, так і, напрыклад, будаўніцтва важнага аб'екта — дарогі, тунэля ці моста.

Швейцарцы трымаюцца амаль амар-хаямаўскага падыходу: хто зразумеў жыццё, той больш не спяшаецца. Не з першай, дык з другой, трэцяй ці чацвёртай спробы, як у выпадку з выбарчымі правамі для жанчын, але прымальнае для большасці рашэнне будзе знойдзена.

## Швейцарскія ўрокі для нешвейцарцаў

Каб выдатна скарыстацца швейцарскім досведам прамой дэмакратыі, трэба быць Швейцарыяй: мець адпаведную палітычную сістэму, гісторыю, традыцыі і культуру. Тым не меней і без усяго пералічанага можна зрабіць карысныя высновы.

Першая выснова: дыктат палітычнай волі знізу ўверх, а не наадварот спрыяе поспеху краіны. Швейцарыя багатая і мірная.

Па-другое: не трэба ніякага парогу яўкі для прызнання вынікаў галасавання сапраўднымі. Няўдзел у галасаванні — гэта ж таксама грамадзянская пазіцыя.

І апошняе: каб грамадзяне адчувалі сябе грамадзянамі, удзельнічаць у палітыцы павінна быць проста. Любы чалавек павінен мець права назіраць за падлікам галасоў, любая група людзей павінна мець лёгкую магчымасць вынесці пытанне на рэферэндум. ◆

# «Беларускія» мясціны Швейцарыі



WIKIMEDIA COMMONS

## Помнік Касцюшку ў горадзе Залатурн

У Залатурне Тадэвуш Касцюшка правёў свае апошнія гады. У кастрычніку 2017 года там з'явіўся помнік гэтаму герою многіх народаў, усталяваны дзякуючы намаганням кіраўніка Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі Алеся Сапегі.

Ёсць у Залатурне і музей Касцюшкі — у доме, дзе ён жыў.

## Магдалена Радзівіл у Фрыбуры

Да 2017 года на старых могілках ля царквы ў мястэчку Бургіён каля Фрыбура знаходзілася магіла Марыі Магдалены Радзівіл. Яна жыла ў Швейцарыі з 1932 года да сваёй смерці ў 1945-м. Месца яе пахавання адзначана памятнай шыльдай, вырабленай беларускім скульптарам Максімам Петрулём. Прах жа гэтай славутай мецэнаткі цяпер у Мінску, пры касцёле Святога Роха на Залатой Горцы.




ФОТА ПАЎЛА МАЦУКЕВІЧА

**Гэтая прыгожая шыльда ўжо павешаная ў Бургіёне** і чакае ўрачыстага адкрыцця.

## Вітражы Шагала ў Цюрыху

Адна з цэнтральных славутасцяў Цюрыха — былая манастырская царква Фраўмюнстэр — набыла ▶

PINTEREST.COM


WIKIMEDIA COMMONS

сусветную вядомасць, калі ў ёй у 1970 годзе з’явіліся пяць вітражных вокнаў работы Марка Шагала. Ён працаваў над імі два гады.

### Творы Геніна ў Базелі

Мастак з Магілёўшчыны Роберт Генін меў свой дом у Асконе, сябраваў з буйным базельскім мецэнатам Карлам ім Оберштэгам, які сабраў знакамітую калекцыю мастацкіх твораў. У 2002 годзе збор Оберштэга быў перададзены на захоўванне ў Базельскі мастацкі музей, у тым ліку і найбуйнейшая калекцыя твораў Роберта Геніна, якая ўключае не толькі жывапіс, але і лісты майстра.

### Слуцкія паясы ў Раперсвілі

У зборы Польскага музея ў сярэднявечным замку ў мястэчку Раперсвіль на Цюрыхскім возеры змяшчаюцца тысячы мастацкіх твораў, кніг і дакументаў, якія складаюць спадчыну польскай эміграцыі ў Швейцарыю. Тут можна знайсці і беларускія рэчы. Напрыклад, гербы гарадоў ВКЛ. Але галоўны скарб, які захоўваецца там, — знакамітыя слуцкія паясы. Замак Раперсвіль вядомы і тым, што да 1927 года ў яго вежы захоўвалася урна з забальзамаваным сэрцам Тадэвуша Касцюшкі.


ФОТА ПАЎЛА МАЦУКЕВІЧА

**Сапраўдныя паясы ў музеі Раперсвіля.**

### Вуліца імя Ганны Тумаркінай

Адна з прылеглых да старога корпуса Бернскага ўніверсітэта вуліц носіць назву *Tumarkinweg* — у гонар ураджэнкі Беларусі Ганны Тумаркінай, першай у Еўропе жанчыны — прафесара філасофіі. Яна жыла ў Швейцарыі з 1892 года. У памяць пра філасофа ва ўніверсітэце арганізавана навуковая праграма *ANNA*. У холе старога корпуса Бернскага ўніверсітэта Ганне Тумаркінай прысвечаны вялікі інфармацыйны стэнд.



ФОТА ПАЎЛА МАЦУКЕВІЧА

**Кветкі на вуліцу Ганны Тумаркінай** прынеслі мясцовыя беларусы.

# Rösti ды Emmental




Rösti папросту.

*Rösti*, рошчі — гэтая швейцарская страва лёгка можа стаць штотыднёвай на вашым стале.

Націраем бульбу, але не на дробную, а на буйную тарку. І смажым. Можна дранікамі, можна вялікім пляцкам.

Есці гэта можна і проста так, са смятанай і чаем, як дранікі, і з грыбамі ці мясам.

Учарашнюю *rösti* крута разаграваць з яечняй на сняданак. А ў спалучэнні з чырвонай ікрой — гэта эфектная святочная страва.

Увогуле, у аснове традыцыйнай швейцарскай кухні — бульба і малочныя прадукты, зусім як у беларусаў. Прычым, як і мы, швейцарцы ўжывалі мінімум спецый. Але калі беларусы елі белыя сыры і тварагі, то швейцарцы — жоўтыя сыры, найперш класічныя «швейцарскія сыры» *Emmental* (эменталь) і *Gruyere* (груер). І той, і той вырабляюцца з каровінага малака.

## Швейцарскі сыр

Якасць швейцарскага сыру эменталь знаўца лёгка вызначыць па структуры дзірак і тэкстуры.

Дзіркі павінны быць вялікія і гладкія, а сыр на зрэзе зусім не павінен зярніцца, а мае роўна блішчэць.

Самы смачны эменталь — ад мая да кастрычніка, а аптымальны перыяд яго вытрымкі — тры месяцы.

Дарэчы, добры швейцарскі сыр вельмі смачны з вінаградам.

Правільны эменталь, у адрозненне ад правільнага пармезану, адносна мяккі.

Швейцарскі сыр вырабляецца гіганцкімі — па 90 кг, мужык не падніме — галоўкамі.
Так склалася гістарычна: у XIX стагоддзі мыта* за вываз гэтага сыру плацілі не па вазе, а па колькасці галовак. Прагматычныя швейцарскія сяляне цудоўна прыстасаваліся да такой заканадаўчай нормы.

Пэўны час някепскае падабенства швейцарскага сыру выраблялі ў Бярозе пад брэндам «Радзівіл», але, здаецца, цяпер ён канчаткова знік з паліц.

## Загадка дзірак у сыры

Загадку дзірак у сыры, дарэчы, разгадалі зусім нядаўна, усяго пяць гадоў таму. Навукоўцы раскусілі, што дзіркі ўтвараюцца ў выніку траплення ў малако падчас даення кароў мікраскапічных часцінак сена. У працэсе ферментацыі сыру па такой тэхналогіі, па якой робіцца эменталь, гэтыя часцінкі выдзяляюць некаторую колькасць газу. У гэтых месцах і робяцца дзіркі. Кур'ёзнае, здавалася б, адкрыццё мецьме і немалое эканамічнае значэнне. Зараз вытворцы змогуць рэгуляваць колькасць дзірак у сыры на кожны густ.

Купіце сапраўдны эменталь, угледзьцеся ў яго ў разрэзе і памацайце пальцам, нібы спрабуючы прадушыць. Так мусіць выглядаць добры, якасны жоўты сыр гэтага тыпу. Ён не павінен крышыцца і не павінен прагінацца пад пальцам.




* Бел. **мыта** (яно), **мыт** (ён) = рус. *таможенная пошлина*. Ад слова «мыта» і пайшло беларускае слова «мытня» — месца, дзе спаганяюць мыта.

## Змагайся за, а не з

# МАХАТМА ГАНДЗІ

«Спярша яны цябе не заўважаюць, пасля смяюцца, затым змагаюцца з табой. А потым ты перамагаеш»

WIKIMEDIA COMMONS

**Худы чалавечак у акулярах, у даматканай мужчынскай спадніцы дхоці, з кійком у руках — такім ён запомніўся. Хоць насіў і цыліндры, і перламутравы гальштук. Разам са сваім народам Махатма прайшоў доўгую эвалюцыю. Піша Паўліна Скурко.**

Індыя ў часы Гандзі знаходзіцца пад кантролем Вялікабрытаніі. Большасць чыноўнікаў — брытанцы, якія маюць асаблівыя правы, напрыклад, ездзіць першым класам.

Адносіны ў вёсцы паўфеадальныя: сяляне плацяць падатак, зямельную рэнту, аддаюць частку ўраджаю. Большасць з іх жыве ў доўг.

Сярэдняя працягласць жыцця — 23 гады.

Брытанія забірае рэсурсы і практычна нічога не ўкладае ў развіццё. Прамысловасць і інфраструктура: шахты, чыгунка, фабрыкі апрацоўкі бавоўны — працуюць на тое, каб вывозіць багацце ў метраполію.

Брытанцы дазваляюць газеты, але цэнзуруюць іх, адкрываюць тры ўніверсітэты, але закрываюць на іх юрфакі.

У такой краіне рос маленькі Махандас Карамчанд.

### Індыя

другая дзяржава свету пасля Кітая па колькасці насельніцтва. У ёй жыве больш за 1,3 млрд чалавек. Па плошчы (3,29 млн кв. км) Індыя займае сёмае месца ў свеце. Але ў часы Гандзі тэрыторыя таго, што разумелася як Індыя, была большая, на ёй цяпер знаходзяцца яшчэ дзве незалежныя дзяржавы — Пакістан і Бангладэш. Гэта былі тэрыторыі з мусульманскай большасцю.

Індыя — адзін з найбольш разнастайных у культурным, моўным, генетычным плане рэгіёнаў на планеце. Людзі тут гавораць больш чым на 1500 мовах і дыялектах індаеўрапейскай і дравідыйскай моўных сем'яў.

Каля 80% сучасных індыйцаў спавядаюць індуізм, але шмат (каля 13%) таксама мусульман, ёсць хрысціяне, сікхі, бахаі, будысты, джайністы і інш.

Дзяржаўныя мовы незалежнай Індыі — хіндзі і англійская. Адмовіцца ад англійскай дзяржава дагэтуль так і не здолела, хоць і хацела. Акрамя таго, у Індыі яшчэ 20 афіцыйных моў у розных штатах. А штатаў тут — 29, плюс яшчэ 7 т. зв. саюзных тэрыторый.

### Сям'я

«Спярша яны цябе не заўважаюць, пасля смяюцца, затым змагаюцца з табой. А потым ты перамагаеш». Махандас Гандзі быў майстрам афарызмаў. Але як ён ім стаў? Няўпэўнены ў сабе малады адвакат упадаў у ступар, бляднеў, чырванеў і не мог на судзе сказаць ані слова. «Свет круціўся ў мяне перад вачыма, і я прасіў калегу прачытаць маю прамову!» Але гэта сыграла сваю ролю — каб не заблытацца ад хвалявання,


WIKIMEDIA COMMONS

**Першае фота Гандзі.** На ім Махандасу Карамчанду 7 гадоў.

### Міжнародны дзень ненасілля

Махандас нарадзіўся ў 1869 годзе. Дата яго нараджэння — 2 кастрычніка — з падачы ААН адзначаецца як Міжнародны дзень ненасілля.

Гандзі стараўся гаварыць мала: «Я ўзяў за звычку сціскаць сваю думку». З гэтага нарадзіўся яго афарыстычны стыль.

Увогуле, юны Гандзі хацеў стаць доктарам. Але супраць выступіў старэйшы брат: «Ты не таго паходжання, каб рэзаць трупы». Ну што ж, юрыст дык юрыст.

Махандас быў з заможнай сям'і. І бацька, і дзед працавалі на вельмі высокіх пасадах у каланіяльнай адміністрацыі.

**І бацька, і дзед Гандзі працавалі на вельмі высокіх пасадах у каланіяльнай адміністрацыі**

У 13 гадоў Махандаса ажанілі з дзяўчынкай Кастурбай, старэйшай на год. Каб выйшла танней, вяселле спалучылі з другім, стрыечнага брата, хлопчыка таго ж узросту. Пасля вяселля малады «муж» працягваў хадзіць у школу.

«Я быў баязліўцам. Мяне пераследаваў страх зладзеяў, зданяў і змей. Я баяўся выйсці за дзверы ноччу. Я не мог спаць без святла, я ўяўляў зданяў, якія ідуць на мяне з аднаго боку, зладзеяў — з другога і змей — з трэцяга», — адчуванні маладога мужа. ▶

▶ «Прызнавацца ў гэтым жонцы я саромеўся. Яна не баялася ні змей, ні зданяў. І магла пайсці ў цемры куды заўгодна».

У шлюбе нарадзілася чацвёра дзяцей. Старэйшы сын назло бацьку прыняў іслам. Ён не хацеў змагацца за Індыю, адмаўляцца ад даходаў. Ён працаваў адвакатам, многа траціў і жыў у асалоду. На бацькавым пахаванні ён пабываў інкогніта, а праз год памёр ад цырозу. А трое іншых сыноў сталі паслядоўнікамі Махатмы.

## Зарок

Жонка Гандзі Кастурба ўсё жыццё заставалася непісьменнай. Адносіны ў сям'і былі няпростыя. «Жонка стала для мяне першым прыкладам негвалтоўнага супраціву».

«Ты ўзваліў на мяне ўсё, ты прымусіў мяне плакаць горкімі слязьмі, ператварыў у рабыню!» — папракала яна яго. У іх дома пастаянна нехта гасцяваў, еў... Аднойчы Гандзі запрасіў да сябе чалавека з касты недатыкальных і раніцай сабраўся вынесці за ім начны гаршчок. Такімі дзеяннямі ён імкнуўся падтрымліваць недатыкальных, многія з якіх працавалі асенізатарамі, Гандзі называў іх «дзецьмі Божымі». «Жонка не хацела дапусціць, каб гэты гаршчок выносіў я, але і сама не жадала гэта рабіць», — успамінаў Гандзі. Яна плакала і лаялася, а муж настойваў, каб яна «з радасцю» зрабіла гэту працу. Разгарэлася сварка, і Гандзі ў гневе выпхаў жонку з дому. Потым, канечне, каяўся.

У маладосці Махандас моцна раўнаваў Кастурбу. Баяўся, што яна здрадзіць. А ў 37 гадоў пара вырашыла назаўжды адмовіцца ад фізічнай блізкасці. «Нарэшце наш шлюб стаў шчаслівым і спакойным!» — пісаў Махандас. Для яго гэта было чарговае духоўнае практыкаванне.

На Гандзі вельмі паўплываў выпадак, які здарыўся ў яго 15 гадоў. Звычайна пасля школы хлопец сядзеў ля моцна хворага бацькі, але яму ўвесь час карцела бегчы да жонкі. І вось аднойчы ён развітаўся з татам, паляцеў да Кастурбы, а праз некалькі гадзін даведаўся, што


DEPOSITPHOTOS.COM_BY BELYAEV71


WIKIMEDIA COMMONS

**Дом, у якім нарадзіўся Гандзі ў горадзе Парба́ндар, штат Гуджарат.** Парбандар знаходзіцца на захадзе Індыі, на беразе Індыйскага акіяна. Яго называюць Белым горадам, бо многія дамы тут збудаваныя з белага каменю. Праз разныя вокны, якія рассейваюць яркае сонечнае святло, маленькі Махандас глядзеў на свет.


WIKIMEDIA COMMONS

**На гэтым фота Гандзі (злева) ужо год як муж, яму тут 14 гадоў.** Ён усё яшчэ школьнік.

### Вялікая душа

Індуісцкім тэрмінам «Маха́тма» — «вялікая душа» — назваў 46-гадовага Гандзі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат Рабіндранат Тагор. Так гэта імя і замацавалася, хоць пры нараджэнні Гандзі атрымаў імя Маханда́с Карамча́нд.

## Родная мова

Родная мова Гандзі — не хіндзі, а гуджараці. Гэтая мова з індаарыйскай падгрупы індаеўрапейскай сям'і распаўсюджаная на захадзе Індыі, у асноўным у штаце Гуджарат. Колькасць яе сучасных носьбітаў — каля 45 млн чалавек.

А паводле саслоўнай прыналежнасці ён паходзіў з варны вайш'яў — трэцяй (з чатырох) па значнасці ў індыйскім традыцыйным грамадстве. Яе складалі землеўладальнікі і гандляры.

тата памёр. Махандас усё жыццё перажываў, што не быў побач. Калі ў пары нарадзілася першае дзіця і неўзабаве памерла, Гандзі палічыў, што гэта пакаранне за яго юрлівасць, пажаднасць.

Адмовіўшыся ў 37 гадоў ад фізічнай блізкасці, ён нарэшце скінуў з сябе камень віны. Як на тое глядзела Кастурба, невядома. Знешне яна ва ўсім падтрымлівала мужа. Прадаўшы дом, раздаўшы каштоўнасці і ўборы, жыла разам з ім у паказной галечы, часта пад адкрытым небам. Ці не шкадавала? «Самае важнае ў жыцці — выбраць адзін кірунак і забыцца пра ўсе астатнія».

### Лондан

Пасля школы Махандас Гандзі, на той момант ужо бацька дваіх дзяцей, вырашыў паступіць ва ўніверсітэт. Хлопец выбраў адзін з самых дарагіх каледжаў Лондана: дарагі значыць якасны, меркаваў ён. Вялікая сям'я доўга не хацела адпускаць хлопца ў Еўропу. Калі Махандас пастанавіў усё ж ехаць, кіраўнік грамады адлучыў яго ад касты: «Ад сёння гэтае дзіця становіцца парыяй» (праз некалькі дзесяцігоддзяў знакамітага Гандзі прынялі назад).



19-гадовым Махандас клянецца не ўжываць мяса, не здраджваць жонцы і не піць. Тады маці адзявае яму на шыю пацеркі са свяшчэннага дрэва туласі і бласлаўляе на ад'езд. Кастурба з двума сынамі застаецца чакаць дома.

На еўрапейскую зямлю Гандзі ступіў у белым фланелевым касцюме — ён меркаваў, што сальецца з натоўпам. Але аказалася, што ў белае еўрапейцы адзяваюцца толькі ў спякотнай Індыі.

Першы час у Еўропе яму было асабліва цяжка — ён вельмі кепска гаварыў па-англійску: «Я не паспяваў зразумець сэнс фраз, а нават калі і паспяваў, то не мог адразу адказаць. Я будаваў у галаве кожны сказ, перш чым вымавіць. Я не ўмеў карыстацца нажом і відэльцам».

Наперадзе — гады спазнання заходняга жыцця і адначасова — сябе. Гандзі стараецца апранацца як сапраўдны англічанін: «Шаўковы цыліндр, накрухмалены каўнерык, шаўковая кашуля і асляпляльны гальштук усіх колераў вясёлкі. Касцюм-тройка, скураныя лакавыя туфлі з гетрамі, пальчаткі і кій са срэбнай булавешкай». У імкненні стаць джэнтльменам ён запісваецца на танцы і скрыпку. Але ні адно, ні другое яму не даецца. Затое сябры-вегетарыянцы падсоўваюць кнігі па гісторыі рэлігій. Ён глытае іх усе, захапляецца Бібліяй ды Каранам і звяртаецца да тэарэтычных асноў індуізму, якімі раней не цікавіўся. У кнізе «Бхагавадгіта» (гэта «індыйская Біблія», напісаная ў форме ►




**Гандзі быў вегетарыянцам.** А падчас вучобы ў Лондане адкрыў для сябе шпінат.

## Вегетарыянства

Гандзі былі вернікамі-індуістамі і вегетарыянцамі. Аднойчы Махандас вырашыў пакаштаваць казляціну і больш ніколі такога не рабіў, бо «мне здалося, што ў маім страўніку крычыць жывая каза».

У Лондане яму прыйшлося жыць на капусце і хлебе з варэннем. Паступова, праўда, хлопец знайшоў некалькі дзясяткаў вегетарыянскіх рэстаранчыкаў, выпісаў вегетарыянскі часопіс і пазнаёміўся з вегетарыянскім клубам. Ён адмовіўся ад спецый і слодычаў, перайшоў на сырую гародніну. Да свайго здзіўлення, палюбіў шпінат!

Раней Махандас дапускаў думку, што Індыя саступае брытанцам, бо спажывае мала мяса. (Прычым не толькі з ідэйных меркаванняў: у клімаце Індыі яго было немагчыма захоўваць. У многіх крамах дагэтуль куры прадаюцца жывымі, іх забіваюць проста пры пакупніку.)

Цяпер Гандзі вырашыў наадварот: ахімса — ненанясенне шкоды ўсяму жывому — прынцып, які ўратуе Індыю.

дыялогу героя-царэвіча Аджуны і бога Крышны) Гандзі знаходзіць падставы свайго будучага вучэння: самаадданасць і адрачэнне ад багацця.

Нягледзячы на добрыя адзнакі, Гандзі — слабы адвакат, бо сарамлівы. Але ён стараецца. Урэшце знаходзіць працу аж у паўднёвай Афрыцы. Яго наймае купец-мусульманін індыйскага паходжання. Кастурба з двума сынамі працягвае чакаць мужа ў Індыі.

Калі праз шмат гадоў першы чарнаскуры лідар Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нэльсан Мандэла прыехаў у Індыю, ён прамовіў: «Вы далі нам Гандзі, а мы вам — Махатму». 25-гадовы юрыст Махандас Гандзі не ведаў, што Афрыка зробіць яго сусветнай знакамітасцю і духоўным лідарам.

### Нараджэнне Махатмы

Гандзі правёў у Афрыцы гады з 1893-га па 1914-ы. У сарамлівым адвакаце адкрыўся талент медыятара, ён здорава ўмеў мірыць бакі. Зарабляў на гэтым добрыя грошы. Ён змог купіць добры дом і прыгожа яго абставіць, перавёз сям'ю.



WIKIMEDIA COMMONS

**Гандзі з работнікамі свайго адвакацкага бюро** ў паўднёваафрыканскім Дурбане.

На баку Брытаніі ён удзельнічаў у войнах з бурамі, нашчадкамі галандскіх каланізатараў, і з зулусамі, карэнным народам Афрыкі. Можна было б чакаць, што ён стане на бок прыгнечаных, але не: і там, і тут Гандзі абараняў імперыю. Тады ён яшчэ верыў у імперыю, у тое, што будучыня Індыі — у складзе імперыі, проста змагаўся супраць расізму ў ёй. Тады яшчэ ён меркаваў, што для дасягнення роўнасці індыйцам трэба ва ўсім пераймаць еўрапейцаў: вопратку, манеры, этыкет — і такім чынам далучыцца да цывілізацыі.

Дыскрымінацыю Гандзі адчуў адразу: на суд у Іаганесбургу ён прыйшоў у еўрапейскім гарнітуры і індыйскім турбане. Ахоўнікі вывелі яго з залы.

У часы Гандзі жыхары поўдня Афрыкі — гэта брытанцы, буры, аўтахтоннае чарнаскурае насельніцтва... І індыйцы (у ПАР і сёння найбольшая ў свеце індыйская дыяспара). Чорныя і індыйцы — у бяспраўным становішчы, ім нельга хадзіць па тратуарах, ездзіць у дыліжансах...

У сярэдзіне XIX стагоддзя брытанцы запрашалі індыйскіх рабочых на плантацыі цукровага трыснягу. Каб завабіць на край свету, кожнаму абяцалі зямельны ўчастак пасля пяці гадоў працы. Індыйцы хутка засялілі добрую частку рэгіёна, развілі бізнэс... Але ў 1867-м тут знайшлі алмазы. Брытанскі бізнэс усур'ёз узяўся цясніць канкурэнтаў-індыйцаў. Адзін за адным сталі прымацца законы супраць іх, каб вымусіць прадаць зямлю, бізнэс і з'ехаць.

Аднойчы начальства адправіла Гандзі на разбіральніцтва ў Прэторыю. Мужчына ўзяў квіток першага класа, сеў у купэ і паехаў, любуючыся афрыканскай прыродай. Праз нейкі час у купэ зайшоў спадарожнік. Пабачыўшы суседам азіята, ён прыйшоў у шал! Праваднікі сталі ўпрошваць Гандзі перайсці ў трэці клас, прызначаны для чарнаскурых і азіятаў, але той упіраўся, паказваючы свой законна набыты квіток. На станцыі Пітэрмарыцбург паліцыя выкінула Гандзі з цягніка разам з чамаданам. Ноч у зале чакання на гэтым


WIKIMEDIA COMMONS

**У вайне з бурамі**, нашчадкамі галандскіх каланістаў Афрыкі, Гандзі ўдзельнічаў на баку Брытаніі.




**Стары вакзальчык у паўднёваафрыканскім Пітэрмарыцбургу.** Тут Гандзі быў вымушаны пераначаваць, калі яго выкінулі з цягніка за колер скуры, і гэта ноч вызначыла яго жыццё.




**Помнік Гандзі ў Іаганесбургу**, Паўднёвая Афрыка.

правінцыйным вакзальчыку стала самай драматычнай у яго жыцці. Ён разважаў: вярнуцца ў Індыю ці далей жыць у прыніжэнні? І праз некалькі гадзін прыняў ключавое рашэнне.

Цяпер будынак вакзальчыка ў Пітэрмарыцбургу — месца паломніцтва. Як і турма ў Іаганесбургу, дзе Гандзі сядзеў разам з паплечнікамі.

## Мы не падпарадкоўваемся, але і не хаваемся

Улады брытанскай Афрыкі задумалі ўвесці рэгістрацыю: усе індыйцы з 8-гадовага ўзросту меліся рэгістравацца ў паліцыі і здаваць адбіткі пальцаў. «Нібы мы нацыя злачынцаў!» — гаравалі людзі. Паліцыя атрымала права без папярэджання заходзіць у дамы індыйцаў для праверкі. Непадпарадкаванне пагражала турмой і дэпартацыяй.

«Лепш памерці, чым пагадзіцца з падобным законам», — адрэагаваў Гандзі, якога ўжо добра ведалі як праваабаронцу.

Яго заклік быў просты, але наватарскі: мы не падпарадкоўваемся несправядліваму закону, але і не хаваемся ад адказнасці. Свой метад Гандзі назваў сацьяграхай, ад двух слоў на санскрыце — упартасць і ісціна.

«Вы гатовыя змагацца са злом да канца, страціць працу, сесці ў турму, цярпець катаванні, голад і нават памерці?» — пытае Гандзі ў натоўпу прыхільнікаў на мітынгу ў тэатры Іаганесбурга. Будзе цяжка, папярэджвае ён. Без пакутаў, без абмежаванняў ▶




**А такія краявіды ён назіраў з акна свайго купэ.**

▶ не бывае выніку. Але ў канцы мы пераможам.

Поўны тэатр рук узняўся ў знак падтрымкі. Пачалася першая сацьяграха.

«Задушыць грамадзянскае непадпарадкаванне немагчыма, як немагчыма пасадзіць свядомасць у турму», — піша Гандзі.

## Сацьяграха на санскрыце — упартасць і ісціна

На судзе за арганізацыю масавага мерапрыемства Гандзі горда заяўляе: так, гэта я лідар кампаніі грамадзянскага непадпарадкавання, прашу асудзіць мяне самым строгім чынам, калі толькі шаноўны суд лічыць, што Чорны закон справядлівы. У адказ мяккі вырак — 2 месяцы турмы.

Тактыка Гандзі працавала ва ўмовах прававой дзяржавы, якой была Брытанская імперыя. Яе законы маглі быць страшна несправядлівымі, але калі штосьці было незабароненае, то за гэта і не каралі, а суддзі былі рэальна незалежныя ад выканаўчай улады.

Тым часам дзве тысячы чалавек у знак пратэсту публічна спалілі свае рэгістрацыйныя пасведчанні.

Першы прэм'ер-міністр незалежнай Індыі Джавахарлал Неру потым пісаў: заслуга Гандзі — ён змог пазбавіць свой народ страху, падараваў яму ўпэўненасць у будучай перамозе. «Пад брытанскім панаваннем індыйскі народ адчуваў перш за ўсё страх — усёпаглынальны, прыгнятальны, задушлівы, страх перад арміяй, паліцыяй, шчупальцамі сакрэтных службаў, страх перад законамі, турмой, голадам... Менавіта супраць гэтага ўсюдыіснага страху падняў свой мірны і рашучы голас Гандзі: "Не бойцеся!"».




**Гэты малады адвакат прыдумаў сацьяграху** — метад негвалтоўнага, але настойлівага пратэсту.




### Радасць турэмнай аўсянкі

Страсці разаграваліся, і ў 1908 годзе Гандзі зноў апынуўся за кратамі. Яго асудзілі па некалькіх справах на больш як паўгода. Турма аказалася цалкам прыстойным месцам, піша Гандзі і дадае: «Сапраўдны шлях да шчасця — трапіць у турму і трываць пакуты дзеля сваёй краіны і сваёй рэлігіі». Ён перачытвае «Бхагавадгіту» і з радасцю гатуе для ўсіх сукамернікаў аўсянку без цукру.

Гандзі кажа, што трэба працягваць раздражняць урад і запаўняць турмы. Гатоўнасць трываць у імя справы — сведчанне пераканананасці ў сваёй рацыі і сур'ёзнасці намераў. І людзі самі масава ідуць у турмы: «губляюць» рэгістрацыі, гандляры — ліцэнзіі. Людзі групамі дэманстратыўна перасякаюць мяжу паміж калоніямі — гэта таксама парушэнне закона. Сусветная грамадскасць у шоку ад суровых пакаранняў за гэтыя дробныя, сімвалічныя парушэнні. «У Гандзі

### Трэці клас, бо няма чацвёртага

Ужо ў Індыі Гандзі заўжды ездзіў толькі трэцім класам, падкрэсліваючы сваю блізкасць да народа. Калі яго спыталі, чаму ён ездзіць трэцім класам, ён пажартаваў: «Бо няма чацвёртага».

заключана неймаверная духоўная сіла, якая ператварае звычайных людзей у герояў і пакутнікаў», — заўважае адзін з паплечнікаў.

Урэшце каланіяльным уладам даводзіцца арыштаваць столькі людзей, што турмаў не хапае. Гандзі радасны і разгублены. Яго садзяць у турму ў Прэторыі, у карцар без вокнаў. Яму звязваюць рукі і ногі...

Грамадская думка ва ўсім свеце падтрымала мірны пратэст, асабліва спачувалі зняволеным жанчынам. Пачала бурліць і Індыя — а гэта залатыя патокі ў Брытанію. Віцэ-кароль стаў рабіць прымірэнчыя жэсты. Перамовы доўжыліся месяц. І ўрэшце — перамога. Прыніжальныя законы супраць азіятаў скасавалі.

**«Я зусім не сцвярджаю, што кожны англійскі чыноўнік — пачвара. Аднак кожны чыноўнік працуе ў д'ябальскай сістэме, а таму, наўмысна ці не, ператвараецца ў прыладу несправядлівасці, хлусні і рэпрэсій»**

На перамовах Гандзі дорыць мясцоваму міністру па справах калоній генералу Яну Смэтсу ўласнаруч зробленыя сандалі. У такіх ішлі ўдзельнікі яго маршаў пратэсту. Забаўна: праз 26 гадоў, ►


WIKIMEDIA COMMONS

**Домік у ашраме Сабармаці, у якім доўгія гады жыў Гандзі.** Яго рабочым кабінетам быў матрацык-сеннічок для сядзення, каля яго — столік і калаўрот.. Побач знаходзіўся такі ж «кабінецік» сакратара.



## Ашрамы

Гандзі выступаў не толькі супраць расізму і за незалежнасць Індыі. Ён выношваў і ўтапічныя ідэі ўсеагульнай роўнасці. На яго думку, шчаслівае грамадства — гэта грамадства мясцовых супольнасцей, якое жыве аскетычна, без тэхналогій. Ён лічыў, што прагу грошай, гвалт, няроўнасць — усё гэта навязалі каланізатары. І калі яго радзіма вызваліцца ад брытанцаў, то зможа рэалізаваць мару пра сарвадаю — грамадства роўных, у якім усе займаюцца фізічнай працай.

Індыя — краіна кантрастаў. Супраць гэтых кантрастаў Гандзі змагаўся. Ён быў рамантык. У Афрыцы, а потым у Індыі ён стварыў некалькі супольнасцей (у індыйскай культуры такія месцы называюцца ашрамамі), дзе людзі маліліся, вучыліся рамёствам і спалі пад адкрытым небам.

Многія сучасныя індыйцы ставяцца да Гандзі дваяка менавіта праз гэтыя ідэі: «Я хачу рабіць і зарабляць, будаваць свой бізнэс і заможна жыць. Наўрад ці гэта тое, за што змагаўся Махатма», кажуць яны.

Але і ўтапічныя ідэі Гандзі пакінулі ў культуры Індыі глыбокі след. На сцягу Індыі, які распрацавалі яшчэ да часоў незалежнасці, размяшчалася выява калаўрота. Пазней яе замянілі на візуальна падобны, але абстрактны знак — кола дхармачакры (сімвала Дхармы — вучэння Буды аб шляху да асветы і вызвалення ад кармічных перараджэнняў). Аднак, паводле патрабаванняў, сцяг Індыі і ў наш час павінен выраблянца з хадзі — дамотканай матэрыі, якая стала сімвалам гандызму.





**Колер верхняй палоскі на сцягу Індыі называецца шафранавы.** Ніжняй — індыйскі зялёны.

на 70-годдзе Гандзі, Смэтс верне яму сандалі з жартам: «Я насіў іх кожнае лета, хоць і не адчуваў сябе вартым ісці па слядах такога вялікага чалавека».

Перамога забастоўкі, мірных пратэстаў неймаверна натхніла 45-гадовага Гандзі. Ён сабраў сям'ю і адправіўся дадому, у Індыю, дзе не быў больш за 20 гадоў, каб распаўсюдзіць сваю тактыку на радзіму. А на радзіме яго ўжо сустракалі як героя.

## Памылка велічынёй з Гімалаі

У Афрыцы Гандзі змагаўся супраць расізму, а ў Індыі — за незалежнасць. Але гэта быў таксама выключна мірны пратэст.

З аднаго боку, у індыйцаў проста не было зброі, яны не мелі з чым выступіць супраць брытанскай арміі і паліцыі. З другога — негвалтоўнасць была рацыянальнай стратэгіяй ва ўмовах Брытанскай імперыі. Для Гандзі гэта была таксама філасофія: «Усе мы з аднаго цеста, усе мы дзеці аднаго Творцы. Для мяне загадка, як людзі могуць ганарыцца тым, што прыніжаюць іншага».

1919 год. Індыя стомленая Першай сусветнай вайной — у складзе брытанскай арміі ваяваў амаль мільён індыйцаў. Цяпер яны чакаюць на новыя правы, свабоды, а магчыма, і статус дамініёна. Замест гэтага ўлады вырашаюць захаваць законы ваеннага часу: «Кожны, хто словамі, або жэстамі, або малюнкамі паспрабуе ўзбудзіць незадаволенасць урадам, падлягае пажыццёвай катарзе або турэмнаму зняволенню са штрафам ці без». Абураны Гандзі абвяшчае сацьяграху. Форма прыходзіць да яго ў сне — хартал.

**Хартал** — гэта рытуальнае ўстрыманне ад спраў, адначасова пост і забастоўка. Няхай усё насельніцтва на дзень пакіне свае заняткі і прысвяціць сябе малітве.

6 красавіка ўся Індыя не ідзе на працу. Акрамя таго, удзельнікі сацьяграхі вырашаюць парушыць закон аб продажы забароненай літаратуры і раздрукоўваюць дзве брашуры Гандзі. Попыт на іх неймаверны. Людзі наперабой хочуць прадэманстраваць сваю


ASHISH_UPADHYAY, WIKIMEDIA COMMONS

**Белы галаўны ўбор, падобны да пілоткі**, Гандзі прыдумаў у 1920-м як сімвал барацьбы за незалежнасць. Нешта падобнае насілі зняволеныя (і сам Махатма) у турмах Паўднёвай Афрыкі. Шапачку сталі насіць члены партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс і назвалі яе ў гонар стваральніка — гандзі. Хлопчык у шапачцы гандзі і пацерках з дрэва базіліка свяшчэннага, культавай расліны індуістаў.


WIKIMEDIA COMMONS

**Сям'я Гандзі** вярнулася ў Індыю знакамітай.

смеласць, кожны імкнецца заплаціць больш і з нецярпеннем чакае арыштаў. Сотні тысяч выходзяць на дэманстрацыі без усякай арганізацыі зверху... Пачынаецца сапраўдная рэвалюцыя: народ разбірае рэйкі, абразае правады.

Улады ў адказ разганяюць мітынгі, учыняюць публічныя поркі, а ў Амрытсары — свяшчэнным горадзе сікхаў — расстрэльваюць натоўп. Людзі там у пошуку паратунку сталі скакаць у калодзеж... Загінула 400 чалавек. Гандзі едзе туды, каб прымірыць і суцішыць, але паліцыя здымае яго з цягніка.

Гандзі раздушаны. Ён каецца, што заклікаў народ на пратэсты, калі той быў яшчэ не гатовы мірна змагацца. Заўчасную сацьяграху ён называе памылкай велічынёй з Гімалаі.

## Не купляць іх тавараў

Праз год Махатма выказвае новыя прапановы: мінімізаваць кантакты з брытанцамі (не весці бізнэс, не займаць пасады, не хадзіць у іх школы) — і не купляць брытанскіх тавараў.

І нечакана выявілася: брытанцы ў Індыі моцныя не самі па сабе, а дзякуючы таму, што індыйцы супрацоўнічаюць з імі. Асабліва Брытанія пацярпела на тканіне: індыйцы перасталі купляць брытанскую тканіну. Ланкастарскія вытворцы тканін патрабавалі выслаць Гандзі на бязлюдную выспу.



WIKIMEDIA COMMONS

Махандас і Кастурба ў 37 гадоў адмовіліся ад фізічнай блізкасці. «Пасля гэтага наш шлюб нарэшце стаў мірны і шчаслівы», — пісаў Гандзі. **На фота: Гандзі з жонкай у глыбокай старасці.**

«Мы адмаўляемся ўдзельнічаць у вашых палітычных акцыях. Мы адмаўляемся прымаць вашу сістэму каштоўнасцяў, таму што ў нас ёсць свая і таму што мы можам гаспадарыць самі». Гэта думка змяніла свядомасць мільёнаў. ▶

WIKIMEDIA COMMONS

**Крона бенгальскага фікуса, або баньяна,** можа разрастацца на некалькі гектараў. Пад гэтым дрэвам, сярод яго паветраных каранёў, Гандзі часта праводзіў сустрэчы з паплечнікамі.



WIKIMEDIA COMMONS

**У 400-кіламетровы Саляны марш Гандзі выступіў з 78 паплечнікамі.** У горад Дандзі з ім прыйшлі ўжо некалькі тысяч.

## Упартасць Гандзі

Гандзі на ўздыме, услед за кампаніяй несупрацоўніцтва ён абвяшчае кампанію непадпарадкавання... якая не адбылася з-за трагедыі. У невялічкім мястэчку жыхары палілі на плошчы англійскія тканіны, а калі паліцыя паспрабавала іх разагнаць, падпалілі будынак паліцыі. 21 чалавек згарэў.

Гандзі перапыняе сацьяграху. Ён лічыць, што народ не гатовы будаваць новую Індыю. Акцыі непадпарадкавання заліюць краіну крывёю. Паплечнікі стараюцца пераканаць, пагражаюць, просяць. Спыняцца зараз нерацыянальна, даводзяць яны, трэба ціснуць. Наша мэта — не выгнаць брытанцаў, а пабудаваць новую Індыю, кажа Гандзі. Чакаем.

Неўзабаве Гандзі арыштавалі. Ён атрымлівае шэсць гадоў, выходзіць з турмы ледзь жывы праз два: у яго пачаўся гнойны апендыцыт.

Некалькі гадоў Гандзі жыве ў ашраме. Ён прадзе, моліцца і раздумвае. У 1930-м брытанцы абвяшчаюць пра збор камісіі, якая зоймецца лёсам Індыі. У ёй — адны імперцы. Партыя Індыйскі нацыянальны кангрэс і Гандзі пастанаўляюць змагацца за незалежнасць.

## Паўголы факір

Ідэя акцыі зноў прыходзіць да Гандзі ў сне. Соль — вельмі важны прадукт у гарачым клімаце, дзе яна пастаянна выходзіць з арганізма з потам. Соль была дзяржаўнай манаполіяй, як у многіх краінах цяпер — алкаголь і тытунь. Гандзі прапанаваў арганізаваць марш у гарадок Дандзі, дзе паклады марской солі ляжаць проста на ўзбярэжжы. Наперадзе 400 км, за Махатмаю ідуць 78 чалавек. Яны спыняюцца ў кожным паселішчы, і праз 23 дні ў Дандзі прыходзіць шматтысячная маніфестацыя. Гандзі выпарвае першую лыжку солі.

Улады гэта развесяліла: нейкія дзіцячыя гульні, пракаментаваў віцэ-кароль Індыі. Шоу гэтага напаўголага факіра выклікае агіду, пісаў Уінстан Чэрчыль.



SANDIP DEY, WIKIMEDIA COMMONS

**Так выглядаюць саляныя распрацоўкі** на індыйскім узбярэжжы сёння.



### Бостанскае чаяпіцце з соллю

Паводле легенды, падчас сустрэчы з віцэ-каралём Індыі Гандзі дастаў пакецік з соллю: «Я насыплю трохі солі сабе ў чай у памяць пра Бостанскае чаяпіцце». Тонкі тролінг. Тады, у 1773 годзе, амерыканцы патапілі ў бостанскай гавані груз англійскага чаю. З гэтага пачалася Амерыканская рэвалюцыя, якая перарасла ў вайну за незалежнасць.

А народ лікаваў: «Па ўсёй краіне, у гарадах і вёсках, галоўная тэма дня — як здабываць соль, мы знаходзілі самыя мудрагелістыя спосабы. Паколькі ніхто добра не разбіраўся ў гэтым пытанні, мы даведаліся пра яго ўсё, друкавалі ўлёткі з рэцэптамі, атрыманую соль (малапрывабны прадукт) паказвалі з урачыстым выглядам і часцяком прадавалі з аўкцыёну па дзікіх цэнах», — успамінаў кіраўнік Індыйскага нацыянальнага кангрэсу Джавахарлал Неру. І каяўся: «Нам было сорамна, што мы сумняваліся ў эфектыўнасці метаду Гандзі».

Розгалас акцыі каласальны. Улады ўжо не смяюцца. У Бамбей прыязджае кіраўнік брытанскай таемнай паліцыі. Гандзі пагражае захапіць брытанскія саляныя распрацоўкі. За гэтую пагрозу і лыжку выпаранай солі ён і яшчэ 80 тысяч чалавек на некалькі месяцаў трапляюць за краты. Ім спачувае ўвесь свет.

WIKIMEDIA COMMONS

**Гандзі збірае соль** проста на беразе.






Пасля Салянога паходу **амерыканскі часопіс «*Time*» абвясціў Гандзі чалавекам года.**

Улады вымушаныя ісці на перамовы. Віцэ-кароль прапануе Гандзі кампраміс — спыненне сацьяграхі ўзамен на амністыю палітвязняў, скасаванне дзяржаўнай манаполіі на здабычу солі, дазвол дзейнасці Індыйскага нацыянальнага кангрэсу. Гандзі згаджаецца.

Яго паплечнікі з ІНК у роспачы: нашто кампрамісы, калі поўная перамога так блізка... Гандзі апраўдваўся: народ яшчэ не гатовы да мірнай рэвалюцыі... Партыя рве з ім, ён з партыяй. ▸

## Барацьба за недатыкальных

Яшчэ будучы паспяховым адвакатам, Гандзі жаліўся: хочацца дапамагаць людзям па-сапраўднаму. Дзеля гэтага ён нават падпрацоўваў санітарам. Паступова Махандас вызначыўся: «Тое, дзеля чаго я жыву і з радасцю памру, — гэта поўная ліквідацыя недатыкальнасці».

Недатыкальнымі ў Індыі называюцца найніжэйшыя касты, гэта агромністая колькасць людзей, 16–17% грамадства. Традыцыйна яны жылі як ізгоі, ім не дазвалялі карыстацца агульнымі калодзежамі, храмамі, школамі, дарогамі... Паколькі яны пакаленнямі займаліся самымі бруднымі работамі, імунітэт дазваляў ім не баяцца многіх бактэрый і вірусаў. Ва ўмовах гарачага і вільготнага клімату, велізарнай шчыльнасці насельніцтва і нізкага ўзроўню агульнай гігіены іх ізаляцыя не давала інфекцыям распаўсюджвацца. Існуе такое тлумачэнне.

Недатыкальныя мелі свой рух, і іх лідар Амбедкар (ён таксама вывучыўся ў Лондане на юрыста) ненавідзеў Гандзі. Ён лічыў, што палітык піярыцца на іх праблемах і проста хоча атрымаць галасы. Сам Амбедкар перайшоў з індуізму ў будызм, які не прызнае кастаў, і прапагандаваў такое рашэнне сярод сваіх. Ён прапанаваў сваёй касце новую назву — даліты, «прыгнечаныя». Цяпер гэтая назва лічыцца самай паліткарэктнай.

У 1932 годзе брытанцы вылучылі недатыкальных у асобную выбарчую курыю, каб падчас выбараў яны не перасякаліся з іншымі кастамі. Гандзі запатрабаваў, каб ім дазволілі галасаваць з усімі, і абвесціў галадоўку. «Я быў у шаленстве ад таго, што ён выбраў такое малаважнае пытанне для сваёй найвышэйшай ахвяры», — пісаў Неру (Гандзі быў больш філосафам, Неру — палітыкам).

Тыднёвая галадоўка дала плён, не ў апошнюю чаргу з-за гіпертанічных крызаў, якія яе суправаджалі.

Народ страшэнна перажываў за здароўе свайго «святога».

У выніку ўлады спецыяльна сабраліся



**Будынкі-трушчобы недатыкальных у Мумбаі.** Індыя — усё яшчэ краіна сацыяльных кантрастаў.



**Шклянка апельсінавага соку** — першае, што спажыў Гандзі пасля тыднёвай галадоўкі ў абарону недатыкальных.

### Не святы

Гандзі не лічыў сябе святым, працівіўся імені Махатма: «Кажуць, што я святы, які нішчыць сябе палітыкай. Насамрэч, я палітык, які з усіх сіл імкнецца быць святым».

З пункту гледжання звычайнага чалавека, ён быў дзіваком. Катэгарычна не прымаў навукі. Лічыў, што тэхналогіі, тэхнічны прагрэс ператвараюць чалавека ў раба. Што лекі — ад злога («Тысячы людзей нараджаюцца ў джунглях і абыходзяцца без усялякай медыцынскай дапамогі»). Лекі маглі б дапамагчы яго жонцы з плеўрытам і пнеўманіяй, але сям'я вырашыла не лячыцца.

Іншы неадназначны момант: пры канцы жыцця Гандзі прасіў маладых жанчын са свайго ашрама спаць з ім пад адной коўдрай. Так ён выпрабоўваў сябе. У апошнія дні з ім спалі траюрадная пляменніца і жонка траюраднага пляменніка, яны ж былі побач, калі Гандзі забілі. Пазней сыны Гандзі забаранілі жанчынам расказваць гэтую гісторыю, хоць сам Махандас шмат пісаў пра свой эксперымент па «ўтаймаванні плоці». Ён, укаранёны ў старажытныя індыйскія традыцыі цялеснасці ды эратызму, не бачыў тут нічога вартага асуджэння.


A SAVIN, WIKIMEDIA COMMONS

ў выхадны, каб прагаласаваць за адмену закона. А лідары кастаў прынялі рэзалюцыю: недатыкальным даюць доступ да грамадскіх калодзежаў, храмаў, дарог, школ. У прысутнасці паплечнікаў і журналістаў Гандзі выпіў шклянку апельсінавага соку. Нобелеўскі лаўрэат Рабіндранат Тагор чытаў яму вершы на бенгальскай мове.

Сёння дыскрымінацыя недатыкальных лічыцца ў Індыі крымінальным правапарушэннем. Недатыкальныя маюць сваю партыю, трапілі ў суды, урад. У 1997-м Качарыл Нараянан стаў нават прэзідэнтам Індыі. Але каставыя канфлікты ўсё яшчэ здараюцца.

## «Прапаведзь недаверу да гэтай сістэмы стала маёй страсцю»

У чым быў сакрэт Гандзі? Харызма, абаяльнасць, уласны розум. Бацькі хацелі ад яго аднаго, імперыя — другога, партыя — трэцяга. А ён напружана разважаў, прыслухоўваўся да сябе і прымаў рашэнні.

І, канечне, моцна верыў у свой народ, у які даўно ніхто не верыў. Змагаючыся заадно, індыйцы ўсё ж змагаліся за рознае: інтэлігенцыя — за незалежнасць, бедныя сяляне — за сарвадаю, грамадства роўнасці, дзе і яны стануць гаспадарамі.

Пасля саляной кампаніі Гандзі адышоў ад палітыкі. Зрэшты, ён быў ужо немаладым.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, ідэаліст Гандзі піша лісты Адольфу Гітлеру: «Дарагі сябра, відавочна, вы адзін можаце прадухіліць вайну, якая верне чалавецтва ў стан варварства. Ці трэба вам плаціць гэтую цану за сваю мэту, якой бы жаданай яна не здавалася?»

З аднаго боку людажэр Гітлер, з другога — Брытанія, супраць якой ужо 20 гадоў ідзе ўпартае змаганне. Хай бы на нас напала Японія, марыў тады Неру, лепш ужо памерці, чым жыць вось так, без усякай надзеі. «А там, дзе нашы магілы, там і ўваскрашэнне».

І тут на арэну апошні раз выйшаў Гандзі. Ідзе вайна з Гітлерам, усё вельмі хістка — Гандзі ставіць ультыматум. Няхай Брытанія прызнае права Індыі на самавызначэнне, інакш мы пачнём мяцеж, піша ён у 1942-м.

Уздым быў імклівы, але нядоўгі. Гандзі, Неру, іншых лідараў пасадзілі, як і яшчэ сто тысяч чалавек. Людзей масава секлі ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Першы прэм'ер-міністр незалежнай Індыі Джавахарлал Неру**, у адрозненне ад ідэаліста Гандзі, быў жорсткім прагматыкам.


WIKIMEDIA COMMONS

**Махатма ў акружэнні прыхільнікаў.** За ім – жонка Кастурба.

розгамі, штрафавалі цэлымі вёскамі, кварталамі, факультэтамі. Палявыя суды прысуджалі да смяротнага пакарання.

Індыйскі нацыянальны кангрэс ізноў прайграў. Але Гандзі вучыў: «Кожны раз, калі я цярплю паражэнне, я вучуся і станаўлюся больш рашучым. Кожная параза набліжае канчатковую перамогу».

**Мая няўдача не азначае маёй поўнай паразы. Такога слова ў маім слоўніку не існуе**




**Месца забойства Гандзі ў Нью-Дэлі.** Інсталяцыя перад ім — апошнія крокі Махатмы.

## Перамога

Нельга сказаць, што гэта мірная рэвалюцыя Гандзі перамагла каланіялізм. Аднак сацьяграха падрыхтавала глебу для перамогі. Байкот англійскіх тавараў наносіў вялізную эканамічную шкоду імперыі. А мірныя, сімвалічныя акцыі выклікалі захапленне і спачуванне ва ўсім свеце — найперш у самога брытанскага грамадства.

Заслуга Гандзі і ў тым, што Брытанія сышла з калоніі мірна, «без злосці і ганьбы», як пісаў філосаф Арнольд Тойнбі. Гандзі разумеў, што добрыя адносіны важнейшыя за гістарычныя крыўды.

Гандзі заспеў і абвяшчэнне незалежнасці Індыі 15 жніўня 1947-га, і аддзяленне Пакістана, і страшныя канфлікты індусаў і мусульман на гэтай глебе. На тэрыторыі Пакістана засталося шмат індуістаў, а ў Індыі — мусульман. Гандзі ездзіць па краіне, спрабуючы, патрабуючы, угаворваючы спыніць гвалт, і ўрэшце абвяшчае чарговую галадоўку: «Я хачу сцэментаваць індуістаў і мусульман. І я сцэментую іх сваёй крывёю, калі спатрэбіцца».

30 студзеня 1948 года Гандзі забівае фанатык-індуіст.




**Гандзі запавядаў спаліць яго цела на свяшчэннай рацэ Ганг і развеяць прах.** Тысячы людзей прыехалі развітацца з ім.

«**Псіхалагічна ненасілле мела велізарнае значэнне для чарнаскурых**, — пісаў Марцін Лютэр Кінг. — Бо, змагаючыся за тое, каб адваяваць і зацвердзіць сваю годнасць, яны заслугоўвалі і набывалі павагу да саміх сябе».

### Гандзі, але не тыя

Прозвішча Гандзі вядомае не толькі ў Індыі, але і ва ўсім свеце не толькі дзякуючы Махатму. Яго насілі таксама два славутыя індыйскія прэм'ер-міністры: Індзіра (1966–1977 і 1980–1984) і яе сын Раджыў (1984–1989). Увогуле, гэтая дынастыя фактычна кіравала незалежнай Індыяй з нешматлікімі перапынкамі больш за 40 гадоў, бо Індзіра была дачкой першага прэм'ер-міністра (1947—1964) Джавахарлала Неру. Ды і ў апошнія 30 гадоў члены сям'і Гандзі адыгрываюць значную ролю ў індыйскай палітыцы: удава Раджыва Соня (італьянка паводле паходжання) і іх сын Рахул — лідары ўплывовай партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс.

Часта гэтыя Гандзі ўспрымаюцца як сваякі і нашчадкі Махатмы, але гэта зусім не так. Муж Індзіры Гандзі, палітык і журналіст Фероз Гандзі, не толькі не быў з Махатмам у сваяцтве, але нават належаў да зусім іншых этнічнай ды рэлігійнай груп. Ён паходзіў з **парсаў** — невялікай (усяго каля 100 тысяч) групы паслядоўнікаў зараастрызму, якая мае іранскае паходжанне і кампактна жыве ў індыйскім штаце Гуджарат.

Зрэшты, гэтыя прозвішчы, хоць на нашай мове і гучаць аднолькава, фармальна былі ўвогуле розныя. Па-англійску прозвішча Махатмы пісалася як *Gandhi,* а прозвішча Фероза — як *Ghandy.* Нашчадкі Фероза, праўда, ужо ўсе *Gandhi.*

### «Наша мэта — новая Індыя, а не скінуць брытанцаў»

Не прыпыняй барацьбы да перамогі і будзь гатовы пакутаваць дзеля выніку, змагайся за, а не з (наша мэта — новая Індыя, а не скінуць брытанцаў, казаў Гандзі), не ідзі на гвалт, нават калі цябе правакуюць, спрабуй зразумець апанента і шукай кампрамісу. На гэтым будуецца сацьяграха.

Гандзі абвяшчаў сваю тактыку ўніверсальнай, аднак урэшце прызнаўся сабе, што гэта не так. Яна не спрацоўвае пры людаедскіх рэжымах, яна б не спрацавала ў барацьбе з гітлерызмам ці ў Паўночнай Карэі. Брытанская імперыя была досыць ліберальным каланізатарам. «У патаемным кутку майго сэрца... — пісаў Махатма, — я вяду пастаянную спрэчку з Богам, які дапускае жахлівыя рэчы, маё ненасілле здаецца амаль бяссільным».

Але Гандзі і яго тактыка ўзрасцілі годнасць у індыйцах, і не толькі: «Гандзі даставаў найлепшае з нас і паказаў ворагу на яго памылку. Дзякуючы яму мы пазбавіліся страху, які душыў нас, пачалі глядзець людзям у твар, чаго раней ніколі не рабілі, гаварыць шчыра і адкрыта. Цяжкі груз зваліўся з нашага духу, здабытая свабода слова і дзеяння напоўніла сілай, — пісаў Неру. — Гэта было псіхалагічнае пераўвасабленне, як быццам псіхааналітык даследаваў мінулае пацыента, выявіў прычыну яго комплексаў і, агаліўшы яе, пазбавіў ад гэтага грузу». ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Адзін з апошніх партрэтаў Кастурбы Гандзі.** Яна ўсё жыццё мела праблемы з лёгкімі і ў 74 памерла ад пнеўманіі. У шлюбе з Махандасам яны пражылі 60 гадоў.


ФОТА ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

**Помнік Гандзі ў 2015 годзе з'явіўся ў Мінску**, ва ўнутраным дворыку БДУ. Але чалавеку з вуліцы яго не пабачыць.

**Колеры *Piazza della Signoria.*** Італія — гэта краіна без мінімалізму. Тут краіна пышнага стылю і яркіх колераў. Але гэта таксама месца, дзе вучышся добраму густу.

# КВЕТКА ФЛАРЭНЦЫЯ

*Сцеражыцеся: магчымая перадазіроўка Рэнесансам*




**Між маляўнічых пагоркаў Тасканы, на лузе абапал рэчкі Арно расце, магчыма, адна з самых прыгожых кветак у гісторыі чалавецтва — горад Фларэнцыя. Піша Андрэй Дзмітранок.**

### Адраджэнне

У Стэндаля заняло мову, калі ён упершыню ўбачыў Фларэнцыю. Француз не з апошняга горада свету, а з самога Парыжа некалькі дзён хадзіў прыгаломшаны. Такі стан ад убачанага пазней атрымаў назву «сіндром Стэндаля».

Пра Фларэнцыю можна слухаць, можна чытаць і глядзець у кіно, але на месцы на цябе ўсё адно абрынецца прыгажосць неймавернай канцэнтрацыі. Архітэктура — толькі частка таго, што ўражвае. Да яе дадаецца асэнсаванне гістарычнасці месца, бо менавіта тут пачалася эпоха, вядомая як Адраджэнне ці Рэнесанс.

«Фларэнцыя» перакладаецца як «квітнеючы горад» — і назва вельмі трапная. Працэсы, якія распачаліся ў Фларэнцыі, можна параўнаць з надыходам вясны, калі ўсё квітнее і аднаўляецца. Кветкамі ў дадзеным выпадку былі жывапіс, паэзія, музыка і скульптура, а зімой — тысячагадовае Сярэднявечча. Як будаваць, калі развучыліся рабіць цэмент? Як не хварэць, калі страцілі рэцэпт мыла?

**Фларэнцыя** — цэнтр італьянскай правінцыі Таскана. 360 тысяч жыхароў. Адзін з самых прыгожых гарадоў свету.

Антычнасць выглядала збаўленнем, у ёй шукалі вытокі — і натуральным працягам стала прыняцце старажытнагрэчаскага пастулата, што «чалавек — мера ўсіх рэчаў», і фарміраванне ўжо ўласнай сістэмы мыслення — гуманізму. Усё пачалося ў Фларэнцыі, і гэта яе сыны — Мікеланджэла, Батычэлі, да Вінчы, Дантэ, Петрарка — даказалі, што грамадства можа мяняцца эвалюцыйна.

### Храм-кветка

Гістарычны цэнтр Фларэнцыі ЮНЕСКА прызнала сусветнай спадчынай, і ў гэтым куфры скарбаў важна расставіць акцэнты.

Знаёмства з Фларэнцыяй мы пачынаем з галоўнага — з храма Санта Марыя дэй Ф'ёрэ ▸




***Via dei Servi* і від на сабор** Санта Марыя дэй Ф'ёрэ.

▸ (*fiore* з італьянскай — кветка). Не заўважыць яго немагчыма: аграмадны, у самым цэнтры горада, ён стаў сімвалам пераадолення Сярэднявечча. Храм пачалі будаваць у 1296 годзе, але хутка спыніліся, бо не ведалі, як скончыць купал. А між тым у Рыме стаяў яшчэ старажытнарымскі Пантэон таксама з немалым купалам. Стаяў і пацвельваў.

Спатрэбілася больш за сто гадоў, каб намаганнямі сям'і Медычы і геніем архітэктара Філіпа Брунелескі храм, што можа змясціць 90 тысяч прыхаджан, здолелі скончыць. На конкурсе праектаў Брунелескі прапанаваў: «Няхай той, хто здолее паставіць яйка стаўма на мармуровай дошцы, і ўзводзіць купал». Вядома, ён жа і перамог, калі ўдарыў яйка аб дошку і такім чынам паставіў. На шчасце, Брунелескі быў не толькі кемлівым перамоўшчыкам, але і вынаходнікам у галіне архітэктуры. Ён распрацаваў такі «лёгкі» купал з 4 мільёнаў цаглін вагой 37 000 тон, што сцены вытрымалі.

«Ч-ш-ш-ш-ш! Цішыня!» — гучыць аўтаінфарматар голасам настаўніцы пачатковай школы, патрабуе парадку падчас візіту ў Санта Марыя дэй Ф'ёрэ. І я сапраўды ізноў маленькі васьмігадовы хлопчык, паслухмяна гляджу на старарэжымны італьянскі гадзіннік з адной стрэлкай, што ідзе ў іншы бок. Не шыкайце на мяне, цёця-настаўніца, я толькі паглядзець на біблейскія сюжэты ў вітражах. Іх 44, і калі промні святла свецяць на іх, шкло зіхаціць, як самыя бліскучыя дыяменты. Я ведаю, што за непаслухмянасць мяне чакае ў кабінеце дырэктар, а далей — Страшны суд. Дарэчы, вось і ён — на купале храма шматструктурная кампазіцыя фрэсак аўтарства Джорджа Вазары і Федэрыка Цукары. Ніжняе кальцо кажа пра смяротныя грахі і жыхароў пекла. Далей увышкі — святыя, анёлы нябесныя, Божая Маці і, урэшце, Збавіцель. Голас аўтаінфарматара недзе паміж коламі.

Храм уражвае сваёй лаканічнасцю і кантраверсійнасцю: масіўнасць спалучаецца з лёгкасцю, а вытанчанасць з манументальнасцю. У маштабах горада Санта Марыя дэй Ф'ёрэ ўзвышаецца купалам над лесам маленькіх дамкоў. Памеры яго

сталі выклікам лінейнасці горада, а выкарыстаны для аздаблення фасада белы, ружовы і зялёны мармур знервавалі прыхільнікаў аскетызму.

Побач з храмам яшчэ два знакавыя месцы: кампаніла (вежа) аўтарства Джота і баптыстэрый Сан-Джавані. Калі Мікеланджэла ўбачыў брамы баптыстэрыя, ён сказаў: «Яны такія прыгожыя, што падышлі б для дзвярэй раю». Іншае апісанне тут будзе залішнім, апроч той невялічкай дэталі, што скульптар Ларэнца Гібэрдзі рабіў гэтыя брамы амаль усё дарослае жыццё — ажно 50 год з пражытых 77. Хацелі б і вы мець замову на ўвесь век?

### Горад, у якім нараджаецца казка

Далей мы проста гуляем па вуліцах горада, што падманліва застыў у Рэнесансе. Насамрэч, ён жывы: сучасныя машыны, добра апранутыя людзі — Італія краіна далёка не бедная, а Фларэнцыя і пагатоў. Што цікава, фларэнтыйцаў прынята лічыць самымі сквапнымі сярод



ФОТА АЎТАРА

італьянцаў, аднак як жа прыемна разбураць міфы. Глядзіце самі: з Фларэнцыі нам трэба было з'ехаць раней, і гатэль не ўзяў з нас аплату за апошні дзень. Сябры замовілі ў вінаробні віна на некалькі тысяч еўра, але на касе тэрмінал не спрацаваў, то ім сказалі, каб забіралі тавар, а гатоўку можна прывезці заўтра. Казка?

А дзе яшчэ, калі не ў казачнай Фларэнцыі, мог нарадзіцца і пісаць Карла Калодзі, аўтар Пінокіа? Шпацыруючы па Фларэнцыі, абавязкова наведайце краму *Bartolucci* — вось дзе цэлы свет драўляных цацак!

Яшчэ Фларэнцыя славіцца скуранымі вырабамі — на рынку Сан-Ларэнца даволі прыемныя цэны.

А далей — увесь час гуляць. Знайсці першую ў гісторыі аптэку, каб набыць духмянай вады.

Зазірнуць на *Mercato Centrale* па сакавіты інжыр, які так любіць жонка. І толькі пасля вяртацца ў музеі, музеі, музеі.

### Уфіцы

— Я на ўласныя вочы бачыў, як подых Зефіра прыносіць Вясну.

— І што? А ў нас дагэтуль зіма.

— Я адчуў пах пяцісот розных кветак, пакуль Хларыда ператваралася ў Флору.

— І што? Наш рубель стаў нішто.

— У дрыжыкі кідае ад таго, як намаляваў Леанарда да Вінчы ваду. ▶



**Крама *Bartolucci*** — вось дзе цэлы свет драўляных цацак!

ФОТА АЎТАРА



ФОТА АЎТАРА

Атмасфера на **Цэнтральным рынку Фларэнцыі.**

— І што? Дажджу не было, суседзі павесілі на калодзеж замок.

— Там сіенцы першымі прыдумалі перспектыву!

— І што? Мая перспектыва — сабраць збожжа ўвосень. Галаву не дуры.

— Ты ведаеш, што «Нокіа» запазычыла сваю застаўку ў Мікеланджэла?

— Дзякуй, што нагадаў. Дай тэлефон пазваніць.

Так, «Стварэнне Адама» Мікеланджэла, якім натхняліся ў «Нокіа», знаходзіцца



WIKIMEDIA COMMONS

**«Нараджэнне Венеры»** захоўваецца ў галерэі Уфіцы.

ў Ватыкане, а ў галерэі Уфіцы ёсць толькі адна праца майстра, «Мадонна Доні». Але няхай «Адам» крыху «павісіць» і ў артыкуле пра Фларэнцыю. Творцы ўвогуле лёгка абыходзяцца з фактамі. Калі наведаеце музей Акадэміі, у якім знаходзіцца арыгінал статуі Давіда, вы ўбачыце, што рука ў пераможцы Галіяфа большая, чым мусіць быць. Ці ўзяць фрэску «Капэла вешчуноў» мастака Беноца Гоцалі, там у вобразе вешчуноў, што ідуць у Віфлеем, чамусьці намаляваныя прадстаўнікі сям'і Медычы, і ўсе такія прыгожыя.

Мастацтва мае права на вольнасць. Калі б Батычэлі сёння трапіў у галерэю Уфіцы, магчыма, ён намаляваў бы партрэты



WIKIMEDIA COMMONS

Алесандра ды Марыяна ды Вані Філіпепі, вядомы як Сандра Батычэлі, — адзін з мастакоў, якіх ні з кім не зблытаеш. Да XIX стагоддзя ён быў амаль забыты, а пасля яго пераадкрылі. Яго стыль, элегантны і ўзнёслы, з тонкай гармоніяй, адлюстроўваў густы фларэнтыйцаў таго часу. Дасканалыя густы. Усе ведаюць яго «Нараджэнне Венеры», але **зірніце, да якога строгага мінімалізму ён прыйшоў у старасці, як на гэтым партрэце Дантэ.**



ФОТА АЎТАРА

**...і вулічны жывапіс у Фларэнцыі.**

Рэнесансавае мастацтва пераадкрыла чалавечае цела. Чалавек творцаў эпохі Адраджэння — захапляльны. Некаторыя сцвярджаюць, што межы еўрапейскай цывілізацыі — там, куды дайшлі ўплывы Адраджэння. **На фота: фрагмент «Давіда» Мікеланджэла, юнака, які спраўнасцю перамог нашмат мацнейшага працаўніка.**


DEPOSITPHOTOS.COM, BY MALGORZATA_KISTRYN

наглядчыкаў за музейнымі заламі. Там такі сум і адчай у вачах. Бо штодня, з году ў год яны знаходзяцца сярод Рафаэля, Джота, Рэмбранта, Караваджа, Мікеланджэла, да Вінчы — як тут не стаміцца і не засумаваць? Ці дзеці, якіх бацькі прымусілі прыйсці ў музей? Вось дзе біблійны боль і пакуты са стомай.

Галерэя Уфіцы — велізарная калекцыя жывапісу і скульптуры на 13 тысяч кв. м. Паглядзець за дзень яе немагчыма, толькі прабегчы, што я і зрабіў. Можа, першы раз так і трэба, але наступным разам я прыйду выключна ў залу Батычэлі да яго «Вясны» і «Нараджэння Венеры».

### Масты над ракой Арно

Рэчка падзяляе горад на часткі, але і стварае прастору. Ля яе добра адпачыць, назапасіць сілаў для наступнай порцыі Рэнесансу і, як ні дзіва, убачыць прыроду. Вось мы назіраем, як дзве шэрыя качкі і бялюткая чапелька ціха слізгацяць ля беражка, а да іх кідаецца велізарная, нібы бервяно, нутрыя. А гэта самы цэнтр горада! Можа, нам і пашанцавала, але жывёлы не звярталі на людзей ніякай увагі, нібы горад — іх натуральнае асяроддзе.

Калі рака горад падзяляе, масты яго яднаюць. Іх у Фларэнцыі дзесяць, і галоўны з іх — Понтэ Век'ё («стары мост») — пастаўлены цераз самае вузкае месца Арно. Пабудаваны яшчэ за Старажытным Рымам, Понтэ Век'ё доўгі час быў драўляным, і толькі ў 1345 годзе архітэктар Неры дзі Фіёраванці стварыў 30-метровы арачны шэдэўр з каменю. Канчатковы выгляд мост атрымаў у 1565 годзе з надбудовай калідора Вазары, які ідзе па-над мостам і злучае галерэю Уфіцы з палацам Піці.

Мост заўжды быў месцам гандлёвым. Спачатку там прадавалі мяса і рыбу, але з прычыны смуроду гандляроў прадуктамі замянілі ювеліры. Яны і сёння там. Толькі трымайцеся за гаманцы, бо цэны шалёныя, і не здзіўляе, што ▸

калісьці менавіта на гэтым мосце з'явіўся феномен банкруцтва. Да гандляра, не здольнага плаціць па абавязках, прыходзілі жаўнеры і лаўку (*banco*) разбуралі (*rotto*).

Не лаўку, а ўжо сам мост маглі знішчыць пры канцы Другой сусветнай вайны, калі Італія была пад нямецкай акупацыяй. У час адступлення нацыстаў толькі асабісты загад Гітлера спыніў разбурэнне. Каменнае сэрца злітавалася з каменнай каштоўнасці?



DEPOSITPHOTOS.COM, BY SEDMAK

**Гэты «Давід» працы Мікеланджэла — копія.** Арыгінал знаходзіцца ў Музеі мастацтваў Фларэнцыі.

**Казіма дзі Джавані дэ Медычы (1389–1464)**
фларэнтыйскі банкір і палітык, мецэнат мастацтва, адукацыі і архітэктуры. Ён рэдка займаў афіцыйныя пасады ва ўрадзе горада, але быў сапраўдным яго кіраўніком, бо грашыма прасоўваў патрэбных людзей і патрэбныя рашэнні. Казіма Медычы выкарыстоўваў свае багацце і велізарны ўплыў для падтрымкі культуры: напрыклад, адкрыў першую публічную бібліятэку ў Фларэнцыі і дапамог архітэктару Брунелескі скончыць купал над Санта Марыя дэй Ф'ёрэ. Пасля смерці Казіма ўрад Фларэнцыі надаў яму званне *Pater Patriae* (бацька Айчыны).



WIKIMEDIA COMMONS

**Казіма дэ Медычы.**

## Палітыкі і мастацтва

У палацы Век'ё размяшчалася кіраўніцтва Фларэнтыйскай рэспублікі, а плошча Сіньёрыі была цэнтрам горада. Тут ладзілі турніры, выступалі аратары і тэатры, тут інквізіцыя спальвала ворагаў, а потым знішчалі яе саму, як гэта сталася з Саванаролам. Яе незвычайная для плошчаў L-падобная форма стала вынікам перамогі роду Гвельфаў над Гібелінамі: дамы апошніх былі знішчаныя — і вызвалілася месца.

Сёння гэтая плошча — музей, за які не трэба плаціць, і галоўныя экспанаты — скульптуры. «Персея» Чэліні, «Юдзіф і Алаферн» Данатэла, «Геркулес» Бандынелі і яшчэ больш за

**Ларэнца Медычы (1449–1492)** фларэнтыйскі палітык, банкір і патрон мастацтваў. Унук Казіма Медычы і прадзед Кацярыны Медычы, каралевы Францыі. Як і яго дзед, ён падтрымліваў навукоўцаў, мастакоў і паэтаў, заснаваў Бібліятэку Лаўрэнсіяну — адну з найважнейшых у Фларэнцыі і ва ўсім свеце да сёння. Банкаўскія ж справы яго цікавілі значна меней. Дыпламатычны талент Ларэнца дапамагаў утрымліваць крохкі мір, а яго смерць азначыла канец залатога веку Фларэнцыі.

дзясятак прац часоў Адраджэння. Некаторыя стаяць пад адкрытым небам, а хтосьці схаваўся ў лоджыі Ланцы. Не хвалюйцеся, я не забыў пра скульптуру «Давіда» Мікеланджэла, але ж вы ведаеце, што тут толькі яе копія.

Распавядаючы пра Фларэнцыю, немагчыма не ўзгадаць сям'ю Медычы. Тры стагоддзі яны кіравалі Фларэнцыяй: абраныя кіраўнікі, банкіры, мецэнаты — сям'я дала свету чатырох рымскіх



**Серыял пра Медычы.**

папаў і дзвюх каралеў Францыі. Але ж самае важнае, што яны былі фінансавым і палітычным рухавіком Адраджэння. Сёння на плошчы Сіньярыі стаіць помнік толькі Казіма Першаму, але трэба ўзгадаць і Ларэнца Медычы, галоўнага заступніка мастакоў, філосафаў і літаратараў фларэнтыйскай Акадэміі. За ім Фларэнцыя дасягнула культурнага і эканамічнага росквіту, так што ён справядліва завецца Ларэнца Цудоўным. ▶

ФОТА З АРХІВА АЎТАРА




**Аўтар з жонкай** каля Понтэ Век'ё.

ФОТА АЎТАРА

Від на Фларэнцыю з плошчы Мікеланджэла.




ФОТА АЎТАРА

**Туфлі набасанож і газета ў кошыку —** флярэнтыйцы.



LAMADIA.COM

Тыповы для Тасканы сыр — гэта ***Pecorino toscano*, тасманскі авечы.** А віно — гэта к'янці.

### ▸ Сакрэтнае месца

Найлепшы від на Фларэнцыю адкрываецца з плошчы Мікеланджэла. Каб трапіць туды, трэба доўга ўздымацца па лесвіцы «Рампа Поджы», але высілкі вартыя таго. Пастфактум я б зрабіў яе пунктам для развітання. Апошні раз паглядзеў, пусціў слязу і адразу пачаў сумаваць, што з'язджаеш.

Але затрымаемся яшчэ на хвілінку. Я распавяду вам пра месца, якое не знойдзеш у кулінарных даведніках і ніякі парцье пра яго не падкажа. Гэта ферма (апора) моста Святой

ФОТА АЎТАРА

**Жывы дух Фларэнцыі.**




**Базіліка Санта-Крочэ.**

Тройцы, што насупраць Понтэ Век'ё. Дастаткова спаўзці ці саскочыць на прыступку памерам у некалькі квадратных метраў — і ў вас эксклюзіў. Без меню, без афіцыянтаў, толькі прынесеныя з сабой віно, хлеб і сыр — а што яшчэ трэба, калі бачыш Фларэнцыю на захадзе сонца? Хіба што захаваць гэтую параду ў сакрэце. ◆

## Што яшчэ наведаць у Фларэнцыі

- **Музей Акадэміі**, дзе знаходзіцца арыгінал статуі Давіда.
- **Капэла Медычы** — пахавальня дынастыі Медычы аўтарства Мікеланджэла. Мастацтвазнаўцы лічаць яе адной з самых вялікіх тварэнняў эпохі позняга Адраджэння ў цэлым.
- Францысканскі храм **Санта-Крочэ**, дзе знайшлі вечны прытулак Дантэ Аліг'еры, Галілеа Галілей, Нікола Макіявелі і наш славуты зямляк Міхал Клеафас Агінскі.
- Гульня фларэнтыйскага кальча, ці **«футбол у ліўрэях»**, які з'явіўся ў Фларэнцыі ў XV стагоддзі. Гэта нешта сярэдняе паміж сучаснымі футболам, рэгбі і боксам.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY DKAUBO

# Кухня без солі і перцу

Палацы, музеі — урэшце, гэта ўсё гісторыя іншых. Мясцовая кухня — вось што дае сапраўдныя веды і робіць турыста суб'ектам. Ці ведаеце вы, што італьянцы паміж сабой увесь час размаўляюць не пра музеі ці гісторыю — яны ніяк не нагаворацца пра тую ежу, што ядуць з дня ў дзень. Значыць, нешта ёсць у ёй вартае і нашых грошай ды часу. Да таго ж кухня поўніцца рознымі гістарычнымі цікавосткамі.

У Фларэнцыі ежа традыцыйна не надта салёная, бо, калі закладаліся яе асновы, соль была дарагой — і кухары навучыліся абыходзіцца без яе, як і без іншых заморскіх спецый. Галоўная спецыя для фларэнтыйцаў — **грыб труфель**. З выгляду ён нібы зморшчаная старая бульба ўвесну, і шукаюць гэты далікатэс сабакамі ці свіннямі ў лесе пад дубамі, ладзячы сапраўднае паляванне. Свінні здольныя чуць пах труфеляў на глыбіні да 1 метра. Толькі трэба мець пільнае вока, бо свінні любяць грыбам і паласавацца.

Труфель — гэта кухня з элементамі магіі. Яго не смажаць, не вараць, выкарыстоўваюць яго лічаныя грамы — і звычайная італьянская паста ператвараецца ў незвычайную пасту па-фларэнтыйску.

А колькі ўражанняў дае **бутэрброд *lampredotto***! У ім і сучасная хуткасць, бо гэта фастфуд, і гістарычная беднасць, бо яго гатуюць з флякаў.


WIKIMEDIA COMMONS

Прыемная занятасць. **Для пошукаў труфеляў выкарыстоўваюць свіней.**


WIKIMEDIA COMMONS

Самая ж знакамітая страва Фларэнцыі — гэта **стэйк па-фларэнтыйску**. Называецца ён гэтак жа, як мясцовы футбольны клуб, — *fiorentina*, а яго адметнасць у тым, што ён не з прывычнай ялавічыны, а з мяса старадаўняй пароды буйвала колеру белага мармуру — **к'яніна**. Гэта самая высокая (да 2 м) і самая цяжкая (1,5 тоны) парода буйной рагатай жывёлы з усіх існуючых. Для стэйкаў бяруць выразку з паяснічнай часткі з Т-падобнай косткай усярэдзіне, і порцыя не можа важыць менш за кілаграм. З адной жывёліны атрымліваецца ўсяго 3 порцыі стэйкаў, адсюль і кошт — 80 еўра. Фіярэнціну не ядуць у адзіноце, гэта ежа для добрай кампаніі і для значнай нагоды — а мы ж вандруем, і гэта ўжо само па сабе маленькае свята.

Каб паглядзець, як гатуецца мяса, я напрасіўся на кухню. Кавалак таўшчынёй 5 сантыметраў абсмажваюць прыкладна на паўсантыметра з кожнага боку. Ніякіх прыправаў — чыстае мяса, толькі трошкі аліўкавага алею і падаваць на стол пад акампанемент з салатнага лісця ці тасканскай фасолі. Келіх чырвонага віна *Chianti Classico* дапоўніць ідылію.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY ASIMOJET

**Бутэрброд з «лампрэдота»** — італьянскай версіяй флякаў.

# Міхал Арханёл з Парахонска

**Пра «Звяржэнне Міхалам Арханёлам д'ябла», беларускі шэдэўр канца XVIII стагоддзя, расказвае кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Флікоп-Світа.**

Ён як бы і з Парахонска, але папраўдзе і не зусім. У Парахонску цэркаўка была заўсёды праваслаўнай (ці ўніяцкай у часы, калі беларусы і ўкраінцы належалі да Уніі). А на гэтым абразе з галоўнакамандуючым нябеснай армадай (Міхал, Міхаіл — гэта архістратыг, што па-грэчаску і азначае галоўнакамандуючы) — надпісы на лаціне. Па-лацінску ва ўніяцкіх цэрквах звычайна не пісалі, а таму, хутчэй за ўсё, гэты абраз прывандраваў у маленькую парахонскую царкву з вялікага каталіцкага храма. З вялікага — бо і сам ён вялікі.

Як прывандраваў, калі — гэта пакуль нераскрытая загадка. Хто напісаў гэты шэдэўр — таксама загадка. Беларускае мастацтва застаецца поўным захапляльных загадак.

«Міхаіла з Парахонска» выявілі падчас экспедыцыі ў 1978 годзе супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Так ён захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі.

Святы Міхал Арханёл — сімвал барацьбы святла з цемрай, праўды з хлуснёй, дабра і зла.

У беларусаў Міхал Арханёл быў адным з найбольш шанаваных святых. Яго выявы былі бадай ва ўсіх праваслаўных і ўніяцкіх цэрквах і шматлікіх касцёлах. Яго ўспрымалі як нябеснага заступніка людзей. Яго вобраз знайшоў сваё ўвасабленне ў тым ліку і ў мясцовай геральдыцы — да прыкладу, на гербе Наваградка, першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага.

У Парахонску навукоўцы пабачылі некалькі вялізных абразоў, якія былі яўна не па памеры мясцоваму храму. Вядома, што папярэдне на месцы цяперашняй парахонскай царквы знаходзілася іншая, замененая на новую ў 1888 годзе. Аднак і ранейшы храм яўна быў не вельмі вялікі.

Што гэтыя іконы былі з касцёла, сведчыць хоць бы тое, што сярод іх — алтарная карціна «Мроя Святога Дамініка», якая ніяк не магла размяшчацца ў праваслаўнай царкве. Тут магчымыя дзве версіі: або яна была ў царкве вёскі Парахонск ва ўніяцкія часы, а пасля пераводу храма ў праваслаўе проста захоўвалася на гарышчы; або яна прызначалася для каталіцкага храма недзе ў наваколлі, адкуль пазней трапіла ў царкву.

У Пінску, які за 30 км ад Парахонска, былі касцёл і кляштар Святога Дамініка, разбураныя ў 1947 годзе. Можа, гэтыя шэдэўры адтуль? У кожным разе, яны непаўторныя: еўрапейскія ўплывы спалучыліся ў іх са стылем мясцовага наіўнага мастацтва. ◆

**Міхал Арханёл** вялікі-вялікі, большы за іншыя фігуры, ён тут галоўны. Гэта вярхоўны анёл, яго прызнаюць і паважаюць не толькі хрысціяне, але і іўдзеі, і мусульмане.

Стужка, накінутая паверх кальчугі і спавітая накрыж, называецца **лор**. Ларатныя вопраткі арханёлаў узыходзяць да строяў візантыйскіх вяльможаў. У сакральным мастацтве яны маюць пэўную сімволіку: падкрэсліваюць набліжанасць арханёлаў да Нябеснага Цара.

**Анёлы ўзброеныя дзідамі**, якія ў навершы маюць крыж. Дзіды і харугвы з крыжамі — атрыбут анёлаў.

Паколькі Міхал Арханёл — галоўнакамандуючы над анёламі, то і малююць яго як ваяра. Тут ён выяўлены ў кальчузе, што незвычайна, бо на астатніх вядомых абразах і алтарных карцінах, дзе ўвасоблены яго паядынак з д’яблам, Міхал напісаны ў латах. Звяртаюць на сябе ўвагу манжэты з лёгкай празрыстай тканіны, якія больш пасуюць да параднага адзення тагачасных еўрапейскіх арыстакратаў.

**Такі ён, палескі Міхал, — у кальчузе, але з хіпстарскімі манжэтамі.**

Пад левай нагой Міхаіла Арханёла адна пад адной размяшчаюцца дзве фігуры, на якіх замахнуўся мячом нябесны архістратыг. Адна з іх — юнака з зялёнымі крыламі. Гэта, канечне ж, анёл. Другая постаць — чорны чорт. З усіх пачвараў на гэтым абразе ён самы цёмны. Можа быць, так мастак паказаў перамяненне Дзянніцы — зрынутага з нябёсаў анёла — у чорную пачвару.

Хаўруснікі д’ябла — чэрці. У іх свая іерархія, яны розных памераў, рознай ступені падабенства да чалавека. Гэты абраз — адзіны вядомы нам з беларускай іканапіснай спадчыны, дзе **выпісаныя не толькі сатана, але і яго хеўра**. Галоўнага д’ябла акурат і зваяваў Міхал, галоўнакамандуючы над арханёламі.



**Словы *Quis ut Deus*,** якія зыходзяць з вуснаў Міхаіла Арханёла, з лаціны перакладаюцца «Хто як Бог?» у значэнні «ніхто не роўны Богу». Фраза з'яўляецца і літаральным іменем нябеснага архістратыга — гэта значыць галоўнакамандуючага нябеснага войска: са старажытнаяўрэйскай мовы «Мі ка эл» перакладаецца «Хто як Бог?». І заадно гэта напамін тым ганарліўцам, якія ў сваёй гордасці ўзносяцца вышэй за Бога.

Паводле царкоўнага падання, Бог на пачатку часоў, яшчэ да стварэння бачнага свету, стварыў мноства анёлаў, у якіх была свая іерархія. **Анёлы складаюць дзевяць нябесных чыноў: Серафімы, Херувімы, Прастолы, Гасподствы, Сілы, Улады, Пачаткі, Арханёлы, Анёлы.** Але ўсе яны могуць называцца агульным імем Анёлаў. І хоць кожны з іх нясе сваё служэнне, вельмі часта служэнне нябесных сілаў праяўляецца ў іх спрыянні чалавеку ці цэламу народу. На абразе ўвасоблены эпізод, калі яны пад кіраўніцтвам Міхала Арханёла вядуць барацьбу з сіламі цемры. У Бібліі гаворыцца, што бясплотныя нябесныя служкі палымнеюць як агонь, а таму ў іканапісе іх маглі адлюстроўваць з чырвонымі лікамі. У беларускім сакральным жывапісе XVII–XIX стагоддзяў такія прыклады сустракаліся рэдка. Аднак даволі часта можна бачыць на мясцовых абразах, што ў анёлаў чырвоныя крылы. На палатне з Парахонска крыльцы ў бясплотных нябесных служак рознага колеру — верагодна, такім спосабам мастак паказаў іх прыналежнасць да розных анёльскіх чыноў. Да чалавека найбліжэйшымі былі ўласна анёлы, а затым — арханёлы, якіх на абразах паказвалі ў выглядзе чалавека з крыламі. Прадстаўнікоў вышэйшых чыноў, якія былі бліжэйшыя да Бога, малявалі без тулава — толькі лік і крылы.

Побач з д'яблам лунае анёл, які ў руках трымае **скрутак з тэкстам на лаціне**. У перакладзе гэта гучыць так: «Як упаў ты з нябёсаў, Дзянніца, сын Заранкі». У надпісе даволі добра прачытваецца знаёмае многім імя д'ябла — *Lucifer* — Люцыпар. З лацінскай мовы яно і перакладаецца як «светланосны»: *lux* — святло, *fero* — нясу.




Анёлы працінаюць дзідамі іншых прадстаўнікоў цемры. Гэта адзіная такая шматфігурная батальная сцэна ў беларускім сакральным жывапісе.

**Звычайна быў адлюстраваны двубой нябеснага архістратыга і д'ябла. А тут — цэлая бітва беспілотнікаў.**

# «Калі шоў у нядзелю з гуляння, прад абедняю, і зашоў натуральную патрэбу адправіці за ізбою Лабка»

**Гісторыя пра крадзеж царкоўнага серабра з Магілёва XVII стагоддзя — жывы дэтэктыў. І звярніце ўвагу, на якой чыстай беларускай мове размаўлялі ў Магілёве 400 гадоў таму. Піша Паўліна Скурко.**

У 1612 годзе з магілёўскай Васкрасенскай царквы прапалі срэбныя рэчы і Евангелле ў срэбным акладзе. Пералік скрадзенага быў абвешчаны грамадскасці на рынку.

А неўзабаве ў магілёўскага гандляра Дзяміда Арцюховіча знайшлі зліткі срэбра. Аказалася, зладзеі пераплавілі скрадзенае, каб схаваць сляды.

На допыце Дзямід прызнаўся, як да яго трапілі скрадзеныя рэчы: ён зайшоў на чужы падворак справіць патрэбу і пачуў, як нешта «брышчыць» — гэта дзяк Васкрасенскай царквы Мацвей перакладаў каштоўнасці...

## За ізбою Лабка

«Калі шоў у нядзелю прошлую з Дзебры, з гуляння, прад абедняю, і, маючы натуральную патрэбу, зашоў у дому Ігната Лабка, хоцячы патрэбу сваю адправіці за ізбою таго Лабка, там жа знашоў таго Матфея за ізбою. І знашодшы яго за ізбою, пытаў яго, што бы там чыніў».

**Дзебра** — рачулка ў Магілёве, якая цячэ ўздоўж цяперашняй вуліцы Катоўскага. У XVII стагоддзі берагі Дзебры былі месцам народных гулянняў.

Мацвей вымушаны быў аддаць срэбра Дзяміду з умовай, што той нічога не раскажа парафіянам («змілуйся дзей, не кажы на мяне, вазьмі дзей сабе тое срэбра ўсё. І даравай мне тое срэбра»).



Пісар запісваў прамовы падследных, афармляючы іх згодна з прынятымі афіцыйнымі правіламі, якія ў вялікай ступені дыктаваліся нормамі царкоўнаславянскай мовы. Напрыклад, ён піша «гето», «потреба», хаця прамаўлялася яўна «гэта» і «патрэба». Але лексіку пісар захоўваў у арыгінале. І зірніце: гэта чысцюткая беларуская гутарковая мова, якая дайшла да нас праз стагоддзі!
На фота — **фрагмент старонкі з актавай кнігі Магілёва канца XVI стагоддзя**, са збораў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Здымак Вольгі Бабковай.

ФОТА АЛЕСЯ АСПІЦОВА

**Вакол Дзебры** і сёння яшчэ засталося трохі «дзебраў», дзе добра гуляецца.

## «…таму рука па локаць адпадзе»

Даўней самі цэрквы рэдка куплялі сабе кнігі — як правіла, іх ахвяравалі прыхаджане. Гэта называлася «кніжны ўклад». Уклад падпісвалі: хто, калі, у якую царкву, пры якім святару... Укладчык прасіў маліцца за выратаванне яго душы і ўспамінаць імя ў малітвах. А каб ніхто не перашкодзіў памінанню, у канцы ўкладнога запісу звычайна змяшчалі праклён. Кшталту «Хто сію кнігу ўкрадзе, таму рука па локаць адпадзе». Або «Хто бы хацеў і важыўся прыўлашчыць сабе ▸



ФОТА АЛЕСЯ АСПІЦОВА

**«Дзей»** («дей») на старабеларускай мове азначала «маўляў». Гэта слова вельмі часта сустракаецца ў старажытных актах пры перадачы чужой мовы. Відаць, яно было часта ўжываным. Паходзіць ад старажытнага слова «дѣеть» — «кажа» (параўнайце з рускім «дескать»).



**Васкрасенскую царкву, з якой скралі Евангелле, можна ўбачыць на гэтай фрэсцы XVIII стагоддзя з магілёўскага кармеліцкага касцёла.** Драўляны храм знаходзіцца злева ад маршалка з прывілеем. На гэтым месцы цяпер скрыжаванне Камсамольскай і Першамайскай вуліц.

гэту кнігу яўна або тайна» — і далей па-царкоўнаславянску: «да бѹдет проклят в сем свете и в бѹдѹщем», то-бок і пры жыцці, і пасля смерці. Гэта, дарэчы, фрагмент запісу ў магілёўскім Апостале 1638 года выдання, укладзенага ў полацкі Богаяўленскі манастыр (асобнік захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы).

Нам здаецца, што раней людзі былі куды больш богабаязныя. Але і тады многія не звярталі ўвагі на праклёны, на Божую кару і смела кралі святыя кнігі, каб потым іх прадаць.

### «Аблупіўшы Евангелію»

Следству дзяк расказаў, што скраў срэбра ў ноч з пятніцы на суботу. Маючы ключы ад царквы, ён інсцэніраваў уварванне, залезшы ў царкву праз акно.

Абвінавачаны прызнаўся ва ўсім, акрамя крадзяжу кнігі: «аблупіўшы Евангелію, серабро з сабою ўзяў, а тую кнігу на стале ў прытворы палажыў».

«А тое серабро ўсё, завінуўшы [= загарнуўшы, закруціўшы] ў анучы, на вуліцы пад бярвёны палажыў, каторае серабро там днювала [= праляжала дзень]. Патом у нядзелю перад абедняю, тое серабро адтуль выняўшы, панёс есмі быў да господы [= жытла, месца пражывання, там, дзе ён гаспадар] свае, у дом Ігната Лабка, хаваці; а кгды есмі зашоў за ізбу яго і пачаў тое серабро хаваць, на тот час знашоў мяне тот Дзямід Арцюховіч і пытаў мяне, што я тут чыню і што дзей у цябе брышчыць [= брынчыць, бразгае]. Знаю дзей я, што ў цябе есць, гэта дзей ты серабро царкоўнае крыеш!»

Дзяміда і Мацвея арыштавалі, абодвух прыгаварылі да смяротнага пакарання. Перад пакараннем, ужо паспавядаўшыся і прыняўшы прычасце, дзяк спрабаваў забіць сябе — «нажом се скалоў». Выявілася, што нож прынёс магілёвец Грышка



**Скрадзены срэбны аклад Евангелля мог выглядаць так, як гэты, з калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі.** Па кутках выявы чатырох евангелістаў, у цэнтры — сцэна ўваскрашэння Хрыста. А звярніце ўвагу на зашпількі: майстар зрабіў іх у выглядзе апосталаў Пятра і Паўла.

**«Кгды»** па-старабеларуску азначала «калі», гэта паланізм (*gdy*). Спалучэннем *кг* нашы продкі пазначалі выбухное *г* (такое, як у польскай ці рускай мовах, у адрозненне ад фрыкатыўнага *г* — такога як у беларускай і ўкраінскай мовах). У той час як звычайнае для беларускай мовы глухое *г* так і пісалася.

**«Пруд»** па-старабеларуску — гэта вадзяны млын. Іх ставілі на запрудах.

Вайцяховіч, «каторы сенам таргуе і за прудом мяшкае». Грышка некалькі разоў прыходзіў да дзяка ў турму, прызнаўся зняволены: «Он мне па калькукроць мовіў, што ж дзей, будзе табе за твaё дзела, ліха будзе — і нож мне даў».

## «Еслі з маскоўскае», то не так страшна

У дадзенай справе суд доўга меркаваў над пакараннем: віну злодзея і прадаўца не лічылі раўназначнай — царкву абрабаваў толькі адзін з іх.

Віну гандляра спярша лічылі недаказанай: ён «хаця ведаў, жэ тое срэбра царкоўнае, але не ведаў, с каторае цэркві. Еслі з маскоўскае або адкуль інуль, чаго дзей цяпер з Масквы намножылася многі (!), і для таго людзям не аб'яўляў». То-бок калі срэбра з Расіі, трафейнае, то віна меншая. А трэба сказаць, што ў 1609–1611 гадах падчас інтэрвенцыі нашы продкі сапраўды вывезлі з Расіі парадкам каштоўнасцей і кніг.

Аднак дзяк не пакінуў Дзяміду Арцюховічу магчымасці апраўдацца. Ён запэўніў суд, што «пэўне паведзіў таму Дзяміду, іж то срэбра с цэркві Васкрасенскае». У выніку дзяк быў пакараны смерцю праз спаленне, а лёс гандляра даследчыкам невядомы: аркуш з дакументам абарваны.

Нашто дзяку раптам спатрэбілася тое срэбра, што такое ён хацеў за яго набыць? Па-другое, куды ж дзелася Евангелле, святая кніга, якую Мацвей, паводле яго прызнання, пакінуў на стале ў прытворы? Хто яе ўзяў і так не прызнаўся?.. На гэтыя пытанні адказаў так і няма. ◆



Дакумент апублікаваны на с. 320–325 у зборніку 1877 года «Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске и изданные под редакцией архивариуса сего архива Созонова. Выпуск 8: Приходо-расходные книги г. Могилева за 1691 г.; Акты, извлеченные из книг Могилевского магистрата за 1591–1634 гг.».





А гэта старажытнае Евангелле, аклад якога прапаў. Можа, таксама скралі. Застаўся толькі пашарпаны зялёны аксаміт. Пра мінулае харaство нагадвае чаканны пазалочаны абрэз.У месцах, дзе аксаміт працёрся, можна ўбачыць, як праступае дошка. Раней усе кнігі мелі драўляныя вокладкі (адсюль паходзіць выраз «прачытаць кнігу ад дошкі да дошкі»). Дошкі-вокладкі абцягвалі скурай, радзей тканінай. Бывала, прыхаджане хацелі выказаць асаблівую пашану Евангеллю, якое ляжала на прастоле ў іх царкве. Тады яны складаліся і замаўлялі кнізе срэбны аклад, аздоблены эмаллю ці камянямі. Да нашага часу такіх акладаў дайшлі адзінкі.
**На фота — Евангелле канца XVI стагоддзя з калекцыі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

**У вёсцы Смаляны Аршанскага раёна стаіць велічная, але самотная руіна замка XVII стагоддзя. Ён належаў ковельскім князям Сангушкам, што вядуць свой радавод ад вялікага князя літоўскага Альгерда. Пра што думалі магнаты з Валыні, калі будавалі барочны замак без абарончых валоў і бастыёнаў так блізка да мяжы з Масковіяй, высвятляе Цімафей Акудовіч.**

Смалянскі Белы Ковель здзіўляе двума фактамі. Па-першае, гэта самы ўсходні каменны прыватнаўласніцкі замак Вялікага Княства. І агулам адзін з двух прыватных каменных замкаў ва ўсёй Усходняй Беларусі (разам з быхаўскай фартэцыяй Сапегаў). Трэба ж было мець столькі нахабства, каб укладаць уласныя грошы ў звышдарагую будоўлю амаль што на мяжы Вялікага Княства Літоўскага з небяспечным і грозным ворагам — Масквой!

Па-другое, Сангушкі родам з іншых месцаў. Гэты род мае свае карані на далёкай адсюль Валыні, сувязь з якой яны падкрэслілі нават у назве смалянскага замка: Белы Ковель. У самім жа Ковелі (цяпер 70-тысячны горад у Валынскай вобласці Украіны) такога замка ніколі не было і блізка.

Што ж перакінула магнатаў з глыбіні дзяржавы на самы яе ўскраек? Пра гэта ёсць дзіўная сямейная гісторыя.

## Род ад Альгердаі

Сангушкі вядуць свой род ад вялікага князя Альгерда. Ці то ад яго брата, ці то ад сына Фёдара. Зрэшты, гэта не так істотна: на родавым гербе Сангушкаў скача «Пагоня», што ўводзіць іх у лік найважнейшых родаў Вялікага Княства Літоўскага.

Адзін з сыноў Фёдара Альгердавіча (выберам тут другую версію паходжання роду), Раман, атрымаў ад бацькі ў спадчыну Кобрын і заснаваў дынастыю князёў Кобрынскіх, якая праіснавала да 1519 года.

А вось другі сын, Сангушка Федзькавіч, атрымаў ад бацькі ўладанні на Валыні: Ковель, Ратна, Любамль і Выжву. Гэта і сталася пачаткам валынскай дынастыі нашчадкаў Альгерда — князёў Сангушкаў. Гісторыкі да гэтага часу спрачаюцца, што за дзіўнае імя было ў родапачынальніка — Сангушка. Магчыма, гэта адна з формаў імя Сямён?

Адзінае, што мы дакладна ведаем: абодва роды — і Кобрынскія, і Сангушкі — былі зацята праваслаўнымі.

На пачатак XVI стагоддзя кобрынская лінія згасла, сам жа Кобрын перайшоў дзяржаве, а дакладней, у рукі прадпрымальнай жонкі караля Жыгімонта Старога італьянкі Боны Сфорцы.


WIKIMEDIA COMMONS

Родавы герб Сангушкаў.

А вось Сангушкі, наадварот, яшчэ больш умацаваліся на Валыні. Князь Андрэй гаспадарыў у Камені-Кашырскім, а князь Васіль — у Ковелі. Стрыечныя браты займалі высокія пасады ў іерархіі ВКЛ: Андрэй быў валынскім маршалкам і засядаў у радзе вялікага князя, а Васіль, верагодна, быў каралеўскім прыдворным.

Васіль Міхайлавіч, які і ёсць галоўным героем гэтай гісторыі, відаць, да высокіх пасадаў быў не схільны і высілкі свае накіроўваў на развіццё ўладанняў. У 1518 годзе ён дабіўся ад Жыгімонта Старога магдэбургскага права для Ковеля і, працягваючы справу бацькі, будаваў і ўдасканальваў абарончыя ўмацаванні горада.

## Кароль ушчуваў, але замякка

Разгалінаванасць роду Сангушкаў на Валыні ў першай палове XVI стагоддзя пачала давацца ў знакі. Прадстаўнікі розных ліній, спрачаючыся за спадчынныя землі, перыядычна звярталіся ў суд, пісалі лісты да караля, часам нават і ўчынялі гвалтоўныя наезды на сваякоў.

Найбольш гэтак шчыраваў якраз стрыечны брат Васіля Андрэй і асабліва ягоны сын Фёдар Андрэевіч. У адрозненне ад дзядзькі, Фёдар быў амбітным чалавекам. Ён заснаваў на сваіх землях некалькі вялікіх храмаў (напрыклад, Мікалаеўскі мужчынскі манастыр у вёсцы Мільцы Валынскай вобласці, які дзейнічае і цяпер), на загад Жыгімонта Старога арганізоўваў войскі для барацьбы з татарамі, актыўна набываў землі вакол сваіх асноўных уладанняў. Прычым не саромеўся карыстацца добрым да сябе стаўленнем каралевы Боны Сфорцы, каб займець ▶

яшчэ больш земляў.
Як валынскі маршалак атрымаў права ўзначаліць апеляцыйны суд? Таксама, відаць, не без падтрымкі жонкі караля.

Але Фёдару Сангушку гэтага было мала, і ён працягваў павялічваць свае землі, сварачыся з суседзямі і забіраючы іх надзелы. Жыгімонт Стары неаднойчы пісаў да Фёдара, каб той спыніў наезды на іншых шляхцічаў, але агульны тон тых лістоў быў настолькі мяккі, што валынскага князя гэта не стрымлівала.

### Спадзеў на сумленнасць каралевы

Ковельскі князь Васіль Міхайлавіч Сангушка, дзядзька Фёдара, відавочна прайграваў гэтую дыпламатычную бітву і ў 1543 годзе з'явіўся перад каралём з дзіўнай просьбай:

«Лета божага нараджэння 1543, месяца лютага, 28.

Стаў перад каралём Яго Міласцю асабіста князь Васіль Міхайлавіч Сангушка Ковельскі і паведаміў, што вялікія крыўды і ўціск ад братоў сваіх кроўных і ад іншых суседзяў сваіх навакольных мае і ніякай абароны ў тым сабе не мае, і ніякай справядлівасці ў крыўдах сваіх ад іх атрымаць не можа, і з-за гэтага вялікія страты і шкоды мае».

> **«…Каб Яе Міласць усе ўладанні ягоныя ўзяла, а замест іх на іншым месцы замену яму дала, дзе ён мог бы спакойна жыць»**

Скарга да караля на ваяўнічых і агрэсіўных сваякоў была звыклай для тых часоў. Але здзіўляе тое, як Васіль Сангушка прапанаваў вырашыць гэтую праблему.

Сангушка папрасіў «каб Яе Міласць (каралева Бона) усе ўладанні ягоныя, якія ён у руках трымае, узяла, а замест іх на іншым месцы замену яму дала, дзе ён мог бы спакойна жыць».

Не кожны дзень паўнавартасны князь адмаўляецца ад сваёй сямейнай рэзідэнцыі са стагадовай гісторыяй з прычыны канфліктаў са сваякамі.
Але з іншых дакументаў вынікае, што Сангушка неаднойчы звяртаўся на каралевы Боны, каб тая выручыла яго.

Васіль Міхайлавіч даваў каралеве карт-бланш: ён прасіў Бону забраць ягоныя ўладанні ў абмен на любыя іншыя землі, якія яна магла прапанаваць.

### Змяняў быка на індыка

Што такога мусіла здарыцца, каб чалавек, якому відавочна не пагражала фізічная расправа, а толькі сваяцкія канфлікты, мог наважыцца на такую авантуру?

Каралева Бона прапанавала Сангушку Горвальскую воласць (цяпер Горваль — вёска на рацэ Бярэзіне каля Рэчыцы), а таксама двары Смаляны і Абольцы ў Віцебскім павеце. Замест латыфундый у цэнтры краіны ковельскія Сангушкі атрымалі надзелы на самым ускрайку Вялікага Княства.

Ці мог Васіль Міхайлавіч застацца задаволеным гэтым



**Прывілей 1533 года**, у якім гаворыцца, што князь Фёдар Андрэевіч Сангушка, уладзімірскі стараста, заключыў пагадненне са сваім дзядзькам Васілём Міхайлавічам Сангушкам Ковельскім, паводле якога Фёдару Андрэевічу належаць кляштар Святога Мікалая ў Мільцах з вёскамі Камарова, Салаўёва і Востраў, а Васілю Міхайлавічу — Масцішча.

## Сучасныя Сангушкі

Менавіта лінія ковельскіх Сангушкаў дажыла да нашага часу. У XIX стагоддзі яны арганізавалі маштабную гаспадарку на Валыні, пабудавалі некалькі палацаў, страцілі частку іх за ўдзел у паўстаннях, але змаглі шмат вярнуць.

На мяжы XIX і XX стагоддзяў Сангушкі правялі вялікую працу і выдалі ўвесь архіў сваёй сям'і ў 7 тамах, у якім захаваліся і дакументы Жыгімонта Старога.

рашэннем? З аднаго боку, да злосных сваякоў цяпер вельмі далёка, але замена выглядае нераўназначнай. Паўднёвыя землі Ковельшчыны, паміж багатымі Берасцем і Львовам, набліжаныя да Кракава і добра аддаленыя ад татараў і маскоўцаў... А замест іх — меншая па памеры паўночная зямля, якую ўжо сто год актыўна пляжылі памежныя войны з Масквой. І так далёка ад цэнтраў улады і агулам цывілізацыі!

Відаць, бачачы роспачны твар Васіля Міхайлавіча, кароль злітасціўся і дадаў да асноўных земляў яшчэ і Свіслацкае староства. Але Сангушка, здаецца, быў настолькі застрашаны ўласнымі сваякамі, што рады быў з'ехаць падалей. Падрабязнасцяў мы ўжо не даведаемся.

Фактам застаецца толькі тое, што ў 1543 годзе князь Васіль Міхайлавіч Сангушка Ковельскі з жонкай Сафіяй, сынам Грыгорыем і трыма дочкамі, Ганнай, Магдаленай і Марыяй, сабраўшы пажыткі, пераехаў з радавога гнязда ў далёкія Смаляны.

## Новае гняздо

Для жыцця выбралі чамусьці менавіта Смаляны, а не багацейшыя на той момант Абольцы. Сам Васіль Міхайлавіч памёр дзесьці ў 1555 годзе, а ягоны сын Грыгорый пабудаваў у Смалянах вялікі драўляны двор, «острогом обведеный», дзе па перыметры стаялі кухня з каmораю, пякарня, стайня, лазня, піўніца, свіран і клець, а пасярэдзіне «дом великий низкий» з некалькімі пакоямі і святліцамі, дзе жылі самі гаспадары. Жыць можна, але зусім не тое, што ў іх было ў Ковелі.

Пабудавалі ў Смалянах і новую праваслаўную царкву Святога Спаса, у якой, відаць, размясцілася родавая пахавальня. Там спачыў спачатку сам Васіль Міхайлавіч, а пасля ягоны сын Грыгорый і ўнук Андрэй (апошні дзесьці ў 1591 годзе).

## Не Сямён, а Шыман Самуэль

А наступны прадстаўнік дынастыі, Сямён Андрэевіч, захацеў перамен. Ён атрымаў добрую еўрапейскую адукацыю ў Інгальштацкім універсітэце ў Германіі, быў заўважным удзельнікам войнаў са Швецыяй, хадзіў разам з Ілжэдзмітрыем на Маскву. І дзесьці там, паміж Мюнхенам і прыгарадамі Масквы, пастанавіў перайсці з праваслаўя ў каталіцтва. Першы ў сваім родзе.

З нешматлікіх фактаў, якія дайшлі да нашага часу, складваецца ўражанне (магчыма, падманлівае), што Сангушка «злавіў» месіянскую хвалю, якая панавала тады сярод польскай і літоўскай шляхты. Яны разбілі шведаў, дайшлі да Масквы, адбілі Смаленск — і ўсё гэта дзеля таго, каб пашыраць межы сваёй, каталіцкай, цывілізацыі на ўсход.

Сангушка загадаў называць яго не Сямёнам, а Шыманам Самуэлем, нецалерантна ставіўся да праваслаўных на сваіх землях і нарэшце вырашыў пабудаваць




**Кафля з Белага Ковеля (рэканструкцыя)**, другая палова XVII стагоддзя.Тэкст расказвае пра будаўніка і гаспадара замка Шымана Самуэля Сангушку: што ён з Ковеля, валодае Абольцамі, Горвалем, Ракавам, Ахрынам, Друцкам і з'яўляецца ваяводам Віцебска і старастам Суража.

у Смалянах каменны замак — задача, за якую ў той час браліся толькі вельмі сур'ёзныя магнаты.

У 1611 годзе Вялікае Княства Літоўскае забрала ў Масквы Смаленск, дзяржаўная мяжа пасунулася — і Сангушка, верагодна, палічыў, што гэта не апошні раўнд інтэрвенцыі. Масковія выглядала тады надзвычай слабай. Тады Шыман Самуэль і пачаў маштабнае будаўніцтва ў Смалянах каменнага замка.

Для рэзідэнцыі выбралі невысокую пляцоўку 100×200 м усярэдзіне балоцістай поймы рэчкі Дзярноўкі. Асновай замка быў трохпавярховы палац з адной вялікай вежай, тры карпусы ўтваралі невялікі ўнутраны двор.

Вялікай таямніцай застаецца пытанне земляных валоў і бастыёнаў вакол замка. Іх няма. Што для рэзідэнцыі таго часу вельмі незвычайна. ▶

Тут варта звярнуць увагу, што ў Гальшанскага замка, які будавалі Сапегі ў гэты ж самы час, валоў таксама выяўлена не было. Можа гэта была такая новая мода, а можа Сангушка лічыў пытанне агрэсіўнай Масковіі ўжо вырашаным? Але ж ёсць яшчэ іншыя «добразычлівыя» суседзі — ахвотныя да чужых земляў магнаты. Наўрад ці Шыман мог не ведаць гісторыю свайго прадзеда.

Не, гэтую гісторыю ён ведаў дакладна, бо назваў свой новы замак Белы Ковель, не жадаючы губляць сувязь са сваімі старымі ўладаннямі, а магчыма, і з княскім тытулам.

Паводле апісанняў, замак быў звонку пабелены, а знутры размаляваны фрэскамі на біблейныя тэмы Страшнага суда. У замку Сангушка сабраў вялікую бібліятэку, сам даследаваў і склаў сямейны радавод, займаўся маляваннем і гравюрай, напісаў некалькі рэлігійных твораў.

## На Валыні спакайней

Шыман Самуэль моцна рызыкаваў, будуючы такі гмах блізка да мяжы з Масковіяй, але мы не маем звестак, як войны сярэдзіны XVII стагоддзя закранулі Смаляны. Затое дакладна ведаем, што ўчыніла Паўночная вайна.




IMAGO.BY

Паводле Дэулінскага мірнага пагаднення 1619 года Смаленшчына адышла да Вялікага Княства Літоўскага, мяжа з Маскоўскім царствам адсунулася на ўсход. **Фрагмент рукапіснай карты Ізраэля Гопэ сярэдзіны XVII стагоддзя.**



**Кафля з родавым гербам Сангушкаў «Пагоня»** з Белага Ковеля.

У 1708 годзе Белы Ковель занялі шведскія войскі пад кіраўніцтвам генерала Габрыэля Ота Каніфера, ад'ютанта караля Карла XII. Тагачасны гаспадар Смалянаў Павел Караль Сангушка, праўнук Шымана Самуэля, стаяў на той момант на баку прыязнага Швецыі былога караля Станіслава Ляшчынскага, і шведы былі ў замку ў пэўным сэнсе гасцямі. Таму, відаць, дазволілі сабе крыху расслабіцца. За што і паплаціліся.

Аднаго дня зніадкуль узнік атрад казакаў, які разбіў шведаў, узяў у палон Каніфера і падпаліў замак.

Пасля вайны Павел Сангушка, падаецца, прывёў замак у парадак, але ўрэшце ўсё ж вырашыў перасяляцца назад на Валынь. На той момант ягоны род параднiўся з родам Астрожскіх і ў выніку збегу некалькіх фактараў стаў уласнікам вялізных валынскіх уладанняў — Астрожскай ардынацыі.

Павел Сангушка з жонкай Барбарай пабудавалі шыкоўны палац у Ізяславе (цяпер Хмяльніцкая вобласць Украіны), гарадскі палац у Гродне (ён захаваўся да сённяшняга дня)

ФОТА ЛІЗАВЕТЫ ДУБІНЧЫНАЙ

**Вакол замка ніколі не было ні абарончых валоў, ні бастыёнаў.**

і кляштар манахаў-капуцынаў у Любліне, які і зрабілі сваім асноўным сямейным склепам.

### Пакінуты і разбураны

Са Смалянаў Сангушкі сышлі, пакінуўшы іх сваім перыферыйным уладаннем. І ўсяго праз паўстагоддзя замак стаў такім, якім яго ўбачыў мастак Юзаф Пешка. А ў 1820-х гадах руіну прадалі маскоўскаму чыноўніку Васілію Сямёнаву, які пачаў разбіраць яго на цэглу, пакуль не засталося тое, што 1870-х гадах убачыў Напалеон Орда. Падобную карціну можа ўбачыць і сучасны турыст, прыехаўшы ў гэту прыгожую вёску. Дзіўным чынам акварэль Орды нібыта закансервавала руіну Сангушкавай вежы і ўвесь навакольны далягляд.

Калі падлічыць, то атрымліваецца, што Сангушкі пражылі ў Смалянах крыху больш за 130 гадоў, пасля чаго вярнуліся на сваю родную Валынь. Хоць пра свае ўсходнія землі не забываліся. У другой ▶



KROKAPP.COM

**Палац Сангушкаў у Гродне** захаваўся да нашых дзён. Ён быў пабудаваны ў самым цэнтры, адразу за Фарай Вітаўта.



BBC.COM, BY OLEKSII BUKHALO

**Шыкоўны палац Сангушкаў у Ізяславе (Украіна)** таксама разбураецца.

**Мураваныя касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі і кляштар дамініканцаў** былі пабудаваныя на грошы Сангушкаў ужо пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі Смаляны адышлі да Расійскай імперыі.

ФОТА ЛІЗАВЕТЫ ДУБІНЧЫНАЙ

▸ палове XVIII стагоддзя Геранім Сангушка (сын Паўла) зафундаваў праз дарогу ад замка вялікі мураваны каталіцкі касцёл з францішканскім кляштарам. На той момант гэта была ўжо тэрыторыя Расійскай імперыі.

### Ці будзе на што глядзець?

Цяпер прадстаўнікі старажытнага роду жывуць у Бразіліі. Павел Сангушка ўзначальвае арганізацыю «Дом Сангушкаў» у Сан-Паўлу. Некалькі гадоў таму ён прыязджаў у Літву і Украіну, дзе аглядаў старыя ўладанні свайго роду.

Аднойчы Сангушкі даедуць і да Смалянаў, каб паглядзець на велічны напамін пра тое, як адзін княжацкі род не па сваёй волі стаў аванпостам каталіцкай цывілізацыі на ўсходзе Вялікага Княства Літоўскага. Хочацца верыць, што тады тут яшчэ будзе на што глядзець. ◆



**Па спасылцы — сем з паловай хвілін палёту над замкам Белы Ковель і мястэчкам Смаляны**, такімі, якімі яны былі ў XVII стагоддзі. Відэа дазваляе агледзецца на 360° і пабачыць драбніцы ў якасці 4K. Аўтары відэатура — арт-праект VKL3D.

### З замка ў царкву

Кажуць, нібыта цэгла з разабранага замка пайшла, апроч іншага, на пабудову царквы Святога Аляксея. Сёння гэтая царква — таксама руіна.

WIKIMEDIA COMMONS



**Такім замак у 1820-я гады ўбачыў Юзаф Пешка.**

WIKIMEDIA COMMONS



**Так выглядаў замак, калі яго ў 1870-х маляваў Напалеон Орда.**

# Памешчык-нашанівец

## *Па слядах Язэпа Бурачка*

**У XIX стагоддзі беларусы не мелі спецыяльных установ, якія б мэтанакіравана вывучалі беларускую мову і культуру. Аднак знаходзіліся энтузіясты, якія рабілі гэта самастойна. Пра стваральніка аднаго з першых слоўнікаў беларускай мовы Язэпа Ціхінскага піша Сяргей Астанковіч.**

Першыя беларускія газеты, якія сталі выходзіць у пачатку мінулага стагоддзя, выдаваліся людзьмі сацыялістычных поглядаў, адпаведным быў і іх асноўны ідэйны кірунак. Але гэта не замінала супрацоўнічаць з імі і асобным беларускім землеўласнікам-дэмакратам, якія адчувалі сімпатыю да нованароджанага нацыянальнага руху.

У пачатку 1908 года ў № 7 рэдакцыя газеты «Наша Ніва» звярнулася да сваіх чытачоў з просьбай дасылаць ёй «беларускія песні на нотах», а неўзабаве надрукавала падзяку тым, хто гэта зрабіў. Сярод пералічаных асоб мы знаходзім і Язэпа Ціхінскага — памешчыка з-пад Крычава.

Гэты прадстаўнік мясцовай грамадскай эліты адносіўся да той яе часткі, якая ніколі не губляла сувязі з беларускасцю і адчувала блізкасць да мясцовых сялян, у якіх бачыла малодшых братоў, што чакаюць дапамогі. Важная роля пры гэтым адводзілася падтрымцы беларускай мовы і папулярызацыі прадукцыі на ёй.




**Герб «Сякер».** Адным з яго варыянтаў карысталіся Ціхінскія.

### Бурачок, але не Багушэвіч

Ціхінскі не толькі сам чытаў «Нашу Ніву» і іншыя беларускія выданні, але і распаўсюджваў іх па сваіх ваколіцах. У архіве рэдакцыі захаваліся ягоныя лісты, у якіх памешчык замаўляе дзясятак беларускіх календароў.

Быў гэты чалавек і аўтарам артыкулаў у «Нашай Ніве». Тры ягоныя карэспандэнцыі, надрукаваныя ў газеце, даюць добрае ўяўленне пра грамадска-палітычныя погляды Язэпа Ціхінскага. Важную ролю ў жыцці краіны ён адводзіў развіццю асветы, выступаў за стварэнне сістэмы парламенцкай дэмакратыі і земскага самакіравання, рэзка выказваўся супраць дзейнасці чарнасоценцаў і ўрадавага гвалту.

Відаць, не быў выпадковым і псеўданім, якім карэспандэнт з маёнтка Прусін Чэрыкаўскага павета падпісваў свае допісы, — **Язэп Бурачок**. Тут адчуваецца яўны перагук з псеўданімам Францішка Багушэвіча Мацей ▸







**Ліст Ціхінскага ў «Нашу Ніву».**

▶ Бурачок, пад якім быў выдадзены славуты зборнік «Дудка беларуская» з нацыятворчай прадмовай. Творамі Багушэвіча натхняліся многія тагачасныя беларускія дзеячы, і Ціхінскі, выбіраючы падобны псеўданім для сябе, магчыма, хацеў падкрэсліць пераемнасць з будзіцелем беларусаў. Тым больш што сам дзесяцігоддзі да гэтага рабіў працу, патэнцыйна не менш важную для беларускага нацыятварэння.

### Рагачоўскія

Язэп Ціхінскі быў чалавекам з таго ж самага пакалення, што і Францішак Багушэвіч. Ён прыйшоў на свет у фальварку Фларэнтымаў Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер — Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці) 28 верасня 1842 года (па новым стылі). Ягонымі бацькамі былі Фларыян Ціхінскі, былы штабс-капітан расійскай арміі, і Антаніна Ціхінская — землеўладальніца, што мела прыгонных сялян у вёсках Мазалаў і Ухватаўка таго ж Рагачоўскага павета. Цікава, што дзявочае прозвішча Антаніны, як вынікае з метрыкі шлюбу, было таксама Ціхінская — той рэдкі выпадак, калі маладыя былі аднафамільцамі. Гэты род карыстаўся гербам «Сякер» і быў унесены ў другую частку родавых дваранскіх кніг Магілёўшчыны.

Звесткі пра маладыя гады Язэпа сціплыя. Відаць, ён не атрымаў грунтоўнай адукацыі, але веды цаніў і да канца жыцця імкнуўся кампенсаваць іх недахоп самастойнай працай з рознай літаратурай.

У 1862–1864 гадах малады Ціхінскі працаваў дробным чыноўнікам у Магілёўскай палаце дзяржаўных маёмасцяў, але неўзабаве выйшаў у адстаўку, трэба думаць, звязаную з яго каталіцкім паходжаннем. Пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гадоў такія асобы на дзяржаўнай службе сталі непажаданымі і іх стараліся замяніць нават не проста мясцовымі праваслаўнымі, а чыноўнікамі з глыбіні Расіі. Праз некалькі гадоў, у 1867-м, Ціхінскі, праўда, спрабаваў вярнуцца да чыноўніцтва і нават атрымаў на тое дазвол, але па нейкіх прычынах на службу так і не заступіў.

### Маёнтак Прусін

У 1868 годзе Язэп Ціхінскі ўзяў шлюб з Людмілай Яноўскай з маёнтка Прусін Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Крычаўскі раён Магілёўскай вобласці). У гэтым шлюбе нарадзіліся тры дачкі і сын, але сямейнае шчасце было не надта доўгім: праз дзесяць гадоў Людміла памерла ад сухотаў. А з маёнткам Прусін аказалася звязанае амаль усё астатняе жыццё яе мужа.

Відаць, праца па вядзенні спраў немалога — 600 дзесяцін, гэта 660 гектараў — маёнтка забірала ў гэтага чалавека шмат сілаў і энергіі. Але пры гэтым ён знаходзіў час і на незвычайнае хобі, якое ўрэшце стала галоўнай справай жыцця, — на стварэнне фундаментальнага рукапіснага слоўніка, у якім беларуская мова фактычна ўпершыню выступіла як раўнапраўная ў адносінах да

### Сябар-паўстанец

На шлюбе ў Ціхінскага сярод іншых прысутнічаў Феліцыян Сурын (1842/1843–1921) — публіцыст і літаратар, паўстанец 1863–1864 гадоў, удзельнік славутага штурму і захопу Горак атрадам Людвіка Звяждоўскага. У той час ён знаходзіўся пад наглядам паліцыі, але ў 1871-м быў з-пад яго вызвалены. Жыў на Магілёўшчыне, супрацоўнічаў з рознымі польскамоўнымі выданнямі, пішучы на краязнаўчыя і гістарычныя тэмы. У 1880-я гады пераехаў у Мінск, а потым у Кракаў. Тут у 1885 годзе ў друкарні Анчыца выйшла аповесць Сурына «Фатальныя ўплывы», прысвечаная лёсу шляхецкай сям'і з-пад Крычава.




**Генеалагічнае дрэва сям'і Ціхінскіх,** складзенае аўтарам артыкула.





**Старонкі са слоўніка Ціхінскага.**

дзвюх вялікіх моў нашай часткі Еўропы — рускай і польскай.

## Справа жыцця

Слоўнік Ціхінскага ствараўся ў цяжкі для развіцця беларускай мовы час, калі амаль не існавала шыроказвядомых літаратурных твораў на беларускай мове. Таму ягоны стваральнік ставіў перад сабой фактычна невырашальную для адной асобы, якая да таго ж не мела спецыяльнай падрыхтоўкі, задачу — стварыць слоўнік літаратурнай мовы, якой няма. Гэта азначала, што адначасова са складаннем уласна слоўніка трэба было і рабіць спробу ўнармавання, кадыфікацыі ды ўзвышэння народнай мовы да стану літаратурнай.

Колькі цягнулася праца па ўкладанні слоўніка, зараз сказаць цяжка, але гэта быў тэрмін, не меншы за 30–40 гадоў. У 1904 годзе Ціхінскі пачаў перапісваць словы з картак у сшыткі з надзеяй некалі ўбачыць свой слоўнік у друку.

Калі ў пачатку 1909 года ў «Нашай Ніве» з'явілася рэкламная абвестка выдавецкай суполкі «Наша хата», то ўзрадаваны Ціхінскі стаў членам таварыства, спадзеючыся на дапамогу ў друку свайго слоўніка. Гэтае пытанне абяцалі разгледзець на пасяджэнні «паўнапраўных сябрукоў» выдавецтва.

Але беларускія выдавецтвы пачатку XX стагоддзя былі занадта слабыя, каб ▶

### Беларуска-польска-рускі слоўнік Язэпа Ціхінскага

складаецца з трох частак, у якіх паралельна прадстаўленыя беларускія (на першым месцы) лексемы, іх польскія (другая калонка) і рускія (трэцяя калонка) адпаведнікі.

Аснову слоўніка складае агульнаўжывальная лексіка беларускай мовы, якая ўвайшла і ў пазнейшыя акадэмічныя слоўнікі: словы накшталт **аграст** (агрэст), **адшчапіць, акладка, астрог, дрывотнік** (паветка для захавання дроў), **карагод, лапік, ласка, лашчыць, палетак, плячысты, прысадзісты**.

Заўважаецца, што аўтар добра ведаў лексічныя запасы беларускай народнай мовы, адчуваў перспектывы яе развіцця і ў свой слоўнік уключаў толькі найбольш вартае, неабходнае, каштоўнае. Разам з тым у ім зафіксавана нямала і рэгіянальных слоў, пераважна з тэрыторыі Усходняй Беларусі. Напрыклад, пастушка, які выганяе жывёлу на пашу ранкам, у гэтых беларускіх гаворках называюць **пара́нашнік**, а рэшткі ежы — **пае́ддзе**. Такіх найменняў у слоўніку вялікае мноства.

Складальнік слоўніка ўсебакова раскрываў значэнні слоў, даваў ім кваліфікаванае, даходлівае тлумачэнне.

Забяспечаны слоўнік і багатым ілюстрацыйным матэрыялам. Найчасцей гэта былі кароткія сказы бытавога зместу, асобныя фразы і словазлучэнні. У сукупнасці з тлумачэннем, польскім і рускім адпаведнікамі яны дапамагаюць глыбей асэнсаваць, зразумець значэнне слова. У многіх выпадках ілюстрацыямі з'яўляюцца ўстойлівыя выразы: фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі. Так, слова **кажух** падаецца ў прыказцы «**Абяцаў пан кажух, ды слова яго грэіць**»; лексемы **каса, пакора** ілюструюцца прымаўкамі «**Трапіла каса на камень**» і «**Пакора аблокі прабіваць**».

падрыхтаваць да друку працу такога маштабу. Тая ж «Наша хата» за час свайго існавання (1908–1911) выдала ўсяго восем кніг, з іх тры — для дзяцей.

Таму слоўнік Язэпа Ціхінскага тады выдадзены не быў. А неўзабаве пачалася Першая сусветная вайна.

### Хаджэнне па пакутах

Ход вайны для расійскай арміі складваўся не надта ўдала. Праз год пасля пачатку баявых дзеянняў яна стала адступаць пад ціскам нямецкіх войскаў, пакідаючы вялікія абшары на захадзе імперыі. Беларускі край напоўніўся бежанцамі, якім трэба было аказваць дапамогу. У гэтых умовах стары памешчык апекаваўся ўцекачамі з Польшчы і Літвы, ствараў для іх дзяцей магчымасці для вучобы. Пасля пачатку вайны да бацькі прыехала дачка Ядвіга. У сваіх успамінах яна прыгадвае цікавую акалічнасць з тых часоў: «Я стварыла беларускую бібліятэчку, закупіўшы ўсе кніжкі, якія толькі магла купіць у Магілёве».

Язэп Ціхінскі ў гэты час яшчэ спрабаваў дапісваць і ўдакладняць свой слоўнік. Але праца над рукапісам у выніку засталася няскончанай, хоць там было ўжо каля 10 тысяч старонак і каля 200 тысяч слоўнікавых артыкулаў.

Новыя часы неслі глабальныя сацыяльныя перамены, да якіх чалавеку, якому было ўжо больш за 70 гадоў, прыстасавацца было складана. Страціўшы пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года свой маёнтак, ён згубіў яшчэ і зрок, стаўшы беспрытульным і ў дадатак сляпым старым чалавекам. Жывучы то ў дачкі, то ў сына, у рэшце рэшт Ціхінскі мусіў перабрацца да свайго брата, што жыў на чыгуначнай станцыі Талька (цяперашні Пухавіцкі раён Мінскай вобласці). А памёр, паводле сведчання дачкі, на Рагачоўшчыне — зямлі сваіх продкаў. На жаль, дагэтуль дакладна не высветлена, калі гэта адбылося.




**Родныя мясціны Ціхінскага — ваколіцы Рагачова ў 1853 годзе.** Чырвоным колерам, акрамя Рагачова і Жлобіна, вылучаныя вёскі, у якіх яго маці мела прыгонных.

### Дачка-аднадумца

Старэйшая дачка Ціхінскага Ядвіга Ціхінская-Лявіцкая (1869–1956) была даволі прыкметнай асобай у польскім сацыялістычным руху, належала да яго крайне левага крыла. Выпускніца Бястужаўскіх вышэйшых жаночых курсаў у Пецярбурзе, пасля яна, уступіўшы ў Польскую сацыялістычную партыю, брала ўдзел у выдавецкай і асветніцкай дзейнасці партыі ў Польшчы. Сярод іншага разам з іншай вядомай польскай сацыялісткай Стэфаніяй Сэмпалоўскай заснавала школу для дзяцей палітвязняў.

Падчас Першай сусветнай вайны на некалькі гадоў вярнулася на радзіму, але ў 1922-м выехала ў Варшаву, працягнула працу ў левых польскіх арганізацыях. Памерла ў канцы 1956 года, пахаваная на прэстыжных Павонзкаўскіх могілках у Варшаве.

Падтрымлівала бацьку ў ягонай цікавасці да беларушчыны. Ужо ў пачатку XX стагоддзя, працуючы настаўніцай у Беларусі, выкарыстоўвала беларускія кнігі ў навучальным працэсе. Падтрымлівала перапіску з вядомымі людзьмі, што займаліся вывучэннем беларускай культурнай спадчыны, такімі як Аляксандр Ельскі і Міхал Федароўскі.

### «Адзін рукапіс важыць пуд»

У той жа час нельга сказаць, што шматгадовая праца Ціхінскага на карысць беларускай навукі і культуры не была ягонымі сучаснікамі заўважаная і прызнаная. Як толькі рэвалюцыі і войны на тэрыторыі Беларусі скончыліся, а сітуацыя больш-менш стабілізавалася, знайшліся людзі, якія паставілі перад новай уладай пытанне аб падтрымцы заслужаных для Беларусі дзеячаў нават з няручным сацыяльным паходжаннем.

7 снежня 1921 года ў СНК БССР быў накіраваны даклад

Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы, у якім адзначаліся заслугі перад беларускім народам двух навукоўцаў з Магілёўшчыны: Еўдакіма Раманава і Язэпа Ціхінскага, якія прысвяцілі ўсе сілы культурнаму адраджэнню свайго народа і напрыканцы жыцця апынуліся ў складанай сітуацыі. Канстатавалася, што, «выбітыя з каляіны жыцця, гэтыя масцітыя старцы асуджаныя літаральна на галодную смерць».

Пра Ціхінскага ў гэтым дакуменце казалася, што «ён у выніку сваёй 30-гадовай працы ... стварыў каласальны ... класічны слоўнік ... адзін рукапіс якога важыць 1 пуд... Працуючы над ім, Ціхінскі страціў зрок і дажывае рэшткі сваіх дзён на станцыі Талька ў крайняй патрэбе і бездапаможнасці... Рукапіс гэтага слоўніка перададзены ягонымі сваякамі ў Акадэмічны цэнтр». А напрыканцы рабілася выснова: «Было б злачынствам пакінуць гінуць ад голаду найлепшых сыноў Беларусі. Дапамога павінна быць аказаная неадкладна... Ціхінскаму — 3 мільёны рублёў».

21 студзеня 1922 года Саўнаркам ССРБ прыняў рашэнне аказаць дапамогу абодвум пажылым навукоўцам. Але ці паспеў Ціхінскі атрымаць гэтыя грошы — невядома. Раманаў іх не дачакаўся дакладна: ён памёр у расійскім Стаўрапалі, у якім жыў з 1917 года, роўна за дзень да прыняцця гэтага рашэння — 20 студзеня 1922 года.


ФОТА МІРАСЛАВА ЯНКОВЯКА

Пахаванне дачкі Язэпа Ціхінскага ў Варшаве, на Павонзках.

### «Абклееных аўтарам каленкорам»

У 1921 годзе нехта са сваякоў Ціхінскага ў Маскве прадаў за некалькі мільёнаў тагачасных рублёў падрыхтаваны ім рукапіс прадстаўнікам Народнага камісарыята асветы БССР. А калі ў наступным годзе быў заснаваны Інстытут беларускай культуры (правобраз будучай Акадэміі навук), слоўнік перадалі ў ягоную бібліятэку. Выдадзены ён так і не быў, але сабраныя энтузіястам з-пад Крычава матэрыялы выкарыстоўваліся супрацоўнікамі інстытута ў працэсе распрацоўкі літаратурнай мовы ў 1920-я гады. Нездарма мовазнавец Мікола Байкоў, які разам са Сцяпанам Некрашэвічам стаў аўтарам акадэмічных расійска-беларускага і беларуска-расійскага слоўнікаў, якія пабачылі свет напрыканцы беларусізацыі, называў працу Ціхінскага галоўнай каштоўнасцю Інбелкульта.

Быў і другі варыянт рукапісу, які недзе ў той жа самы час трапіў у Вільню, у зборы Беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Відаць, паспрыяла гэтаму дачка Ціхінскага.

Навукоўцы лічаць, што мінскі варыянт слоўніка загінуў разам з іншымі скарбамі Акадэміі навук падчас вайны. Захаваўся толькі той варыянт, што быў у Вільні. Але музей Івана Луцкевіча, як вядома, быў ліквідаваны ў 1945 годзе. Частка яго збораў засталася ў Літве, а рэшта была перададзена ў розныя ўстановы БССР. Але слоўніка Ціхінскага сярод перададзенага не аказалася.

У 1957 годзе большую частку рукапісу знайшоў у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы беларускі навуковец Аляксандр Вяржбоўскі. Ён жа пакінуў і падказку, дзе і як знайсці рэшту: «Тамы рукапісу (каля 3 000 старонак) трэба шукаць у папках 23×19, абклееных аўтарам каленкорам, папера фабрыкі кн. Паскевіча 23×18, шрыфт — лацінскі, з транскрыбіраваннем кірыліцай. Яны могуць быць і ў Вільні, і ў Мінску, знайсці іх — пачэсны абавязак супрацоўнікаў архіваў».

На жаль, беларускія навукоўцы не надта да гэтага закліку прыслухаліся і пакуль мала зрабілі як для такіх пошукаў, так і вывучэння захаванай часткі слоўніка. Праўда, у акадэмічным Інстытуце мовазнаўства ёсць мікрафільм рукапісу, выйшла некалькі невялікіх артыкулаў, аднак у цэлым праца энтузіяста з маёнтка Прусін дагэтуль застаецца не надта даследаванай. Хочацца верыць, што толькі пакуль. ◆

Апельсінавыя дрэвы з Севільі, прывезеныя ў 1527 годзе іспанцамі, на камяністай глебе Кюрасаа здзічэлі, раслі кепска і давалі занадта горкія і валакністыя плады, непрыдатныя для ежы. Здзічэлыя цытрусавыя атрымалі назву ларáха, а з лупінаў іх няспелых пладоў сталі атрымліваць духмяны алей, які стаў асновай фірмовага лікёру «Кюрасаа». Прыдумаў гэты напой Лукас Болс (1652–1719), ён жа надаў яму сіні колер як намёк на своеасаблівую алхімічную таямніцу.

У якасці асновы для класічнага лікёру «Кюрасаа» выкарыстоўваюць спірт з цукровага трыснягу, мацунак напою можа быць ад 15° да 40°.



**Мала ёсць былых калоній, якія сёння маюць узровень жыцця, як у самых багатых краінах Еўропы. Гэта толькі Ірландыя, Сінгапур і Нідэрландскія Антыльскія астравы. На Кюрасаа пабывала Таіса Андрэева, мы запісалі яе ўражанні.**

Многія з вас ніколі не чулі, што ёсць такая краіна. Але пры гэтым ведаюць лікёр з такой назвай — непаўторна сіні.

Няхай вас не ўводзіць у зман, што Кюрасаа — астраўная дзяржава з ліку былых калоній, а большасць насельніцтва тут — нашчадкі былых рабоў. Гэта адна з самых заможных краін свету.

Так, сёння 84% бюджэту краіны прыносіць турызм. Але кожны чалавек тут, хай сабе ён носіць расцягнутую футболку і сярод ночы вязе вашай кампаніі кантрабандныя кубінскія цыгары, запраста можа аказацца ўласнікам дарагога рэстарана. А пышная чарнаскурая жанчына, што змахвае падолам пыл з лавы і мосціцца на ёй спаць, — нават у гэтай сітуацыі застаецца лэдзі.

### Прышчэплены атожылак

Іспанцы «адкрылі» Кюрасаа ў 1499 годзе. На востраве яны сустрэлі індзейцаў аравакаў і какецыа — апошнія вылучыліся высокім ростам. Практычна ўсіх карэнных жыхароў іспанцы вывезлі на Гаіці ў якасці рабоў. На нейкі час востраў пераўтварыўся ў адну вялікую ферму: сваіх буйных жывёл на ім не было, але іспанцы прывезлі і пусцілі вольна пасвіцца мноства коз, авечак, кароў.

Бліжэй да сярэдзіны XVII стагоддзя востраў адваявалі галандцы, што акурат дабіліся незалежнасці ад Іспаніі. Галандская Вест-Індская кампанія ўпадабала зручную гавань Кюрасаа для мараходства, пірацтва і гандлю, у тым ліку рабамі. Ролю гандляроў жывым таварам можна з горкай усмешкай назваць нацыяўтваральнай: сёння чарнаскурыя — карэнныя жыхары і гаспадары вострава. І галоўны музей краіны прысвечаны менавіта гандлю рабамі, а ў сем'ях ведаюць, з якой часткі Афрыкі прывезлі некалі іх продкаў.

Нацыянальны герой Кюрасаа — таксама раб. Тула, лідар паўстання рабоў на Кюрасаа ў 1795 годзе, быў значна больш адукаваным, чым мы можам сабе ўявіць: ведаў пра скасаванне рабства ў французскіх калоніях і гарачы поступ Вялікай Французскай рэвалюцыі, гаварыў на некалькіх мовах, цытаваў Біблію — і быў выдатным аратарам. Ён прыйшоў да свайго ўласніка не як бунтар, але як роўны: са словамі пра справядлівасць і права на свабоду незалежна ад колеру скуры. Гаспадар плантацыі, галандзец ван Утрэхт, пераклаў адказнасць на губернатара вострава.

Пакуль Тула дайшоў да губернатара ў сталіцу Вілемстад, вакол яго згуртаваліся 2 000 чалавек. Вядома, хадакоў назвалі экстрэмістамі, мяцеж быў задушаны, а памяць пра завадатараў пастараліся сцерці і перайначыць, каб нават ▶

**Кюрасаа**

выспа ў паўднёвай частцы Карыбскага мора, разам з ненаселеным востравам Малы Кюрасаа складае аўтаномію ў складзе Каралеўства Нідэрланды.

Плошча краіны: 444 кв. км.

Насельніцтва: 151 345 жыхароў (прыкладна як у Баранавічах).

Валюта: антыльскі гульдэн.

Сталіца: Вілемстад.

▶ такія ж рабы казалі: не, ну ён быў занадта жорсткі і радыкальны. Рабства на Кюрасаа было скасавана толькі ў 1863 годзе. А ў канцы 1960-х былі перапрачытаныя архівы «белых», якія захавалі памяць пра Тулу, патлумачаныя з папраўкай на час, — і сёння ён нацыянальны герой краіны, а на востраве стаіць 7 помнікаў паўстанню.



WIKIMEDIA COMMONS

Музей рабства *Kura Hulanda*.

## Мова рабоў, але не рабская

Астравы *ABC* (Аруба, Банайрэ, Кюрасаа) — так яшчэ называюць Нідэрландскія Антыльскія астравы, самыя заходнія (падветраныя) астравы ў Карыбскім моры. Лучыць іх падобная гісторыя і супольная мова: пап'ямента. Яна ўтварылася ў асяродку рабоў на базе партугальскай (сама назва пайшла ад партугальскага слова *papear* — балбатаць, гаварыць). Але разам з тым у гэтай мове шмат ад іспанскай, нідэрландскай, англійскай, а таксама нямецкай і італьянскай.

Сёння на пап'ямента гавораць дома, на вуліцы, у царкве, у судзе і парламенце. Гэтай мовай друкуюцца кнігі і газеты, ствараюцца сайты, вядуцца тэлешоу. Гэта ўнікальная крэольская мова,


VIRGIN-ISLANDS-HISTORY.ORG

Так перавозілі рабоў.

WIKIMEDIA COMMONS

**Адміністрацыйны цэнтр Кюрасаа, горад Вілемстад,** выглядае як маленькі Амстэрдам.


WIKIMEDIA COMMONS

**Тула, нацыянальны герой Кюрасаа.** Карціна работы Эдселя Селберы, 2012 год.


WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік паўстанню Тулы 1795 года.**

бо колькасць яе носьбітаў расце: лацінаамерыканцам, якія ў апошні час актыўна эмігруюць на Кюрасаа, прасцей вывучыць пап'ямента, чым галандскую. А эмігруюць сюды з Венесуэлы і Калумбіі ахвотна: тут багацце і парадак.

З 2007 года пап'ямента — дзяржаўная мова Кюрасаа. Разам з нідэрландскай і англійскай.

Шмат гадоў жыхары Кюрасаа патрабавалі, каб іх дзяцей вучылі на пап'ямента. Не было слоўнікаў, падручнікаў, праграм, усё гэта ствараласся актывістамі наноў. Цікава, што два з трох астравоў *ABC*, Кюрасаа і Банайрэ, абралі фанетычны прынцып напісання, а Аруба — этымалагічны. Зрэшты, гэта не замінае тром астравам мець супольную акадэмічную прастору.

І вось калі ўсё ўжо было падрыхтавана і ўлады пастанавілі перавесці большасць пачатковых школ на родную мову — у школы з нідэрландскай мовай навучання вырасла чарга. Прэстыж мовы — штука глыбейшая за этнічныя і нават расавыя адрозненні.


WIKIMEDIA COMMONS

**Нідэрландскія Антыльскія астравы — гэта Кюрасаа (160 тысяч жыхароў), Аруба (120 тысяч) і Банайрэ (20 тысяч).** Усе тры гэтыя былыя нідэрландскія ўладанні багацейшыя, чым былыя ці цяперашнія французскія і англійскія антыльскія калоніі і тэрыторыі. Нагадаем, што сярод іншых Падветраных і Наветраных малых антыльскіх астравоў — Трынідад і Табага, Марцініка, Гвадэлупа, Барбадос, Грэнада, Дамініка, Сэнт-Люсія, Сэнт-Вінсэнт і Грэнадзіны ды іншыя. Амаль усе яны жывуць з турызму.

## Універсітэт Кюрасаа

Сёння на Кюрасаа працуюць тры ўніверсітэты, два з іх — прыватныя.

У дзяржаўнай вышэйшай школе — Універсітэце Кюрасаа — вучыцца каля 2 000 чалавек на пяці факультэтах: юрыдычным, інжынерным, грамадазнаўства і эканомікі, педагагічным і факультэце сацыяльных навук.

Праграмы ва Універсітэце Кюрасаа пабудаваныя паводле нідэрландскай сістэмы вышэйшай адукацыі. Мовы навучання — нідэрландская, англійская, іспанская і пап'ямента. Навучанне на бакалаўрскай ступені каштуе каля 3000 долараў за год.

## Каштоўнае сваё

Кюрасаа не надта прыдатнае месца для земляробства: не глеба, а суцэльны камень. Ежа — адзін з важных артыкулаў імпарту для гэтай маленькай краіны. Баржы з садавінай штодзённа прыбываюць сюды. Выбіраеш на пірсе ананас — і яго тут жа, на баржы, пачысцяць, разрэжуць і скінуць у рукі ў пакеце гатовым для спажывання.

Тым не менш на кожным кроку ў Вілемстадзе растуць пальмы, бананы і цвіце бугенвілея. Але каб зразумець прыроду Кюрасаа, варта паехаць у Нацыянальны запаведнік Крыстофельпарк, адкрыты ў 1978 годзе на паўночным захадзе вострава. ▸




GEOGRAPHICALLYYOURS.BLOGSPOT.COM/

**У цэнтры Вілемстада, сталіцы Кюрасаа, стаяць вялікія чырвоныя літары: *DUSHI.*** На пап'яментa гэтае слова мае некалькі значэнняў:
- смачны, вельмі смачны;
- «бэйба», «дзетка»;
- мілы, даражэнькі;
- сэксуальны;
- цудоўны.

Нам, еўрапейцам, запаведнік уяўляецца хутчэй як непралазныя зараснікі, нейкія некранутыя джунглі. На Кюрасаа ўсё наадварот: ад прывезеных раслін тут зберагаюць натуральны ландшафт вострава. Вулканічныя пароды і сціплыя сукуленты — вось сапраўдны краявід Кюрасаа. Абыякавыя да ўсяго ігуаны. І мора вакол, канечне.

А разнастайныя пальмы, высаджаныя на ўзбярэжжы і па ўсёй сталіцы на пацеху турыстам, і нават апельсінавае дрэва, што трапіла на герб Кюрасаа, — прывезеныя ў XVI стагоддзі іспанцамі.

**Сімвал Падветраных астравоў — дрэва дзіві-дзіві** (*Caesalpinia coriaria*), якое ад заўсёдных вятроў з усходу абавязкова нахіленае на захад.

## Завод, які зрабіў Кюрасаа прамысловым гігантам

Калі ў 1863 годзе на Кюрасаа скасавалі рабства, многія рабы ўцяклі на цукровыя плантацыі Кубы. Тыя, што засталіся, аддавалі за права карыстацца зямлёй большую частку свайго ўраджаю арахісу, кукурузы, садавіны.

У 1914 годзе ў Венесуэле знайшлі нафту, а на Кюрасаа брытанска-нідэрландская кампанія *Shell* пабудавала нафтаперапрацоўчы завод, якому спатрэбіліся рабочыя. Некалькі дзесяцігоддзяў эканамічнага росту далі магчымасць задумацца і пра грамадзянскія правы.


Ігуана з Кюрасаа.

WIKIMEDIA COMMONS


SIR-ABCISLANDS.COM

**Бугенвілеі на Кюрасаа** цвітуць круглы год.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY NILAYA

У маі 1969-га выбухнуў пратэст: рабочыя НПЗ патрабавалі ўдзелу ў кіраванні краінай і расавага раўнапраўя. Два пратэстоўцы загінулі, 22 паліцэйскія пацярпелі, аднак рэакцыяй на пратэсты сталі рэформы. Пасля паўстання быў упершыню выбраны цемнаскуры прэм'ер-міністр. Больш аддаленым наступствам паўстання стаў рост нацыянальнай ідэнтычнасці, а яе цэнтральным элементам стала мова пап'ямента.

У цэлым працэс дэкаланізацыі Нідэрландскіх Антыльскіх астравоў ішоў паступова і амаль бяскроўна. Пасля 1960-х Нідэрланды зразумелі, што пара каланіяльных адносін мінула і трэба будаваць адносіны на іншых асновах.

Энергетычныя крызісы 1973 і 1979–1980 гадоў негатыўна адбіліся на галіне, нафтаперапрацоўка на Кюрасаа стала стратнай — і *Shell* прадаў завод мясцоваму ўраду за сімвалічны 1 гульдэн. Гэта быў цяжкі час для краю: абвалілася таксама і эканоміка Венесуэлы, а з ёй упаў турызм, да ўсяго ЗША абнавілі падатковае заканадаўства — прыбыткі ад афшорных фінансавых паслуг зменшыліся.

**Сваіх памерлых жыхары Кюрасаа не закопваюць**: няма ў што, суцэльны камень. Для пахаванняў будуюцца сямейныя крыпты. Цела памерлага замуроўваюць у бетон.

Апошнім часам дзяржава шукае, каму б прадаць стары ▶



CURACAOCHRONICLE.COM

**Вілемстад, 1969 год.**
Рэакцыяй на пратэсты сталі дэмакратычныя рэформы.

нафтавы завод, бо Венесуэла, якая шмат гадоў брала яго ў канцэсію, не выплаціла нават тыя заніжаныя сумы, што мела плаціць паводле кантракта. Аднак з прычыны кепскага ўздзеяння на экалогію рэгулярна ўздымаецца пытанне пра яго мадэрнізацыю ці нават закрыццё. Па дадзеных за 2018 год, Кюрасаа займала другое месца ў свеце па выкідах вуглякіслага газу ў атмасферу — і прычына менавіта ў нафтаперапрацоўцы.

## *Shell* прадаў завод мясцоваму ўраду за сімвалічны 1 гульдэн

Згубіць 8% ВУП, якія дае нафтаперапрацоўка, — вельмі страшна. Аднак на парадак большую долю бюджэту прыносіць турызм. Дакладней, прыносіў. Да пандэміі каранавіруса тут зараблялі цалкам па-еўрапейску: кіроўца аўтобуса атрымліваў каля 2000 долараў ЗША, прафесар універсітэта — каля 5500 долараў.



WIKIMEDIA COMMONS

**Бэтыка Крус** — лідар незалежніцкага руху на востраве Аруба, дзякуючы смеласці якога Нідэрландскія Антыльскія астравы дабіліся поўнага самакіравання.

### І выбіраюць у Еўрапарламент

Нягледзячы на пратэсты 1969 года, краіна і сёння застаецца часткай Каралеўства Нідэрланды. Але востраў мае ўласны парламент з 21 прадстаўніка і ўласнага прэм'ер-міністра.

Кюрасаа мае досыць шырокую аўтаномію. Яе грамадзяне галасуюць на выбарах у Еўрапарламент, краіна бярэ ўдзел у інвестыцыйных праграмах Еўрасаюза, студэнты могуць удзельнічаць у праграме акадэмічных абменаў *Erasmus*. Але калі спытаць у мясцовага, чаму краіна не ўводзіць еўра, той здзіўлена ўздыме бровы: навошта? Нідэрландам аддалі пытанні замежнай палітыкі і абароны, іх меркаванне ўлічваецца пры планаванні бюджэту, але за правы самім кіраваць краінай было заплачана досыць дорага, і яго цэняць.

### Уезд па Шэнгенскай візе

Каб паляцець на Кюрасаа, не патрэбна асобная віза, дастаткова турыстычнага шэнгену.

Самы танны маршрут на Кюрасаа — праз Амстэрдам.

Самы танны абед на адну асобу абыдзецца ў 10 долараў, 50 долараў за ланч тут — самая звычайная цана. Найхутчэй, вам пададуць кавалачак рыбы, курыцы або ялавічыны, а да яго — салату. Практычна нідзе вам не прапануюць да ежы хлеб, на гарнір вы можаце атрымаць гародніну: спаржавую фасолю, бульбу і смажаныя бананы. Свініна тут лічыцца ежай для беднякоў.




Грамадскага транспарту на востраве няма, толькі нешматлікія маршруткі. Пры гэтым турыста заўсёды падвязуць, нават калі для гэтага трэба зрабіць круг і змяніць звыклы для астатніх пасажыраў маршрут.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY DBVIRAGO

**Нафтаперапрацоўчы завод на Кюрасаа** з крыніцы прыбыткаў ператварыўся ў крыніцу галаўнога болю. Венесуэла, якая брала яго ў канцэсію, у апошнія гады стала краінай-банкрутам.



**Пляжы на Кюрасаа паўсюдна платныя**, а там, дзе плаціць не трэба, няма і ахоўных сетак у вадзе — ад акул. Уваход на пляж каштуе каля 3,5 долара, карыстанне парасонам з трыснягу ці шэзлонгам — за асобную плату.

WIKIMEDIA COMMONS



Таіса Андрэева на Кюрасаа.

Кюрасаа — бяспечная краіна. Самы жудасны кашмар для кожнага датычнага да турбізнэсу (а тут усе да яго маюць дачыненне) — калі з турыстам нешта здарыцца. Калі ўласніку турыстычнага аўтобуса паведамілі, што яго кіроўца збіў лэдзі, адзінае, пра што ён марыў, — каб лэдзі была мясцовая. Таксама кепска, але падставаў для хвалявання значна меней.

Па шмат дзён, як правіла, тут не адпачываюць. Турысты з Канады і ЗША звычайна прыплываюць на лайнеры, цешацца з чыстай вады і багатай падводнай фаўны, гуляюць вечар-другі на закрытых вечарынках (з вуліцы іх не ўбачыш, бо ўсё адбываецца ва ўнутраных дворыках за спакойнымі і чапурыстымі галандскімі фасадамі) — і рушаць далей. А кюрасаанцы застаюцца жыць у невялічкіх вілах ля мора, пад ветрам, які тут заўсёды дзьме з усходу. ◆

## Смажаныя бананы

Надта дзіўна бачыць у крамах трапічнай краіны зеленаватыя бананы. Ну ў іх жа ўжо няма неабходнасці зрываць садавіну няспелай, каб давезці праз акіян! Але менавіта зеленаватыя бананы патрэбныя для прыгатавання папулярнага на Кюрасаа гарніру.

У Беларусі смела набывайце для смажання недаспелыя бананы: абавязкова без цёмных плям! Іх трэба нарэзаць на кружкі або авальныя лустачкі таўшчынёй 1–1,5 см.

На патэльні растапіце масла (можна на алеі, але з маслам смачней), пакладзіце бананы і пару хвілін не чапайце, каб утварылася хрусткая скарынка. Пераварочваем — і яшчэ пару хвілін. Пасля ўсяго бананы варта адкінуць на друшляк. Усярэдзіне бананы мусяць застацца мяккімі і вязкімі.

Калі гэта гарнір — падсаліце, калі дэсерт — дадайце мёд, арэхі, рыкоту, марозіва і можна кропельку рому. *Dushi!*



DELONGHI.COM




**Уладзімір Корсак, Юльян Эйсманд і Баляслаў Свентарэцкі** на вясновым паляванні.

# Уладзімір Корсак

## Славуты паляўнічы з Белай Русі

**Некалі пісьменнікі, мастакі, прафесійныя паляўнічыя з Беларусі і Літвы былі ці не найбольш прыкметнымі ў маштабе ўсёй былой Рэчы Паспалітай у апісанні, тэарэтызацыі і мастацкім выяўленні паляўнічай культуры. Самая, відаць, яскравая постаць сярод іх — Уладзімір Корсак. Пра гэтага амаль цалкам забытага на сваёй радзіме паляўнічага, прыродазнаўцу і падарожніка піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

І сам Корсак, і ягоныя біёграфы заўжды падкрэслівалі, што ён нарадзіўся «на Белай Русі», але сёння тэрыторыя яго былога радавога маёнтка А́нінск колішняга Себежскага павета знаходзіцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь, у Расіі. Але Себежская зямля адвеку была арганічнай часткай Полацкага княства, а пасля Вялікага Княства Літоўскага, а род Корсакаў — самым старажытным і вядомым родам полацкіх баяраў.

### Родны дом

1 жніўня 1886 года ў маёнтку Анінск у сям'і Браніслава і Эміліі Корсакаў нарадзіўся Уладзімір Марыян Корсак. Уладанні Корсакаў складаліся ажно з чатырох фальваркаў і каля 6000 гектараў пры іх. Тры чвэрці зямлі былі пад лясамі, так што дзяцінства нашага героя прайшло сярод амаль што першабытнай дзікай прыроды.

У той жа час сядзіба Корсакаў была цэнтрам грамадскага жыцця для ўсяго павета. Як пазней успамінаў сам Уладзімір, «у нашым павеце, які ляжыць на самай мяжы былой Рэчы Паспалітай, зусім не было засцянковай шляхты. Толькі нешматлікія, раскіданыя пасярод пушчаў і багнаў двары, якія моцай і падтрымкай сваёй нацыянальнай прыналежнасці былі абавязаныя перадусім маім

бацькам, асабліва маці. Яе ўплыў, дзякуючы ейнай моцнай асобе, сягаў глыбока ў людскія душы. Бацькі, а потым, за іх прыкладам, і я ніколі не прымалі ў доме царскіхураднікаў. Затое беларус, хоць бы самы найбяднейшы, меў вольны доступ да канцылярыі дома, у якім быў трактаваны як сусед-госць».

Эмілія Корсак, якая паходзіла з яшчэ аднаго вядомага ў тагачаснай Беларусі шляхецкага роду Солтанаў, арганізавала для вясковых дзяўчат ткацкія і кравецкія курсы.

### Юндзіл-паляўнічы

За дзесяць кіламетраў ад сядзібнага дома ў лесе стаяла невялікая хатка, дзе самотна і адасоблена жыў стары, высокі і хударлявы паляўнічы з доўгім тонкім носам, нязменнай пачарнелай люлькай у роце і тыповым літоўскім прозвішчам Юндзіл. Гэта быў былы паўстанец 1863 года, якому Корсакі далі ў сябе прытулак і які жыў з таго, што ўпалюе або збярэ ў лесе.



KRESY24.PL

**Уладзіміру Корсаку крыху больш за год.** 1887 год.

Малы паніч і стары паляўнічы моцна прывязаліся адзін да аднаго. Для старога на схіле жыцця было сапраўднай аддухай расказваць малому пра розныя эпізоды паўстання і вучыць яго распазнаваць сляды, прадказваць надвор'е па прыкметах, разумець норавы звяроў і птушак.

Калі Уладзь паехаў па навуку ў Рыжскую гімназію імператара Мікалая I (ён здаў экзамены адразу ў 3-ці клас), стары Юндзіл доўга не знаходзіў сабе месца — аж пакуль яго аднойчы не знайшлі на колішняй улюбёнай сцежцы нежывым.

На сапраўднае паляванне, з уласнай дубальтоўкай, бацька ўпершыню ўзяў Уладзя яшчэ ў 11-гадовым узросце, а першым ягоным трафеем быў заяц-бяляк. Потым Юндзіл навучыў яго паляваць на глушцоў, а далей паступова прыходзілі чарговыя дасягненні: у 1903-м — першы мядзведзь, у 1904-м — першы лось.

### Гімназіст

У той жа Рызе перад Уладзем вучыліся і старэйшыя дзеці Корсакаў. Сям'я тады не асабліва сябе абмяжоўвала: здымала аж 12-пакаёвую кватэру, дзе часам ладзіліся шумныя баляванні з танцамі аж на 30 пар. А на лета Корсакі заўжды вярталіся ў родны Анінск.

Аднак чым далей крочыў паслярэформенны капіталізм, тым цяжэй было арыстакратам жыць з такім размахам. Таму малодшы Корсак ужо дзяліў невялікую найманую кватэру з маладым Юзафам Вайніловічам з не менш слаўнага роду — таксама вялікім прыхільнікам палявання. Разам яны займаліся спортам (лыжамі, гімнастыкай, плаваннем, джыу-джыцу), разам належалі да напаўпадпольнай скаўцкай арганізацыі. Гэтае сяброўства захавалася ў іх на ўсё жыццё.

Яшчэ ў старэйшых класах гімназіі, у 1904 годзе, Уладзімір Корсак пачаў пісаць паляўнічыя нарысы для часопіса *«Łowiec Polski»* («Польскі паляўнічы»). ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Род Корсакаў** даў полацкай зямлі безліч кашталянаў, падкаморых, гараднічых, падчашых.

**Васіль Дзмітрыевіч Корсак** (каля 1380–1452), самы ранні з вядомых прадстаўнікоў, быў полацкім намеснікам пры вялікім князю Свідрыгайле.

**Рафаіл Корсак** (каля 1595–1640) быў мітрапалітам Уніяцкай царквы ўсёй Рэчы Паспалітай.

У Глыбокім цяпер стаіць бюст мсціслаўскага ваяводы **Язэпа Корсака** (каля 1570–1643), фундатара мясцовых кляштараў кармелітаў і базыльянаў.

Бескампрамісным змаганнем супраць падзелаў Рэчы Паспалітай увайшлі ў гісторыю **Самуэль** і **Тадэвуш Корсакі**. Апошні аддаў жыццё падчас суվораўскай разні ў варшаўскім прадмесці Прага ў 1794 годзе.



KRESY24.PL

**Дом Корсакаў у Анінску.**

▶ І хоць сам ён іх потым цаніў невысока, пэўную ролю ў станаўленні будучага пісьменніка гэтыя першыя пробы пяра такі адыгралі.

### Ад Чэхіі да Гіндукуша

Летам 1908 года, праз два гады пасля заканчэння гімназіі, Уладзімір ездзіў у Варшаву, каб паказаць свае малюнкі вядомаму мастаку Станіславу Ленцу і параіцца, ці не пачаць вучыцца на мастака. Атрымаў такі адказ: «Так, працягвайце вучыцца малюнку, але лепш ніколі не вучыцца ні ад якога прафесіянала. У вас выключна моцнае адчуванне (прыроднага) каларыту, якое пад чужым уплывам можа загінуць».

**«…Працягвайце вучыцца малюнку, але лепш ніколі не вучыцца ні ад якога прафесіянала»**

Паслухаўшыся майстра, у далейшым Корсак сам ілюстраваў свае кнігі, зрабіў, можа, тысячы малюнкаў на паляўнічую і прыродазнаўчую тэматыку. А фармальную адукацыю вырашыў працягваць у чэшскім Табары, у сельскагаспадарчай акадэміі. Планавалася, што пасля менавіта ён будзе кіраваць гаспадаркай у бацькоўскім маёнтку.

Пасля заканчэння вучобы ў 1911 годзе Корсак узяў шлюб з Людвікай Ломан з-пад польскіх Кельцаў, але ён аказаўся нешчаслівы. Маладая жонка была хоць і прыгожай, але халоднай




**Рыжскі дзяржаўны тэхнікум**, колішняя Рыжская гімназія імператара Мікалая I.

і эгаістычнай. Не палепшыла адносін і нараджэнне першынца. Хутка сужонцы зусім аддаліліся адно ад аднаго.

Урэшце Корсак з'ехаў далёка на поўдзень Расійскай імперыі. У 1916–1917 гадах разам з Юзафам Вайніловічам яны палявалі ў гарах Каўказа. Потым з місіяй ад камітэта дапамогі палякам — ахвярам вайны Уладзімір выехаў у Туркестан, дзе ў лагерах ваеннапалонных знаходзілася каля 110 тысяч палякаў з аўстрыйскага




**Малюнак Уладзіміра Корсака** з кнігі «Год паляўнічага».

і германскага войскаў. Паляваў і занатоўваў прыродазнаўчыя ўражанні ў туркменскім Капет-Дагу, на Паміры і Гіндукушы. Разбурылася сям'я, але з новых уражанняў нарадзілася кніга «Да індыйскай мяжы», якая шмат гадоў карысталася ў Польшчы вялікай папулярнасцю.

### Вайсковы геаграфічны інстытут

На радзіму з-за цяжкасцяў, выкліканых Брэсцкім мірам, Корсак здолеў вярнуцца толькі летам 1918 года. Маёнтак ён заспеў ужо канфіскаваным мясцовым саветам. І жыць на руінах колішняга сямейнага шчасця ў Анінску было немагчыма.

Таму праз два месяцы Корсак падаўся на захад, у Варшаву. Тут ён заспеў аднаўленне незалежнасці Польшчы і пачаў працаваць у Вайсковым геаграфічным інстытуце (*WIG*) над выданнем серыі падрабязных штабных картаў. Міжваенныя «вігаўскія» карты добра вядомыя і высока цэняцца сучаснымі краязнаўцамі ды гісторыкамі.

На гэтай працы прыдаліся графічныя здольнасці Корсака і валоданне ім рускай і беларускай мовамі — каб транскрыбіраваць і транслітараваць па-польску

беларускія геаграфічныя назвы. Інстытут нават не адпусціў яго як добраахвотніка ў войска ў крытычныя летнія дні савецка-польскай вайны 1920 года, калі вырашаўся лёс Варшавы. Уладзіміру даводзілася працаваць па 15 гадзін штодзень з абедам на працоўным месцы. Дакладнасць вайсковых картаў слушна лічылася не менш важнай за зброю.

### «Год паляўнічага»

У вольны час яшчэ да вайны Корсак пачаў працаваць над сваёй самай першай і самай вядомай кнігай — «Год паляўнічага» (*«Rok myśliwego»*), якая выйшла ў 1922 годзе і незвычайна палюбілася чытачам. Скампанаваная як паляўнічы каляндар, кніга замілавана, сезон за сезонам, разглядала найбольш традыцыйныя віды палявання, а таксама зброю і паляўнічы рыштунак, паляўнічых сабак, давала парады па арганізацыі іх харчавання і г. д.

«Год паляўнічага» быў прызнаны найлепшым даведнікам па паляванні сярод усіх, выдадзеных дагэтуль па-польску. Прадмову да кнігі напісаў сам Юзаф Вайсэнгоф, прызнаны аўтарытэт сярод пісьменнікаў паляўнічай тэматыкі. А праз некалькі дзесяцігоддзяў нобелеўскі лаўрэат па літаратуры Чэслаў Мілаш, і сам паляўнічы, прызнаваўся, што доўгі час кніга была для яго і ягоных сяброў настольнай, «амаль як Евангелле». Вельмі высока цаніў яе і іншы пісьменнік, наш Мельхіёр Ванькoвіч, ураджэнец цяперашняга Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці.

У наступным годзе, дарэчы, будзе адзначацца 100-гадовы юбілей «Года паляўнічага», і хоць шмат што ў падыходзе да палявання і нават у самой прыродзе за гэты час істотна змянілася, кніга застаецца самым




ONEBID.PL



**Кніга Уладзіміра Корсака «Год паляўнічага»** 1922 года сёння — бібліяграфічная каштоўнасць.

вядомым і знакавым творам жанру з усіх калі-небудзь створаных на прасторах былой Рэчы Паспалітай. На яе старонках аўтар часта прыгадвае *сваю Белую Русь*, настальгічна параўноўваючы яе прыродныя ўмовы і паляўнічыя звычаі з агульнапольскімі. Хочацца выказаць нясмелую мару: убачыць да 100-годдзя эпахальнага твора і яго беларускі пераклад.

### Жыццё наладжваецца

Ганарар за кнігу дазволіў Корсаку наноў уладкаваць сваё сямейнае жыццё: нарэшце юрыдычна развесціся з Людвікай і ўзяць шлюб з Феліцыяй Рыхлоўскай, зямлячкай першай жонкі. Феліцыя паходзіла з сям'і дробнай шляхты і пэўны час была гувернанткай у доме сястры Уладзіміра. Сужонцы пражылі разам у згодзе і каханні да самай смерці Феліцыі, амаль 50 гадоў. Хоць брат з сястрой, ды і іншыя сваякі-арыстакраты, паставіліся да гэтага «мезальянсу» вельмі непрыхільна.

А высокая рэпутацыя, набытая дзякуючы кнізе, дазволіла Корсаку ў 1923 годзе заняць пасаду галоўнага лоўчага Польшчы пры лясным дэпартаменце Міністэрства сельскай гаспадаркі і дзяржаўных маёнткаў.

Прытым, хоць і заняты службай, ён увесь час знаходзіў магчымасць пісаць і выдаваць новыя кнігі. Да пачатку вайны іх выйшла яшчэ дзесяць, не лічачы тых, што засталіся ў рукапісах. Адна з гэтых кніг, «На сцежках прыроды» (*«Na tropach przyrody»*), увайшла ў абавязковую школьную чытанку. І нават па вайне яе вартасць хоцькі-няхоцькі былі вымушаныя прызнаць улады Польскай Народнай Рэспублікі.

### Нечаканы ўдар

Адказнай пасадзе галоўнага лоўчага Корсак аддаваў нямала сілаў, часта бываў у розных паляўнічых гаспадарках і стараўся падвысіць узровень падрыхтоўкі іх персаналу. Але неўзабаве ён зрабіўся ахвярай банальнага «падседжвання».

Вясной 1925 года Корсак паляваў у Белавежскай пушчы разам з міністрам Станіславам Яніцкім і іншым пісьменнікам-паляўнічым, Юліянам Эйсмандам, сваім нібыта прыяцелем. Эйсманд тады надта ўжо ліслівіў, дагаджаючы міністру звыш усялякай меры. ▸



ENCYKLOPEDIA.WIMBP.GORZOW.PL

**Уладзімір Корсак у 1923 годзе** — у росквіце жыццёвых і творчых сіл, адразу пасля выдання «Года паляўнічага», другога шлюбу і прызначэння на высокую пасаду галоўнага лоўчага Польшчы.

▸ Ледзь толькі Корсак вярнуўся з летняга адпачынку — нечакана атрымаў адстаўку: пасаду аддавалі прыяцелю-ліслівцу. І гэта нягледзячы на нядаўнюю высокую ацэнку працы Корсака кваліфікацыйнай камісіяй!

Гэтая гісторыя стала вялікім ударам для Корсака. Перажытае тады нервовае ўзрушэнне справакавала эпілепсію. Прыступы хваробы час ад часу здараліся ў Корсака ўсё далейшае жыццё, але амаль 50 гадоў яму ўдавалася хаваць сваю хваробу, толькі пасля смерці Уладзіміра адпаведнае прызнанне апублікавала ягоная блізкая сяброўка Зоф'я Навакоўская.

### Сяброўская падтрымка

Руку сяброўскай дапамогі Корсаку працягнуў тады стары сябар Юзаф Вайніловіч, які запрасіў яго разам з сям'ёй пажыць да сябе ў Кунцаўшчыну (сучасны Клецкі раён), на самай тагачаснай мяжы Польшчы з СССР. Корсак некалькі разоў гасціў тут да рэвалюцыі 1917 года. Яшчэ падлеткам ён упаляваў у гэтых лясах свайго першага дзіка-адзінца.

Юзафу Вайніловічу засталіся толькі рэшткі колішняй раскошы, бо большая частка ўзорнага дарэвалюцыйнага маёнтка Ксаверыя Вайніловіча, бацькі Юзафа, з цэнтрам у суседніх Макранах, засталася па той бок «рыжскай» мяжы. Цяпер у родавай сядзібе гаспадарылі іншыя людзі і іншая ідэалогія. А Вайніловічу даводзілася жыць толькі з Кунцаўшчыны. І яму яшчэ пашанцавала, бо Корсак згубіў сямейны маёнтак цалкам.

Але жыццё непрадказальнае: наступны прыход бальшавікоў у 1939 годзе сябры перажывуць зусім па-рознаму. Адносна непрыкметны на той момант Корсак праслізне праз сіта класавых рэпрэсій і выжыве, а вось ягоны верны сябар, кваліфікаваны як памешчык, пасля 1940 года загіне недзе ў сібірскіх лагерах.

### Сэндкаў

Пакуль жа жыццё зноў пакрысе наладжвалася. У 1927 годзе Корсаку прапанаваў працу галоўнага лоўчага ў сваіх маёнтках граф Яраслаў Патоцкі. А ягоная латыфундыя мела не 6 тысяч, як былая корсакаўская, а ажно 117 тысяч гектараў зямлі і лесу! Цэнтрам яе былі Хатынічы (сучасны Ганцавіцкі раён).

А ў 1929 годзе Корсака запрасілі на пасаду лоўчага Віленскага ваяводства. Тут ужо яго арганізацыйны талент разгарнуўся на поўную моц. Ён зрабіў з Рудніцкай пушчы ўзорную паляўнічую гаспадарку, а ў 1936-м выступіў з разгорнутым праектам, тады абсалютна наватарскім, ператварэння пушчы ў нацыянальны парк. Корсак пабудаваў там паляўнічую рэзідэнцыю, якую назваў Сэндкаў (*Sendków*) — у гонар палеглага ў тых мясцінах паўстанца 1863 года па прозвішчы Сэндэк.

Ужо ў 1930 годзе ў Сэндкаве ўпершыню пабываў сам прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. І яму тут так спадабалася, што пасля ён штогод разам з жонкай і ад'ютантамі праводзіў у Рудніцкай пушчы два тыдні адпачынку. Следам за прэзідэнтам у пушчу пацягнуліся і іншыя польскія *VIP*-персоны, а таксама іншаземцы.

Сам жа Корсак, дарэчы, стаў усё радзей браць у рукі зброю, бо ўсё менш атрымліваў задавальнення ад забойства жывёл. Стрэльбу ён замяніў на фотаапарат і аловак.

### Ваенныя нягоды

10 гадоў бадай што шчаслівага жыцця на Віленшчыне скончыліся ў верасні 1939 года. Спачатку край адышоў Літве, улетку 1940-га разам з ёй быў далучаны да СССР, а яшчэ праз год сюды прыйшлі нацысты. Ні ў які з новых парадкаў Корсак не ўпісаўся. Ніякай працы ён знайсці не мог, любімае ягонае аматарскае фатаграфаванне было строга забаронена немцамі, і не звар'яцеў паляўнічы толькі таму, што шмат маляваў.

Усю сям'ю тады ўтрымлівала жонка Феліцыя, адкрыўшы ў Вільні маленькую крамку і фактычна кантрабандай прывозячы з ваколіцаў дэфіцытныя прадукты. На пачатку акупацыі нацысты на тры дні арыштавалі яе за спяванне патрыятычнага гімна, а пазней



**Добра захаваныя будынкі былога бровара** 1906 года пабудовы ў Кунцаўшчыне Клецкага раёна — былым уладанні Юзафа Вайніловіча. У пачатку XX стагоддзя гэты бровар быў адным з найбуйнейшых у Мінскай губерні.

ФОТА ДЗМІТРЫЯ КРАМУШЧАНКІ



KRESY24.PL

**У 2014-м у надлясніцтве Кладава ў Любускім ваяводстве адкрыты мемарыяльны музей памяці славутага паляўнічага, г. зв. «Карсакоўка»**, у якім месцяцца ягоныя знакавыя асабістыя рэчы, у тым ліку стрэльбы і фотаапараты, а таксама шматлікія малюнкі.

## «Прыгажосць у лесе»

Дагэтуль не ўсё з літаратурнай спадчыны Уладзіміра Корсака было апублікавана, ляжаць у архівах і мемуары, з якіх мы маглі б даведацца шмат цікавага пра Беларусь. Але сёе-тое марудна вяртаецца да прыхільнікаў прыродазнаўчага пісьменства.

Яшчэ 18 верасня 1935 года ў віленскай газеце «Слова» ў паведамленні пра знаходжанне прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага ў Рудніцкай пушчы, дзе ён упаляваў ляся, анансаваўся хуткі выхад у свет прысвечанай пушчы кнігі Корсака «Прыгажосць у лесе» (*«Piękno w lesie»*), аўтарскія фатаграфіі з якой аздаблялі публікацыю. На жаль, намеры не здзейсніліся, кніга пры жыцці Корсака так і засталася ў рукапісе.

WIMBP.GORZOW.PL

Але зусім нядаўна, 21 лютага 2020 года, у палацы Балінскіх у падвіленскіх Яшунах нарэшце адбылася прэзентацыя гэтай кнігі, якая чакала свайго выдання ажно 85 гадоў! Шкада толькі, што ў Беларусі, якую Корсак цалкам свядома адчуваў і дэклараваў сваёй радзімай, ягонае імя дагэтуль фактычна невядомае. Ды і наша сучасная паляўнічая культура ў вельмі малой ступені мае пераемнасць з даваеннай і дарэвалюцыйнай.

за кантакты з польскім падполлем быў арыштаваны і сам Уладзімір Корсак. У доме ў яго знайшлі тры фотаапараты і 7 тысяч здымкаў. Ён правёў паўгода ў турме на Лукішках, але, на шчасце, пазбегнуў вельмі верагоднага смяротнага пакарання і быў выпушчаны.

## Змаганне за кавалак хлеба

Пасля вайны Корсакі перасяліліся далёка на захад, у велікапольскі горад Гожаў (ля Катавіцаў). Корсак палюбіў гэты горад і стаў мясцовым патрыётам, нефармальным лідарам краязнаўчай і натураліскай грамады. На пэўны час вярнуўся быў да сваёй звыклай працы лоўчага, але ў 1949 годзе, яшчэ ў поўным росквіце сілаў, быў адпраўлены на пенсію як «класава варожы элемент».

Даходы Корсака пасля таго зменшыліся з 1200 да 300 злотых, а адначасова за глыбока каталіцкія перакананні страціла працу настаўніцы і жонка. Таму далейшае жыццё было напоўненае змаганнем за кавалак хлеба і годную адукацыю дзяцей


KRESY24.PL

і ўнукаў. Ратавала толькі тое, што прыродазнаўчыя кнігі Корсака і па вайне нярэдка перавыдаваліся, чаму не стала перашкодай і «няправільнае» класавае паходжанне.

У 1971 годзе ўжо аўдавелы Уладзімір Корсак дажываў свой век у кракаўскім доме састарэлых, пісаў мемуары і вельмі пакутаваў ад адзіноты. Памёр ён 23 верасня 1973 года і быў пахаваны ў Кракаве. Праз дзесяць гадоў парэшткі перапахавалі ў Гожаве, выканаўшы тым самым ягоную апошнюю волю.

Але сапраўднай пераацэнкі асоба Уладзіміра Корсака і маштаб здзейсненага ім дачакаліся толькі ў апошняе дзесяцігоддзе. 23 верасня 2011 года ў Гожаве быў урачыста, у прысутнасці дэлегацый ад 50 паляўнічых таварыстваў Польшчы і мноства іншых важных людзей адкрыты помнік Уладзіміру Корсаку — без стрэльбы і ў зусім невяўнічай позе. Корсак сядзіць на паходнай трынозе, трымаючы ў руках бінокль, а каля яго ног завіхаецца верны сабака. ◆

**Дзікарослая ляшчына** лічыцца багацейшай на вітаміны ў параўнанні з культурным фундуком.



# Лясны арэх

## Ласунак для багатых, ласунак для бедных

**Лясныя арэхі растуць паўсюдна ў Беларусі, але цяпер завозяцца да нас з замежжа і каштуюць вельмі дорага. Чым яны цікавыя, карысныя і чаму да сёння практычна не вырошчваюцца ў нас у прамысловых маштабах, распавядае доктар гісторыі Аляксандр Белы.**

Арэшнік расцвітае рана-рана, яшчэ ў лютым. Спачатку з'яўляюцца мужчынскія суквецці — доўгія (каля 5 см) вісячыя светла-жоўтыя каташкі, з якіх сыплецца дробны пылок. Квітненне працягваецца да красавіка, але жаночыя кветкі распускаюцца толькі калі дзённая тэмпература больш-менш устойліва перавысіць 12° С. Яны застаюцца амаль цалкам схаваныя ўсярэдзіне невялічкіх чырванаватых ці бардова-чырвоных пупышак, выглядваюць толькі малінавыя «вусікі»-рыльцы, і чым больш іх у пучку, тым больш будзе арэхаў у суплоддзях.

Народная батаніка не разумела, што веснавыя каташкі арэшніку, якія з'яўляюцца раней за лісце, — гэта і ёсць кветкі (дакладней, мужчынскія суквецці). Лічылі, што арэхі таксама цвітуць «нармальнымі» кветкамі, але толькі ўначы на Звеставанне ці ў Чысты чацвер. Таму, хто сарве і захавае кветку арэхавага

Вось і выспелі арэхі —
Дачакаліся пары:
Цэлы дзень у гушчары
Чутны крыкі дзетвары.
Нападуць на куст гурбою —
Гнуць сукі ва ўсе бакі.
Досыць дотыку рукі,
Каб пасыпаліся самі
З загарэлымі насамі
З белым донцам лушчакі.

*Ніл Гілевіч*

куста, лягчэй знайсці скарб у Купальскую ноч.

Зрэшты, торбачка арэхаў — таксама вельмі прыемная знаходка: хоць шмат стагоддзяў таму, хоць цяпер. Можа, разумней было б не чакаць цудаў,

а культываваць ляшчыну? Ды ўсё не так проста...

### Авелінаўскі арэх

Нягледзячы на тое, што лясны арэх расце па ўсёй Еўропе і на Блізкім Усходзе, зусім не кожны рэгіён падыходзіць для яго прамысловага вырошчвання. Рэгіён Авеліна ў Кампаны (Італія) мае, відаць, ідэальны для ляшчыны клімат: досыць вільгаці, без моцных маразоў узімку і з не надта гарачым летам. Ён стаў цэнтрам вырошчвання арэхаў і гандлю імі ў такія даўнія часы, што плады атрымалі назву *Auellana nux* — па назве мясцовасці. Геаграфічная прывязка ўвайшла і ў афіцыйную навуковую назву расліны на лаціне: *Corylus avellana*.

Пад такой назвай арэхі згадваюцца ў рахунках кракаўскага двара Ягайлы і Ядвігі ў 1394 годзе. А праз



**Так выглядаюць мужчынскія суквецці ляшчыны —** каташкі.

WIKIMEDIA COMMONS

200 гадоў Мікалай Радзівіл Сіротка ў сваім лацінамоўным апісанні паломніцтва ў Святую зямлю («Перэгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую зямлю», выдадзена ў 1601 годзе) спрабаваў растлумачыць суайчыннікам, як расце банан, выкарыстоўваючы параўнанне з лясным арэхам. Маўляў, бананы «растуць на кустах, як авелінаўскія арэхі».

### З'ясі арэх — памудрэеш

Па ўсёй Еўропе на паселішчах і курганах бронзавага і жалезнага вякоў археолагі знаходзяць шкарлупінне арэхаў — сведчанне таго, што чалавек ацаніў гэты ласунак вельмі даўно. Друіды старажытных кельтаў лічылі ляшчыну ўвасабленнем мудрасці і боскага натхнення.



**А вось гэта — жаночая кветка**, з якой пасля ўтворацца арэхі.

WIKIMEDIA COMMONS

У адной кельцкай казцы дзевяць свяшчэнных лясных арэхаў атачаюць святую сажалку. Дрэвы скідваюць у яе арэхі, якія з'ядае ласось і набывае містычную мудрасць арэха. Колькасць плямаў на баку рыбы паказвае, колькі арэхаў яна з'ела і як шмат мудрасці набыла.

У часы хрысціянства ірландцы працягвалі шанаваць лясны арэх. Паводле іх міфалогіі, востраў Ірландыя падзяляўся на тры часткі, якімі сімвалічна кіравалі тры багі-героі: МакКехт (сын плуга), МакКуіл (сын ляшчыны) і МакГрэйн (сын сонца). Падобным чынам ставіліся да арэху і ў іншых частках Брытанскіх астравоў, некалі спрэс населеных кельтамі. Зараснікі арэшніку часта адпавядалі месцам колішніх паганскіх святыняў.

У Англіі дагэтуль захавалася народнае павер'е, што, загадаўшы жаданне, трэба кінуць у агонь лясны арэх — і тады яно збудзецца. У тым варыянце казкі «Папялушка», што запісалі браты Грым, бацька едзе на кірмаш і пытаецца, што прывезці дачцэ і падчарыцам. Падчарыцы просяць дарагіх ▶



WIKIMEDIA COMMONS

***Corylus avellana.*** З кнігі Ота Вільгельма Тамэ «*Flora von Deutschland, Österreich und der Schweiz*», 1885.

**Ляшчына звычайная**, або **лясны арэх** (*Corylus avellana*) — лістападны куст або дрэва. Звычайная вышыня — 2–5 м, але можа вырасці да 9 м. Расце паўсюдна ў Еўропе, нават у Нарвегіі, за Палярным кругам, а таксама на Каўказе і Блізкім Усходзе. Здаўна культывуецца, больш буйную і ўрадлівую культурную форму ў нас называюць словам турэцкага паходжання «фундук».

сукенак і каштоўных камянёў, а Папялушка — галінку, якая на зваротным шляху першай зачэпіцца за шапку. Прывезеную галінку ляшчыны Папялушка саджае на магіле маці і палівае слязьмі. Вырастае прыгожае дрэва, да якога яна тройчы на дзень прыходзіць плакаць і маліцца. І кожны раз прылятае да дрэва белая птушка, якая скідае Папялушцы тое, што яна просіць.


NASREGION.CZ

**У 1973 годзе была знятая чэшска-нямецкая кінастужка «Тры арэшкі для Папялушкі»** паводле казкі братоў Грым у перакладзе Бажэны Нямцовай. Яе паказвалі і ў Беларусі.



## Арэхавая маланка

Містычнае стаўленне да ляшчыны ўласцівае і беларусам. Як дрэва, якое звязвае зямлю і неба, народная міфалогія надзяляла арэх магічнымі ахоўнымі ўласцівасцямі. Ягонымі галінкамі адганялі нячыстую сілу, змей, хмары. Згодна з павер'ямі, у яго ніколі не б'е маланка. Таму менавіта пад арэхам хаваліся падчас навальніцы, затыкалі за пояс маладыя парасткі ляшчыны. І толькі ў адну летнюю ноч, якую называлі «рабінавай» або «вераб'інай», навальніца нібыта мае моц папсаваць арэхі: яны чарнеюць, нібы згараючы знутры. Пра такія арэхі кажуць: маланка паела.

Такая ноч, калі маланкі палыхалі амаль няспынна, асвятляючы


NYMAG.COM

**Жанчыны збіраюць ураджай арэхаў у Турцыі.** Краіна — сусветны рэкардсмен у зборы таварнага арэху, яе доля ў глабальным зборы — амаль 70% (у 2019 годзе гэта 776 мільёнаў кілаграмаў). Менавіта таму турэцкае слова «фундук» (*findik*) так добра вядомае і ў нас. Доля Італіі — крыху менш за 8% сусветнага рынку, Азербайджана — каля 5%. Далей ідуць ЗША, Чылі, Кітай, Грузія.
У Беларусі першую сучасную прамысловую плантацыю ляснога арэху плошчай каля 50 га заклалі ў 2017 годзе ў ваколіцах вёсак Палачаны і Цюрлі (Маладзечанскі раён). Нягледзячы на тое, што ляшчына расце паўсюдна, марозная зіма або засушлівае лета могуць пакінуць гаспадара без ураджаю, а для прамысловага вырошчвання гэта вялікая праблема.

## Не толькі ласунак

Драўніна арэшніку лічыцца вельмі каштоўнай, але нязначны дыяметр ствала не дазваляе выкарыстоўваць яе шырока. Яна славіцца сваёй трываласцю і гнуткасцю. Шчыльнасць драўніны невялікая, яна лёгкая, ільсняная і дробнаслаістая. А вось па цвёрдасці (40,1–80 МПа) яна стаіць нароўні з букам, дубам, лістоўніцай, рабінай, клёнам. Колер у драўніны белы, з ружаватым адценнем. Усе дробныя сасуды раўнамерна размяркоўваюцца па пласце. Ёсць сэрцападобныя прамяні, але адсутнічае ядро.

Драўніна ляшчыны лёгка паддаецца шліфоўцы, траўленню, афарбоўванню, паліроўцы. Яна добра рэжацца ва ўсіх кірунках, усыхае нязначна. Па ўласцівасцях і выкарыстанні яна чымсьці нагадвае драўніну ядлоўцу, пра які пісалася ў мінулым нумары (3/2021). З яе выразаюць алоўкі, пеналы, шахматы. Яна ўжываецца для разьбяных, такарных і сталярных прац. Ляскі, тронкі нажоў, ручкі долатаў, малаткоў, цыбукі, чаўнакі для станкоў — гэта ўсё можна вырабляць з арэшніку. Менавіта з арэшніку або з грушы рабілі формы для набіванкі.

Тонкія і гнуткія галіны ідуць на пляценне кошыкаў, таўсцейшыя ўжываюцца для вырабу вудзільнаў, абручоў для кошыкаў і рыбалоўных венцераў. З ляшчыны атрымліваюць вельмі якасны драўнінны вугаль, які ўжываецца для вырабу паляўнічага пораху і алоўкаў для малявання. А пілавінне ўжываюць для асвятлення воцату і ачышчэння мутных і грубых вінаў.




Набіванка.

ўсё неба, часам нават без грому, магла здарыцца або ў чэрвені, або «паміж Прачыстымі» (другая палова жніўня — першы тыдзень верасня) — якраз у той час, калі арэхі канчаткова саспяваюць. На ўсходнім Палессі «маўклівую», без грому, маланку называлі «арэхавай». Дарэчы, падобныя вераванні існуюць і ў праваслаўных паўднёвых славян: у балгараў і сербаў, толькі яны датычаць канкрэтна дня Святога Ільі (2 жніўня). Але там і збор арэхаў пачынаецца раней, чым у нас. Калі на ноч напярэдадні гэтага дня выпадзе навальніца, чакаюць, што арэхі будуць чорнымі і пустымі — «спаленымі».

Насамрэч, незвычайна моцныя навальніцы з маланкамі, вядома, не прычына таму, а хутчэй прыкмета: відаць, у той год проста доўга трымалася гарачае і сухое надвор'е — і арэхі не наліліся.




**Венцер** — рыбалоўныя снасці традыцыйна рабілі з арэху.

## «Генеральнае арэхаванне»

З далетапісных часоў 29 жніўня святкуюць народнае свята — арэхавы Спас. Паводле праваслаўнага календара, у гэты дзень цудадзейны плат («убрус»), якім выціраўся Ісус, быў перанесены з сірыйскай Эдэсы ў Канстанцінопаль. Магчыма, раней у гэты дзень адзначалася нейкае паганскае свята, у якім ляшчына і яе арэхі былі адным з галоўных сімвалаў, а Царква імкнулася пераасэнсаваць яго.

Яшчэ адзін прыклад такога сінкрэтызму — зафіксаваная ў цяперашнім Астравецкім раёне легенда, што менавіта ў арэхавым кусце схавалася Марыя з дзіцяткам Ісусам, уцякаючы ад пагоні Ірада. Галінкі арэха нахіліліся і схавалі іх за сваім лісцем.

Самыя першыя арэхі, як і першыя боханы хлеба са збожжа новага ўраджаю, у гэты дзень асвячалі ў царкве. А потым пачынаўся іх масавы збор. На Палессі, дзе збор арэхаў, як і іншых дзікарослых пладоў ды грыбоў, меў асабліва важнае значэнне, на яго выходзілі цэлымі вёскамі. У нататках этнографа Часлава Пяткевіча гэты звычай называецца «генеральнае арэхаванне»:

«На досвітку ўжо ўсе ідуць у лес, нягледзячы на характар надвор'я. Збіраюць у палатняныя торбы, павешаныя цераз плячо на правы бок; тонкія ствалы прыгінаюць, прытрымліваючы левай рукой, правай шчыплюць арэхі, на таўсцейшыя ўзлазяць дзеці аж да вярхоў і звешваюцца на іх, прыгінаючы да зямлі. Так адны трымаюць нахіленую ляшчыну, а другія абіраюць яе».

## «Лузгуны»

Вось як успамінае збор арэхаў у сваім дзяцінстве мая мама, Валянціна, з 1940–1950-х гадоў (Лепельскі раён). У раннім верасні дзеці бралі з сабой мяхі з нашытымі на іх лямкамі і адпраўляліся ў арэшнік. Забіраліся на дрэва «як малпы», паводле яе выразу, каб прыгнуць сваёй вагой галіну з арэхамі да зямлі. А потым трымалі яе адной рукой, а другой збіралі арэхі ў мяшок за плячыма.

Дома арэхі падсушвалі і лузалі. Тыя з іх, якія лузаліся лёгка, так і называліся — «лузгуны». Пазней, калі ўжо аблятала з арэшніку і лісце, і апошнія арэхі, ішлі збіраць з зямлі, з-пад лісця тое, што засталося. Запомнілася, што сяброўка Глаша была неяк асабліва спрытнай у гэтым дзіцячым промысле, заўжды знаходзіла нашмат болей за астатніх.

Арэхі асабліва не ашчаджалі, бо яны хутка псуюцца, а сяляне, відаць, не ведалі ані спосабаў доўгага захоўвання, ані рэцэптаў страў, дзе яны неабходныя. Толькі на поўдні краю часам іх сушылі ў печы і захоўвалі разам з семкамі сланечніку, а ўзімку сыпалі ў торбы дзеткам-калядоўшчыкам. Арэхі маглі быць святочнымі падарункамі, іх выкарыстоўвалі ў дзіцячых гульнях. Часам маглі выступаць у дробных разліках як сурагат грошай. Нават у канцы XX стагоддзя арэхі яшчэ дзе-нідзе лічылі на «копы» (60 штук).

У больш заможных і адукаваных сем'ях, асабліва далей на захад, на Віленшчыне, арэхі дадавалі ў калядную куццю і выкарыстоўвалі для пасыпкі святочнай выпечкі. Шляхта і мяшчане пераймалі заходнюю традыцыю запякаць асобныя арэхі (як і міндаль) у святочным торце на свята Трох Каралёў або ў пончыках на Тлусты чацвер. Той, каму трапіўся такі арэшак, спадзяваўся мець шчасце ў новым годзе.

## Бліны з ляснымі арэхамі

Рэцэпт фальварка «Лазенкі»




- 2 шклянкі мукі
- 2 яйкі
- 1–1,5 шклянкі малака
- 2 ст. лыжкі масла
- 1 ст. лыжка лясных арэхаў
- цынамон
- соль
- 1 ч. лыжка мёду
- пярга*

У глыбокую місу засыпаць 2 шклянкі мукі, разбіць два яйкі і заліць малако. Усё перамяшаць, каб не было камочкаў цеста. Дадаць 1 чайную лыжачку мёду, менш за палову лыжачкі пяргі (дадае вітаміны і прыемную кіслінку), на кончыку лыжачкі солі і на кончыку нажа — цынамону, а каб блінчыкі былі надзвычай далікатнымі, дадаць дзве лыжкі расплаўленага масла. Зноў усё перамешаць, дадаючы малако, каб пералівалася свабодна, як кефір (не смятана). Потым дадаць сталовую лыжку раструшчаных лясных арэхаў. Атрыманую сумесь яшчэ раз добра перамяшаць. Смажыць блінчыкі можна на алеі альбо сметанковым масле. Каб яны даўжэй заставаліся мяккімі і сакавітымі, перамазаць кожны сметанковым маслам. Падаць з настоенай на зёлках гарбатай і мёдам.

### Захоўванне арэхаў

паводле «Літоўскай гаспадыні»

**Першы спосаб.** У канцы верасня сабраныя арэхі належыць трохі падсушыць у цені на вольным паветры і ўсыпаць у бутлю. Добра яе закаркаваць, асмаліць ці прынамсі абвязаць пузыром і паставіць у сухі склеп.

**Другі спосаб.** Гэтак жа падсушаныя арэхі перасыпаюць у гаршках самым сухім пяском. Захоўваюць іх у гаршках і без пяску — на паветры, пад дахам, але абавязкова хутка расходуюць.

**Трэці спосаб.** Прасушаныя ў цені арэхі насыпаюць у мяшэчкі, а потым кладуць у жыта ў засеках альбо ў ямкі, дзе сяляне трымаюць жыта.

**Чацвёрты спосаб.** Арэхі сушаць у цёплай печы пасля хлеба адзін ці два разы, а потым ставяць у мяшэчках у сухое месца. Калі з'явіцца сырасць, зноў падсушваюць іх у печы.

### «Канчур загаліўся — дзеўкам палюбіўся»

У моцным, гнуткім арэхавым кусце, які дае адразу шмат пладоў, часта здвоеных, людзям аддаўна бачыўся мужчына. Па падвойных арэхах-спарышах беларускія дзяўчаты даўней гадалі пра будучае замужжа. Калі першым падчас збору арэхаў трапляўся спарыш, у якім абодва арэхі былі з паўнавартаснымі ядрамі, гэта абяцала моцную, дружную сям'ю. А каб першым нарадзіўся менавіта хлопчык, маладая клала арэхі пад ложак.

Загадкі пра арэх і арэшнік, як правіла, маюць падкрэслена эратычны характар (*«Рос-рос, вырас, са штаноў вылез. Канчур загаліўся, дзеўкам палюбіўся»*). Старадаўняя народная гульня «Яшчур» таксама насычана відавочным шлюбна-эратычным зместам:

Сядзіць-сядзіць Яшчур
У арэхавым кусце:
Арэшкі лушчыць,
Вочкамі плюшчыць,
Жаніцца хоча.

Выкарыстоўваўся арэх і ў вытворчай магіі. Яго падкладалі ў насенне, давалі авечкам на Юр'еў дзень, рассыпалі па хаце на Каляды. Часам арэхі-спарышы насілі ў гаманцы — для падваення грошай. На Віленшчыне, прынамсі

ў былым Дзісненскім павеце, адзін-два кусты ляшчыны саджалі звычайна ля хлява, дзесьці і каля дому. Лічылі, што яе вельмі не любяць камары, і гэтак баранілі і жывёлу, і людзей.

**Каб першым нарадзіўся хлопчык, маладая клала арэхі пад ложак**

У народным метэаралагічным кодзе арэху адпавядае вецер. Народная прыкмета: калі на Каляды або Новы год будзе вецер, то налета будзе багата арэхаў. Іншыя прыкметы звязваюць добры ўраджай арэхаў таксама і са снегам.

### Звышкаларыйны — і карысны

Арэхі ляшчыны — вельмі каштоўны прадукт. Каларыйнасць ляшчыны ў 2 разы вышэйшая за каларыйнасць пшаніцы, у 3 разы — маку і ў 8 разоў — малака, але ў ёй зусім няма халестэрыну, таму гэта выдатная крыніца энергіі, якая абараняе нервовую сістэму ад стрэсаў і напружання. У арэхах высокае ўтрыманне вітамінаў B1, B2 і асабліва вітаміну E, іх рэгулярнае ўжыванне змяншае рызыку хвароб сэрца. Сутачная норма каля 40 г лічыцца вельмі карысным дадаткам да дыеты.

Навуковая медыцына рэкамендуе адвар з кары пры пашыраных венах, перыфлебітах, капілярных гемарагіях, адвар з кары і лісця — пры гіпертрафіі прастаты.

У народнай медыцыне есці арэхі раяць пры недахопе жаночага малака: 30–40 г арэхаў у суткі адразу ж падвышаюць лактацыю, але трэба памятаць, што арэхі — даволі моцны алерген. Спелыя арэхі ляшчыны лічацца добрым сродкам пры камянях у нырках і жоўцевых шляхах, гіпертаніі, атэрасклерозе. За алеем і карой ляшчыны заўважылі сасудазвужальнае дзеянне. Калі вы шмат працуеце седзячы і маеце праблемы з перыстальтыкай або пакутуеце на гемарой, паспрабуйце скарыстацца такім народным сродкам: запарце паловай літра кіпню 2 сталовыя лыжкі сухіх лістоў і шалупіння ляшчыны, пакіньце на ноч, а назаўтра выпіце за тры разы за 10–15 хвілін да ежы. Лісце ляшчыны раяць збіраць у чэрвені. ◆

## Лясны арэх

✔ Без халестэрыну
✔ Без солі

Вітаміны E, B1, B2, PP, калій, магній, фосфар і вельмі шмат жалеза.

У 100 грамах лясных арэхаў утрымліваецца:

- 13–16 г бялкоў
- 3,5–9 г вугляводаў
- 65 г тлушчаў
- 628,3 ккал

DEPOSITPHOTOS.COM, BY RASSELBOR

## «Мужчынскасць не па гадах, годнасць у вачох...»

Гэтае фота знайшоў полацкі этнолаг **Уладзімір Лобач**. На фота сябрукі з вёскі Мётлы Мёрскага раёна, пачатак 1950-х.

«Мяне ўразіла суворасць, мужчынскасць, сталасць не па гадах гэтых хлопцаў, што перажылі вайну і акупацыю, паваенную галадоўку, а пра жыльную працу на зямлі ведалі не з кніжак, але з уласнага мазаля. І годнасць! Непадробная годнасць у вачох...» — піша Уладзімір Лобач.

«У адрозненне ад цяперашняй лічбы, якой напстрыкаць можна тысячу ў дзень, старая “картачка” — заўсёды пра падзею, заўсёды памятная і ніколі не ёсць выпадковай».

А вы захоўваеце старыя фоты?



## Крупнік Генюш, «катаржная праца» Караткевіча і «тюльпаны» з Батанічнага

Паэт **Міхась Скобла** ў сябе ў Фэйсбуку згадвае, як у другой палове 1960-х у Мінску выдаваўся першы зборнік Ларысы Генюш (артыкул Андрэя Скурко пра яе друкаваўся ў № 10/2020 «Нашай гісторыі»):

«На кнізе Ларысы Генюш “Невадам з Нёмана” выдавецкім рэдактарам значыцца Анатоль Кудравец. Неяк пацікавіўшыся ў Анатоля Паўлавіча, як ён рэдагаваў тую кнігу, пачуў у адказ: “У выдавецтва яе прынёс Максім Танк — проста з ЦК КПБ — і сказаў, што ўсё ўжо адрэдагавана. І я там не паправіў ніводнага слова”. А перад ЦК машынапіс “Невадам з Нёмана” пабываў ва Уладзіміра Караткевіча — яму выпала быць гэтак званым грамадскім рэдактарам. Ён і зрабіў прыкладна 90% правак (астатнія 10, пераважна скароты цэлых строфаў, належаць цэнзару — на вуліцы быў 1966 год).

Цікава, што, калі той жа Танк перадаў Караткевічу будучую кнігу, яна яшчэ не мела назвы. І грамадскі рэдактар чорным атрамантам упэўнена накрэсліў пасярод старонкі — “Айчына”. Але Ларыса Генюш чамусьці такі варыянт не ўпадабала і прапанавала свае — на выбар: “Льняное прадзіва”, “Мы — беларусы”, “Клёкат бусліны”, “З кахання і веры”, “Насуперак долі”, “Вытканае з зарніц”, “Невадам з Нёмана”... Аддамо належнае густу рэдактара — ён выбраў адзін з найлепшых варыянтаў.

**Ларыса Антонаўна на развітанне пачаставала Караткевіча крупнікам — хмельным напоем, які гатавала сама паводле адмысловага рэцэпта**

Дзеля ўзгаднення правак Караткевіч прыязджаў у Зэльву і жыў там цэлы тыдзень. Ларыса Антонаўна на развітанне пачаставала Караткевіча крупнікам — хмельным напоем, які гатавала сама паводле адмысловага рэцэпта. Магчыма, рэдактар разлічваў на больш

### Апошнія верталёты

«У таймырскай тундры памірае самы паўночны народ нашага кантынента. Нганасан развучылі жыць» — незвычайны рэпартаж апублікавала расійская «Новая газета». На яго можна перайсці па к'юар-кодзе.





ФОТА ЮРЫЙ КОЗЫРАЎ, «НОВАЯ ГАЗЕТА»

шчодрыя пачастункі за сваю, як ён сам выказаўся, “катаржную працу”. Паэтка, якая ў Комі АССР кіркавала вечную мерзлату, катаржную працу разумела па-свойму. Яна не на жарты засердавала...

У Менску Караткевіч зразумеў, што ляпнуў лішняе, і напісаў у Зэльву прабачальны ліст. А потым, жадаючы як найхутчэй загладзіць сваю віну, адшукаў у Батанічным садзе насенне “туліпанаў” рэдкага гатунку і паслаў паэтцы, чый кветнік быў найлепшы ў Зэльве...»

## Беларуская лацінка на помніку савецкага часу

«Вось такі ўнікальны помнік ахвярам нямецка-савецкай вайны стаіць на могілках у вёсцы Шалціны каля Друі. Падпісаны беларускай лацінкай, з заклікам да Бога аб вечным супакоі для душ палеглых — і гэта ў 1965 годзе!» — піша краязнавец з Параф’янава Докшыцкага раёна **Кастусь Шыталь** на сваёй старонцы ў Фэйсбуку пад здымкам, зробленым каталіцкім святаром **Сяргеем Сурыновічам**.






«Мама і сын. Маці пражыла 73 гады, смерць заспела яе ў адзін дзень з мужам. Сына арыштавалі, але вызвалілі праз 2 гады, бо ў яго быў цыроз печані, выкліканы алкагалізмам. Памёр ён у 45 гадоў. **Алена і Ніку Чаўшэску**», — піша ў сябе ў Фэйсбуку **Аляксей Знаткевіч** пра сумную гісторыю жыцця плэйбоя і камсамольскага важака.

У міжваенны час Шалціны былі асяродкам беларускага руху: там быў гурток Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, там вясковая моладзь вяла асветніцкую дзейнасць, святкавала 25 Сакавіка, а палякі раздражнёна называлі Шалціны “*twierdzą białoruskości*” (“крэпасцю беларускасці”)».

Краязнавец з Мёраў **Вітольд Ермалёнак** да гэтага дадае:

«Шалціны заўсёды славіліся сваім супраціўам савецкай уладзе. У самы росквіт атэізму ў 1966 годзе Аляхновіч Гэлена паставіла магутны бетонны крыж ля вёскі Стайкі побач з Шалцінамі, і яго ўлады не знеслі. А да ўстаноўкі памятнага знака мелі дачыненне Антон Пупін, які вучыўся ў Друйскай гімназіі, а пасля вайны працаваў настаўнікам, сябар дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху Яўгена Аніські Людвіг Марцілёнак ды іншыя».

У каментарах адгукнулася ўнучка апошняга са згаданых дзеячаў **Людміла Нарушэвіч**, якая адзначыла: «Ганаруся сваім дзядулем, Марцілёнкам Людвігам, які быў сапраўдным беларусам. Помнік усталявалі ў памяць мясцовых людзей, якія не вярнуліся з вайны. Дзядуля памёр у 2003 годзе. Ён шмат чаго распавядаў, шмат што ведаў. Але, на жаль, я не вельмі тады цікавілася гісторыяй. Добра памятаю, што ў 80-х гадах я яму дапамагала капліцу рабіць на могілках у Шалцінах, мне было гадоў 10–12... Перыядычна перачытваю перапіску майго дзядулі і Яўгена Аніські. Вельмі прыгожая і мілагучная беларуская мова». ◆





































**Пачынаючы з сакавіка 2021-га мы два дні на месяц прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на nn.by і ў тэлеграме @nashaniva**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях, гіпермаркетах, а таксама ў шапіках «Белдрука» Магілёўскай вобласці. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, kniger.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.